**Стольны град.** Наваградскі літаратурны альманах. № 1. На беларускай мове. 2018. 172 с.

Укладальнік: Святлана Абдулаева.
Рэдактар: Станіслаў Суднік.
Карэктар: Васіль Кузьміч.
Тэхнічны рэдактар:
Дызайн вокладкі:

У зборнік увайшлі творы наваградскіх літаратараў і творы пра Наваградак.

# Тут Міцкевіча ліра гучыць

Навагрудчына - гэта край, дзе ў свой час адбыліся знакавыя падзеі, што сталіся яркай вяхой у нашай гісторыі. Тут нарадзілася і мацнела Вялікае Княства Літоўскае; тут напісаны радкі Лаўрышаўскага Евангелля - рукапіснага помніка першай паловы XIV стагоддзя, якое несла ў тутэйшыя землі святло хрысціянства; тут у Шчорсах існавала з другой паловы XVIII стагоддзя да пачатку XX стагоддзя славутая на ўсю Еўропу бібліятэка, заснаваная магнатам Іахімам Храптовічам. У нашы дні праходзіць свята сярэднявечнай культуры "Навагрудскі фэст", які мае статус міжнароднага.

Бадай, кожны, хто бываў у Навагрудку, скарыстаў нагоду, каб ад цэнтра пехам прайсці на Замкавую гару. Яна непаўторная ў сваёй веліччы і красе ў любую пару года, але асабліва ўлетку. З яе вышыні адкрываюцца далячыні, якія клічуць і вабяць сваёй загадкавасцю, бо тут некалі тварылася наша гісторыя. Пра яе, як нямыя сведкі, нагадваюць фрагменты дзвюх вежаў, якія захаваліся ад замка - абарончага збудавання XI-XVIII стагоддзяў. Яны ўспрымаюцца сёння як сімвалы магутнасці сярэднявечнай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага са сталіцай у Навагрудку. Уяўляецца, быццам побач з табой знаходзіцца далёкая мінуўшчына.

Як сведчыць гісторык Іван Саверчанка, Вялікае Княства Літоўскае "…пачало складвацца ў XIII стагоддзі на эканамічным і культурным грунце старажытных славянскіх княстваў у выніку збірання Новагародкам (Навагрудкам. - *В.К.*) вакол сябе суседніх земляў, у тым

ліку і тых, што засялялі ліцвіны, латгалы, яцвягі і інш." ("Беларускі гістарычны часопіс", № 2, 1993). Новагародак на працягу ўсяго XIII ст. няспынна імкнуўся да пашырэння сваіх межаў. Пачатак паклаў князь Міндоўг. Яго сын Войшалк паспяхова працягваў справу бацькі.

Дамінуючую ролю ў Навагародскай дзяржаве адыгрываў славянскі этнас. Літоўцы ж паступова асіміляваліся, з часам наогул растварыліся сярод славянскага элемента. Ад літоўскага племені толькі засталася назва моцнай славянскай дзяржавы.

Адметна, што побач з Замкавай гарой высіцца Курган Бессмяротнасці, насыпаны ўдзячнымі нашчадкамі ў першай палове XX стагоддзя (1924-1931) у гонар паэта Адама Міцкевіча. Менавіта ў Навагрудку, дзе прайшлі яго дзіцячыя і юнацкія гады, у сям'і сфарміраваўся паэтычны талент. Тут Адам зрабіў першыя крокі ў вялікую паэзію, адкрыў для сябе сілу сяброўства і дружбы.

Крыху воддаль - помнік славутаму песняру. Здаецца, ён ступіў з мінуўшчыны да нас, каб паслухаць гамонку землякоў, іх цудоўныя песні і легенды, каб пераканацца, што яго творы, як паэмы "Пан Тадэвуш", "Гражына", балады і санеты, ведаюць і шануюць навагрудчане, высока цэняць яго творчасць, бо ўся яна - гэта своеасаблівы мастацкі гімн рамантызму і гістарызму, вернасці ідэям дружбы і братэрства паміж народамі.

На Навагрудчыне ў фальклорных творах апяваў жыццё народа сябра Адама Ян Чачот. Тут пакінуў сляды ў гісторыка-этнаграфічным даследаванні "Нёман: ад вытокаў да вусця" Уладзіслаў Сыракомля. Свой радок у беларускай літаратуры напісаў Янка Нёманскі (Пятровіч Іван Андрэевіч). Ён аўтар празаічных твораў, у тым ліку рамана "Драпежнікі".

У нашым краі восенню 1909 года ў Беніне кіраваў маёнткам Янка Купала. Ён бываў на кірмашах у Навагрудку, цікавіўся побытам і настроямі тутэйшых людзей. У выніку напісаў шэраг вершаў, якія ўключаны ў зборы яго паэзіі.

Бываў у Навагрудку Якуб Колас. Ён балатаваўся ў дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР па Навагрудскай выбарчай акрузе ў пасляваенны час, сустракаўся з жыхарамі раёна, выступаў перад імі, выказваўся па актуальных пытаннях жыцця народа.

Сцежкамі барацьбы з польскімі ўладамі ў Заходняй Беларусі праходзіў у нашых мясцінах Максім Танк. Падчас нямецка-фашысцкай акупацыі ў падпольнай рабоце ўдзельнічаў Валянцін Таўлай.

Важкую творчую спадчыну пакінуў нам Самсон Пярловіч (зборнікі "Бяссмертнік", выпушчаны ў выдавецтве "Мастацкая літаратура", "Заяц на бярозе" (сатыра і гумар), "Чарадзейны агонь"). Яго

муза прайшла суровыя выпрабаванні ў сталінскіх лагерах, але натхнялася перш за ўсё шчырай любоўю да Беларусі, да роднай матчынай мовы.

Ужо ў сталыя гады выдаў у навагрудскай друкарні зборнік паэзіі "Познія кветкі" Уладзімір Сіўко з Любчы. У яго вершах рознай тэматыкі пераважае матыў унутранай свабоды і права на ўласную думку, асобныя кранаюць мяккім лірызмам.

Пасмяротна выдадзены зборнік паэзіі "Наднёманскі роздум" Янкі Паддубіцкага са Шчорсаў. Здаецца, сваім чуйным талентам ён падслухаў гамонку бацькі-Нёмана - матывы любові да мінулага і сённяшняга дня роднай зямлі, пачуцці замілаванасці - галоўнае ў вершах паэта. Трапным гумарам працята яго невялікая паэма "Добры Якаў".

Некалькі зборнікаў у мясцовай друкарні выпусціў Аркадзь Шынтар з Сяцевіна. Ён вельмі любіў літаратуру, асабліва паэзію, але, на жаль, рана пайшоў ад нас.

Тэма так званых малых паселішчаў, дзе паволі згасае сацыяльна-культурнае жыццё, - асноўная ў вершах Міколы Сільвановіча. У многіх радках шчымліва-ўзрушаная скруха, у якой настальгія па мінулай вёсцы, багатай на вяселлі і дзіцячыя галасы.

Хораша разгарнуў свой талент Міхась Зізюк. У яго творчым багажы пад дзясятак зборнікаў прозы, выпушчаных у розных выдавецтвах, у тым ліку аповесць "Храм душы". Ён выявіў сябе майстрам сюжэтна-кампазіцыйных ліній, у якіх заўсёды б'ецца-пульсуе жыццё ва ўсёй яго складанасці і супярэчнасці.

Тры паэтычныя зборнікі на творчым рахунку Святланы Абдулаевай. Яна тонка і востра бачыць самыя розныя праявы будзённага жыцця, умее ўвасобіць свае перажыванні ў экспрэсіях, у вобразна-мастацкім слове, узбагаціць яго сэнсава-эстэтычнае гучанне асацыяцыямі і падтэкстам.

Не так даўно прэзентаваў зборнік паэзіі з адмысловай назвай "Іду на Парнас" Алесь Гоцка. Са школьных гадоў ён захапляецца паэзіяй і беларускай літаратурай увогуле. У яго вершах складаны духоўны свет аўтара, які імкнецца ў мастацкім слове асэнсаваць праблемы, што хвалююць чалавека ў паўсядзённым жыцці, і сувязі з грамадствам і прыродай.

Аналітычна-светлая паэзія Уладзіміра Бармуты. Яму ўласціва тонкая назіральнасць і чуйнасць да слова і яго лексічна-стылёвых глыбіняў. Метафарычна-асацыятыўныя радкі асвяжаюць вершы Дзмітрыя Арцюха, які са школьнай парты захапіўся літаратурай. Свае адметнасці, што вынікаюць з своеасаблівага шматфарбнага бачання розных з'яў жыцця, мае жаночая паэзія Марыі Быт. Па-свойму - праз

нестандартнае ўспрыманне рэчаіснасці - імкнецца выявіць творчыя інтэнцыі ў слове Уладзімір Гайдук…

Неблагія творчыя набыткі маюць навагрудчане Яўген Лецка, Таіса Супрановіч, Раіса Крывальцэвіч, якія цяпер жывуць у Мінску. Гэта аповесці, апавяданні, абразкі, якія выдадзены ў фармаце зборнікаў. Яны ёсць у раённай бібліятэцы.

Напрыканцы снежня спаўняецца 220 гадоў з дня нараджэння Адама Міцкевіча. Плануюцца юбілейныя мерапрыемствы. Ва ўсю моц на Навагрудчыне, малой радзіме, загучаць паэтычныя творы песняра. Мяркуецца, што пройдзе літаратурны конкурс, прысвечаны юбілейным угодкам.

* * *

Гэтыя кароткія нататкі не прэтэндуюць на поўны агляд літаратурнай творчасці на Навагрудчыне.

***Васіль Кузьміч.***



# *Геній ліцвінскай літаратуры*

## *Адам Міцкевіч*

**Успамін**

Санет

Лаура! Ты ці помніш нашы святы,
Калі ў мроях маладых ляцелі
І дбаць пра свет чужы нам не хацелі,
Адно сабою мы былі заняты.

Згадай язміну халадок зацяты,
Ручай з зялёнай лугавой купелі.
Свае жаданні мы пачуць хацелі,
І асланялі нас начныя шаты.

А маладзік з-за воблачка здалёку
І грудзі снежныя й пярсцёнкі лашчыў.
Твая краса дарыла боскасць зроку.

І сэрца рвалася, як з цёмных гашчаў.
Смялелі вусны, вока нікла ў воку,
Сляза слязу і ўздых абнашчваў.

## Да Нёмана
*Санет*

Нёмне, рэчка мая радаводная, дзе
Тыя воды, што браў я ў маленстве ў далоні,
Па якіх потым плыў у самотным палоне
Сэрца ахаладзіць, што зайшлося ў нудзе?

Цень красы тут Лаура сачыла ў вадзе,
Валасы заплятала і ўквечвала скроні,
Вобраз вабны яе ў срэбных хваляў на ўлонні
Я слязамі ў запале муціў у жудзе.

Радаводная рэчка мая, дзе твае
Маладыя крыніцы, што білі няспынна,
Дзе нявінных гадоў навіна і правіна?

Дзе бунтоўнасць, якой мне цяпер не стае?
Дзе Лаура мая? Дзе былая сябрына?..
Знікла ўсё, што ж не высахлі слёзы мае!

## Паэзія!
## Дзе чарадзейны пэндзаль твой?

Паэзія! Дзе чарадзейны пэндзаль твой?
Ледзь маляваць пачну, што ж думкі і трывога
Глядзяць са словаў, як пакутнікі з астрога,
Што ўбога ўсцешылі душу чужой красой?

Паэзія! Дзе меладычны твой настрой?
Мяне не чуеш, хоць і ўзношу спеў, нябога,
Як салавей, кароль напеваў, гаманкога
Не чуе ручая, што енчыць пад зямлёй.

Не толькі гук і ўзор, і подумкі анёла,
Але й пяро, што парабкуе на паэта,
На цаліку не знае праў былога пана.

Не песню, знакі крэсліць невясёла,
Як сны мелодыі… ды толькі песня гэта
Нідзе не будзе мілым голасам спявана.

## Як перад бураю

Як перад бураю злой пералётныя птахі,
Уцякаючы, смутак вядуць за сабою,
Не віні іх у здрадзе! Бо кожнай вясною
У адзін бок скіруюцца крылаў узмахі.

Як пачуеш іх голас, выгнанца прыгадвай.
Колькі раз пасля буры надзея засвеціць,
Столькі раз дух ягоны, ўскрылёны спагадай,
Зноў на поўнач ляціць, край бацькоўскі прывеціць.

*Пераклад на беларускую мову Рыгора Барадуліна.*

## Песня жаўнера

Не магу заснуць я дома,
Да цябе дазволь прыбіцца,
На шляху - мой дом, вядома,
Па дарозе ж пошта мчыцца.

Як труба ўначы заграе,
Сэрца рве мне тое гранне,
Быццам зноў “на конь” збірае,
Не засну тады да рання.

Як заплюшчу толькі вочы -
Тыя коні, сцягі тыя,
Ноч палае і грукоча,
Рвуцца песні баявыя.

І чуцён, нібы з далечы,
Голас нашага капрала,
Руку мне кладзе на плечы:
“Устань і рушма на маскаля!”

Я ўстаю, аж я ў чужыне...
Як там лепей у балоце,
Лепш у голадзе і слоце,
Толькі ж дома, між сваімі.

Я той ноччу не заснуў бы,
А чакаў бы на капрала,
Каб ён зноў мне ў плечы грукнуў
З крыкам: “Рушма на маскаля!”

*Пераклад на беларускую мову Станіслава Судніка.*



# *Самсон Пярловіч*

**Ён марыў жыць…**

Аднойчы вельмі даўно мне трапілі на вочы вершаваныя радкі С.Кавалёва:// Ён марыў жыць сярод бяроз, а над магілай - кіпарысы… У смерці крымскія абрысы - так жорстка расквітаўся лёс…// Аўтарам не было пазначана, каму было зроблена гэтае прысвячэнне, але я мяркую, што хутчэй за ўсё - Максіму Багдановічу. І вось, узгадваючы пра Самсона Пярловіча, гэты верш мне прыходзіць міжвольна на памяць, бо ўся драма жыцця аднаго паэта як бы пераклікаецца з драмай другога. І тым сувязным звяном стаў паміж імі жорскі лёс…

Нарадзіўшыся ў гарачым жніўні 1923 г. будучы паэт меў далёкае ад раскошы дзяцінства. Не давялося марыць і пра шчаслівыя дні ў юнацкім узросце - вайна перакрэсліла ўсе спадзяванні і задумкі. Нямала прыйшлося пераражыць і ў пасляваенныя гады - замест плённай працы і вольнай долі, аб якой так марыў малады хлапец падчас акупацыйнага рэжыму, - зняволенне ў турэмных засценках і катаржныя работы. І нават ужо у больш спакойны савецкі час у яго была,

здавалася б, такая маленькая і блізкая мара - мець свой маленькі пакойчык, дзе ён мог бы займацца творчасцю. На жаль, лёс і тут з ім толькі падражніўся. Такую магчымасць ён атрымаў дзякуючы заводу газавай апаратуры, але потым рэчаіснасць усё перакрэсліла ў адзін момант. Яго нярэдка можна было ўбачыць на рынку. І гэта правакавала на розныя плёткі - чаму паэт гандлюе нейкімі жалязякамі і сваімі кніжкамі. Але не многія ведалі, што ён вымушаны быў зарабляць любым чынам грошы, каб аддаць даўгі за тую аперацыю, якую зрабілі яго дачцэ ў Германіі. Ён марыў аб ціхім сямейным жыцці, а вымушаны быў пад старасць гадоў бадзяцца зімовымі сцюжамі па заснежаных вуліцах. І нямала нашых гараджан задавалася пытаннем, чаму гэтаму сталаму чалавеку не сядзіцца ў хаце ў такую непагадзь? А на самай справе - самая страшная была ў яго "непагадзь у сямейнай атмасферы". І на вуліцы нават у вялікія снегапады і маразы яму было камфортней, чым дома. У маёй памяці ён так і застаўся з расшпіленым футрам на верхнія гузікі і старэнькім сакваяжам у руках. З сакваяжам, дзе ляжалі на паперы яго думкі, спадзяванні, вобразы, ягоны боль. І нават на фінішы жыцця жорсткі лёс не даў ажыццявіцца апошняй мары Самсона Пярловіча. Ён пайшоў з жыцця ў снежаньскі дзень і сціпла быў пахаваны на наваградскіх могілках. І многія ягоныя сябры, прыхільнікі і, наогул, навагradчане, у тым ліку і аўтар гэтай публікацыі, даведаліся пра гэта толькі з цягам часу. А сам паэт марыў, каб пахавалі яго на могілках у Байках побач з ягонымі бацькамі. Ён не раз гаварыў пра гэта яшчэ пры жыцці і нават напісаў канкрэтны запавет. І зараз гэты запавет ляжыць сярод рукапісаў, як мара, у якой няма будучыні.

Сябра Саюза вызвалення Беларусі, ён, як і тысячы патрыётаў сваёй Айчыны, не дачакаўся рэабілітацыі. Паэта не стала 14 снежня 2001 года.

Аднак, яго, бясспрэчна, некалі рэабілітуе самы аб'ектыўны суддзя - час. Бо паэты і так ніколі не сыходзяць у вечнасць бясследна - іх душа, трансфармаваная ў паэзію, заўсёды застаецца паралельна і на гэтым свеце.

Самсону Пярловічу ўдалося выдаць пры жыцці тры зборнікі вершаў - "Бяссмертнік", "Заяц на бярозе" і "Чарадзейны агонь". Аднак сярод ягоных рукапісаў мне ўдалося адшукаць некалькі дзесяткаў паэтычных твораў, якія не былі надрукаваны ў папярэдне выдадзеных кніжках. Канешне, не ўсе вершы раўназначныя і дасканалыя па сваёй мастацкай каштоўнасці. Давялося рабіць многа карэктыровак, бо ў асноўным гэта былі недапрацаваныя радкі. Аднак, я па магчымасці старалася захаваць стыль аўтара і яго непадробную шчырасць. Кожны

з вершаў паэта - гэта крык і боль за лёс Бацькаўшчыны, яе родную мову; гэта прысвячэнні родным і блізкім людзям; захапленне і гімн хараству прыроды; гэта і адлюстраванне прыкмечаных у жыцці гумарыстычных сітуацый, і хваляванне за будучыню сваіх суайчыннікаў. Цяжкі і складаны лёс паэта праходзіць шчымлівай тугой праз усю яго шчырую паэзію, няхай, можа, і не заўсёды дасканалую. А жыў ён марамі і надзеямі на лепшыя часы…

***Святлана Абдулаева.***

**Жураўлі**

Гром грымеў, ды цяпло
Устаяць не магло.
Пэўна, што журавоў
Шчэ відаць не было.
І вось радасны крык,
Як вяшчун-чараўнік,
З паднябесся наскрозь
У душу мне пранік.
Жураўлі, жураўлі,
На якой дзе зямлі,
У чыіх вы краях
Гэтак доўга былі.
Сумавалі па вас
Вочы сініх крыніц,
І трысцё ля азёр
Нахілялася ніц.
Нашы сэрцы з сабой
Вы няслі ў далягляд,
І не ўсе, вы... не ўсе
Прыляцелі назад.
Жураўлі, жураўлі -
Дзеці любай зямлі,
Вы на крылах сваіх
Нам вясну прыняслі.

**Не дай заснуць**

Не дай заснуць сваёй душы,
Не ледзяні пачуццяў шчырых,
Іх штохвіліну варушы
Ідэяй роўнасці і міру.
Не дай заснуць сваёй душы.

Калі душа твая не спіць,
Калі пачуцці агнявыя,
Тады жыццё тваё кіпіць
І чуеш мары ты людскія.
Няхай душа твая гарыць.

**У дзіцячым садзе**

У дзіцячым садзе
Дзеткам малалеткам
Раздолле вясною,
Як у полі кветкам.
Ды яны і самі
У колерах вясёлкі
Звоняць міла смехам,
Бы над лугам пчолкі.
Ім вясна на ўчастак
Прынесла з сабою
Церамок сапраўдны,
Карабель ды поезд.
Пабыць цяпер можа
Машыністам Саша,
Лётчыкам - Сярожа,
А шафёрам - Паша.
Дзеці барануюць
Пальцамі пясочак.
Прамяні ж цалуюць
Цвет дзіцячых шчочак.

## Зіма

З вяршынь высокіх аж да нізу
Кусты і дрэвы ўсе зіма
У срэбныя адзела рызы
На сваіх снежных курганах
Дзівосна вывела карнізы.
За гэта перад ёй, як слугі,
Ля ўсіх сцяжынак і дарог
Прысады выгнуліся ў дугі,
Ад непамернае натугі
Іх шмат упала ёй ля ног.
Як сэрца першая князёўна
Іграе ўзорамі яна,
Ды як у казках, як у снах,
Душу хвалюе невымоўна.

## Бярозаўка

Бярозаўка, Бярозаўка!
Куток юнацтва любы -
На залатых пясках рака
І ў сінім небе трубы.
Бярозак белыя камлі
Глядзяць, як чарадзеі,
Што з дарагой маёй зямлі
Па свеце цудам веюць.
Пад іх дыханнем
шкла крышталь
Пераліваe грані,
Як водбліск нёманавых хваль,
Як росы на світанні.
А вазу я крану ледзь-ледзь,
І ўсім навокал здасца:
Спявае партызанскі лес
Ў невыказнай казцы.
Бярозаўка, Бярозаўка!
У свет нясе свой гоман,
Як шкло іскрыстае тваё,
Крыштальна звонкі Нёман.

## Асот

Яго не садзілі, не сеялі,
А гэтак бурліва расце,
Што тыя, якіх мы так песцілі,
Плятуцца не раз у хвасце.
Спярша ён так хітра прытоіцца,
Нават заўважаць не ўсе,
Як толькі калючкамі ўзброіцца,
Праколе ўсіх пакрысе.
Гадзюкаю падкалоднаю
Свой корань ўваб'е ў глыбіню,
Раслiначку высакародную
Пагубіць навек не адну.
Пад цёплымі сонца праменнямі
Выскоквае злы ягамосць -
Асот вырывайце з карэннямі
Усюды, дзе ён толькі ёсць.

## Бібліятэка гукае

Братка "Вожык",
братка "Вожык",
Можа, ты мне дапаможаш
Вастрыём тваіх іголак
Кнігі мне вярнуць да полак.
Даю кніжкі на дэкаду,
Людзі ўдзячны, людзі рады,
Прачытаюць ды адносяць
Ці прадоўжыць тэрмін просяць.
А нядбалы як чытач
Возьме кнігу - дык хоць плач -
Кане кніга, як у воду,
Не вяртаецца больш году.
Людзі кніжак тых шукаюць,
Людзі кніжак тых чакаюць...

“Вожык”, мо твае іголкі
Вернуць кніжкі мне на полкі?

## А рамонт ідзе

На дарозе пад гарою
Хоць сядай ды плач -
Адна яма за другою
На шашы лягла.
Ні з гары разгон, ні ў гору
Тут не ўзяць нідзе,
Гора кожнаму шафёру,
А рамонт ідзе…
Ён ідзе, ды як цудоўна
Ды ўсё толькі там,
Дзе дарога гладка, роўна,
Дзе не бачна ям.
Там падсыплюць і падмажуць
Амаль кожны дзень,
Тут жа … толькі жвір пакажуць,
І рамонт ідзе.
Трэцца груз, ляскочуць зубы,
Стогне ўвесь матор.
Ідзе рамонт! А каля дуба
Спіць зноў раманцёр!

## Снежны вечар

Над зямлёй сняжынкі кружаць,
Быццам тыя матылькі.
Тчэ зіма свой мяккі кужаль,
Дорыць ёлкам ручнікі.
Дзеткі выскачылі з хаты
Ды ныраюць проста ў снег.
Гляньце, гляньце, колькі ваты! -
Льецца іх вясёлы смех.
На прасторах белых-белых,
Дзе ні глянь - ва ўсе бакі
Пралятаюць, быццам стрэлы,
Санкі, лыжы і канькі.
Шчэбет верабейкаў шэрых
Пад страхой даўно прыціх,
А матуля на вячэру
Не даклічацца малых.

## Белыя мухі

Дзіўныя чары зімы - весялухі
Срэбным ляглі дыванам.
Глянь, незвычайныя, белыя мухі
Ціха ляцяць за вакном.

Дзесьці нячутна ў крынічных далінах
Сядзе іх рой, упадзе.
Тых завушніц, што згубіла каліна,
Вецер не знойдзе нідзе.

Толькі, падчас цішынёй раззлаваны,
Віхар дурны наляціць,
Крылы падхопіць сняжынак рахманых,
Дзіка пачне іх круціць.

Успомняцца: пекла ваеннай разрухі -
Лютасць фашыстаў - звяроў
І смерцяносныя вострыя мухі,
Што загубілі сяброў.

Зараз ніякай не маючы скрухі,
Марыш, ты, гледзячы ўслед,
Каб светлай казкаю "белыя мухі"
Заваражылі ўвесь свет.

Не запалохаюць нас завірухі,
Холад не страшны ліхі . -
"Белыя мухі" - добрыя мухі
Пухам засцелюць шляхі.

**Вечны агонь**

Жывымі кветкамі атулены,
Гарыць ля помніка агонь.
Слязою матчынай расчулены,
Цягну я да яго далонь.

То не рукой агонь запалены,
Гэта ад куляў, ад гранат
Палае сэрца акрываўлена
Тваё, Няведамы салдат.

Яно палае вечнай смагаю,
Каханнем, творчай марай - жыць.
Тваёй ахвярнаю адвагаю
Уся радзіма даражыць.

Па-над свяшчэннымі астанкамі
Сумуюць людзі наўздагад:
Ты паў пад бомбай ці пад танкамі,
Ці ты іх сын, ці ты іх брат.

Цябе, мой брат, цябе я, роднага,
Правёў абараняць Каўказ.
Ты і ад каменя халоднага
Прабіўся полымем да нас.

Вы ўсё жыццё сваё і кроў сваю
Ў агонь нягаснучы злілі
І цепліце любоўю чыстаю
Усё жывое на зямлі.

## Пра чаргу

(Замест фельетона)

Больш прамаўчаць я не магу,
Каб не напомніць пра чаргу,
Бо дзе чарга вядзе парадак,
Там і пашана, і спагада,
Там і прыстойнасць, і сумленне,
Ні лаянкі, ні зневажэння.
Бабулька сівая і тая
Прыйшла. "Хто крайні тут?" -пытае
І ўжо да касы па пасадку
Ідзе спакойна па парадку.
А вунь дзяцюк, як леў, здаровы,
Наперад лезе праз галовы.
Сваё нахабства - шчасцем лічыць.
Падчас, як тыя каля рэчкі
У кучу збітыя авечкі,
Дзядзькі і цёткі, уняўшы злобу,
Нахабна лезуць у аўтобус.
А ў выніку - яны ўсе ў кучцы,
Бы тыя камары, таўкуцца.
І прадавец, калі сумленны,
Парадку ўклад прыносіць цэнны:
Праводзіць продаж па чарзе,
Чарга там крочыць, не паўзе.
А той, сумлення што не мае,
Адно знаёмых выглядае.
Праз галаву чаргі тавар
Перадае такі гандляр.
Дык вось, што вам скажу я, людзі:
Нашто мазоліць локці, грудзі?
Раней хто стаў, хай першым будзе.
Людскім сумленнем даражыце,
Свой добры гонар сцеражыце.

### Асеннія вятры

Моцна ці пакрысе
Вецер дрэвы трасе.
Па страсе, па расе
Іх лістоту нясе.
У прасторах пустых
Па лістах залатых
Я шукаю тваіх
Слоў, слядоў дарагіх.
А сівы далягляд
І атрэсены сад
Нашых сонечных дат
Не вяртаюць назад.
І вішняк, не дрыжы!
Перажыўшы дажджы,
Лепш шумі мне, кажы
Пра вясну, капяжы.
Бо хоць сэрца баліць,
Хоць астылі палі,
Трэба веру спяліць,
Што жыццё забурліць.

### Рэха Перамогі

*Васілю Кандратавічу*
*Харытончыку прысвячаю*

Татры высокія, Татры,
Хаткі на склонах, як цацкі.
А ты ж палаў у пажары,
Край братні, чэхаславацкі.
Поўзлі чорныя хмары,
Топячы ўсё ў горкім дыме…
Татры, далёкія Татры,
Сталіся вы мне сваімі.
Там, на блакітных вяршынях
Ёлкі шумяць несціхана.
Гэта прыгадвае сына
Матка байца-партызана.
Ёлкі вяршыням раскажуць
Гоманам шумам зялёным,
Колькі лягло там адважных ,
Ад швабскіх куляў шалёных!..
Біліся чэхі заўзята,
На смерць ішлі за свабоду.
Поплеч няслі аўтаматы
Славяне з Усходу.
Ні на гары, ні ў акопах
Не даваў ворагу спуску
Тонкі, высокі, як топаль,
Хлопец зямлі беларускай.
Боль хоць калоў
вострай шпількай,
Кроў хоць высмоктвала раны,
"З намі
наш доктар Васылько!" -
Цешыліся партызаны.
Вецер і той яго клікаў:
"Дрогі ты мой пшыяцелю!".
"Доктар,
наш доктар Васылько!" -
Ёлкі пад ветрам шумелі.
Ёлкі, шумлівыя ёлкі,
Слалі праклёны вы немцам
У час, калі доктар асколкі
З ран вынімаў сваім сэрцам.
Ён і славака, і чэха
Ўваскрашаў у дарогу.
Шчэ і цяпер дзесьці рэха
Трубіць яму перамогу.
Людзям героі адвагай
Волю вярнулі і славу.
Зноў расцвіла Злата Прага
Па-над блакітнаю Влтавай.
І зараз на горных вяршынях
І над цяснінаю вузкай,
Як роднага ўзгадваюць сына,
Сына зямлі беларускай.

## Вочы

О, гэтыя вочы, што стрэў выпадкова,
Азёрным бяздоннем палоняць мяне.
І гэтыя вочы, як цёмная змова,
Здзіўляюць на яве, трывожаць у сне.

Я з імі не крочыў ніякаю сцежкай.
Яны ж, як дзве зоркі, няспынна гараць.
Нічога не кажуць, а толькі з усмешкай
У самае сэрца глядзяць і глядзяць.

Нідзе і ніколі не быў я распусным,
Цярпліва ўтаймоўваў і жарсці і боль.
О, чорныя вочы, пунсовыя вусны,
Куды ж вы вядзеце мяне за сабой?

## Дакор жураўлям

"Пачакайце! Куды вы, куды вы?  -
Жураўлям я кідаю дакор. -
Пакідаеце рэкі, залівы,
Пакідаеце завадзь азёр."
Гіне ў далечы крык ваш тужлівы,
А тут, будзячы рэха бароў,
Пакідаюць дажатую ніву
Караваны маіх трактароў.
Хутка ў рунь, у зялёнае дзіва
Будзе сыпаць каліна свой жар.
Дык куды ж, дык куды, журавы, вы
Ляціце ў паднябессі, ля хмар?
Паглядзелі б, як бор цёмнасівы
Заварожыць красуня- зіма" -
Я гукаю ў неба рупліва,
А ад птахаў і следу няма…

## Песняр бессмяротны

Ад "Новай зямлі", ад "Сымона-музыкі"
Ты вёў у жыццё нас, пясняр наш вялікі,

Ты вёў нас “Дрыгвой" “У палескай глушы"
І шчырыя вершы дарыў ад душы.
Пісаў, як у школу збіраўся Ігнатка,
Як новыя лапці сыночку плёў  татка,
Слязой маці лапіла шэры халацік,
Каб толькі ў навуку пакрочыў Ігнацік.
Ты клікаў народ на прасторы жыцця -
Зваў хутка прачнуцца ад сну-забыцця.
Скарб бачым вялікі і чуем твой голас.
Ты - наша крыніца, ты - вечны, наш Колас,
Якія нас пояць, якія нас жывяць
Гаючай вадою і сонцам на ніве.
Мы сэрцам  палаем, душой маладзеем,
Калі нашы думы з табой-чарадзеем.
І з болем чытаем пра лёс твой гаротны.
Паклон табе нізкі, пясняр бессмяротны.

**Тайга**

Злы вецер выў над галавою,
Мароз пякельны твар паліў,
А я пілою лучкавою
Бярозы, ліствіцы валіў.
Уздрыгваў дол, стагналі дрэвы,
Пякучы снег хвастаў чало.
Табе ж, тайга, направа, ўлева -
Канца і краю не было.
Вясна прыходзіла з вятрамі -
Голад бязжаласны марыў .
Над ядавітымі кастрамі
Чарнелі хмары машкары.
Асіны прэлыя пад неба
Гаркавы водар свой няслі.
І неадчэпным пахам хлеба
Мох спавіваў усе камлі.
Вунь вокны фабрык і заводаў
Залоціць сонца да аблок -
Іх выразалі з тых калодаў,
Што я да штабеля валок.
Пакоціць час клубок свой новы,
Спаўецца трасамі Сусвет,

А на хлыстах дарог ляжнёвых
Не знікне мой далёкі след.
І там, дзе бег мядзведзь кудлаты,
Ўжо рэйкі спрытна ўдаль бягуць.
Тайга, тайга - гушчар рагаты,
Забыць цябе я не магу.

**Мы і яна**

Калі яна так безупынна
Нам дарыць гэтулькі дабра -
Тады й здаецца, што жанчына
І ёсць з мужчынскага рабра.
З часіны даўняй - ад Адама
Мы з ёю разам і жывём.
Сястрой, дачкою, жонкай, мамай -
Яе прывабную завём.
А як жадана, ўсхвалявана
І ўзнёсла колькі моцы ёсць
Да непаўторнае, каханай
Імкнецца наша маладосць.
У невясёлыя хвіліны
Заўжды адчуем, без яе,
Што быццам сапраўды рабрыны
Пад самым сэрцам не стае.
Таму ў яскравы дзень жаночы,
Што кожны год нясе вясна -
Раскрыць мы сэрцы свае хочам
І за яе наліць віна.
І чым бы нас яна ні секла,
Мужчыны ўсе гатовы, аж
Ісці за ёю хоць у пекла,
Як і найпершы продак наш.

**Над Віслай**

Цвіце над Віслай Казімеж Дольны,
Казімеж Дольны - слаўны і вольны.
Пяшчотным сэрцам горад абжыты,
Што быў гарачай крывёй паліты.

У неба песняй аж да аблокаў
Мкнуць маладыя сэрцы высока.
Пад іх крылатым, вясёлым рэхам
Бруіцца Вісла блакітным смехам.

Аднак, чаму ж там, пры самай Вісле,
Журботна гэтак дрэвы павіслі?
І сцюжай вецер кранае твары,
Плывуць жалобай на вочы хмары?

Пытаць не трэба. О, Божа мілы!
Адказ на гэта даюць магілы.
Магілы тыя ўсе, як курганы,
Салдат савецкіх - вечныя раны.

Героі моцна даўно заснулі,
Шчыра зямля іх польская туліць.
Пад белым снегам, пад цёплым маем
І беларус там адпачывае.

Край польскі помніць і ў дзень, і ў ночы
Усіх, хто поплеч з палякам крочыў.
Тых, хто загінуў з душою чыстай,
Каб Вісла вечна была празрыстай.

* * *

Адгрымеў ураган навальнічны,
Даўно змоўклі яго перуны,
А матуля ўсё кліча, ды кліча
Непрыйшоўшага сына з вайны.

За акном, над уквечанай грушкай,
Закружыўся, прысеў галубок,
І матулі здалося - то птушкай
Прыляцеў паказацца сынок.

Каб не спудзіць яго, не ўстрывожыць,
Адпачыў каб пад роднай страхой,
Асцярожна яна, асцярожна
Прыпадае да шыбы шчакой.

У пярыначцы кожнай, у шызай,
У бялявай галоўцы яго
Матка сэрцам вышуквае рысы
Дарагога сыночка свайго.

А дзяўчаты спяваюць, і жыта
Зноў красуе ля белых калін…
Колькі слёз у акне тым праліта,
Толькі ведае голуб адзін.

* * *

Чараўніца - Венера,
Срэбны Месяц і Марс,
Вечарамі, начамі
Глядзім мы на вас.
Вы і тыя, што толькі,
Бы іскры, усплылі.
Пакланіцеся, зоркі,
Планеце - Зямлі.
Снуяце вы ў касмічнай
Глухой сіняве,
І Зямля па арбіце
Няспынна плыве.
Але вам яе людзі
Імёны далі.
Пакланіцеся, зоркі,
Матулі - Зямлі.
Ой, далёка, далёка
Да вас ад яе,
Захавалі глыбока
Вы скарбы свае.
А зямляне і ў космас
Вядуць караблі.
Пакланіцеся, зоркі,
Імклівай Зямлі.
Чалавек уквячае
Зямельны абшар.
А вас скоўвае холад,
То паліць вас жар.
Каб і вы ажывалі,
Каб і вы расцвілі,
Пакланіцеся, зоркі,
Разумнай Зямлі!

**Сімфонія маёвага дажджу**

Пяшчотнай ласкаю жыцця
Вакол смяялася цяпло.
Але ўздыхалі людзі ўсцяж:
"Дажджу даўно ўжо не было!"

І людзі, і расліны ўсе
Прасілі сухавейны май:
"Хоць раз, хоць у скупой расе
Умыцца, скупануцца дай!".

І, быццам сапраўды дайшло
Да воблакаў жаданне іх -
Загаманіла, загуло
Ўсё паднябессе ў адзін міг.

Напнуўшы ўраз мільёны струн -
З нябёс на поле, на лясы,
Зарагатаў дзівак - пярун,
Рвануўшы, ломячы басы.

І разлілася, пацякла
Сімфонія жывой вады.
Ёй з-пад зялёнага крыла
Смяюцца белыя сады.

## Наш горад

Зробім наш горад светлым і ўтульным,
Зробім наш горад сэрцу прывабным.
Хай ён квітнее шчасцем агульным
Пад васільковым небам ядвабным!

Хай дух Міцкевіча, вечна натхнёны,
Што з намі побач дзесьці тут ходзіць,
На гэтай плошчы і ў парку зялёным
Звонкую радасць толькі знаходзіць.

Вуліцы, скверы і тратуары
Сонцам рассцелюцца перад вачыма.
Нашы крылатыя справы і мары
Хай ўваходзяць у справы Айчыны.

Будзе наш горад і светлым, і ўтульным,
Будзе наш горад сэрцу прывабным.
Хай жа квітнее ён шчасцем агульным
Пад мірным небам, небам ядвабным!

## Край Палескі

Хай я толькі ўздыхну са смугі паднябесся
Шматчаканы пароль беларускіх буслоў,
Прыгадаецца мне край прывабны Палесся,
Што ад поўдня на поўнач вяртае цяпло.

Прагна думка мая дарагое ўсё ловіць,
Рэхам з Прыпяці гоніць усплёскі чаўноў.
І мне чуецца, як малады Лабановіч
Да чароўнай Ядвісі спяшаецца зноў.

Адгукнецца ў душы непаўторнае штосьці,
Запалаюць кастры надазёрных калін,
І красуюць масты, як сцягі маладосці,
І залоціць асфальт след былых каляін.

Край Палесскі, балотамі ты мне не сніся.
Экскаватарны гром разбудзіў твой спакой.

І цябе, быццам казка, на кране Ядвіся
Паднімае да сонца адною рукой.

## Развітанне з Кішынёвам

"Бывай здароў, квяцісты Кішынёў" -
Развітваўся я так, прыпамінаю,
Хоць праляцела гэтак шмат гадоў,
Цябе ніяк нідзе не забываю.
Як друг, мяне ты Першамаем стрэў
Пасля пакут, усхваляваў парадам.
Каля Днястра гарачым летам грэў
І частаваў салодкім вінаградам.
Тваіх акацый дзіўны цёплы снег
Наводзіў на пачуцці хваляванне,
Каб я правёў пад небам свой начлег,
Як і твае апетыя цыгане.
Я чую звон іх яркіх завушніц.
Яскравыя ў вачах мігаюць блузы.
І ля квяцістых веерных спадніц
Шалёны пляс падлеткаў галапузых.
Каб твой народ на генія глядзеў,
Пад неба ўзняў ты Пушкіна за гэта.
І я з паклонам нізкім кожны дзень
Прыходзіў да вялікага паэта.
Перада мной і ў роднай старане
Малдавія ўсплывае залатая.
Агністая "Малдаванэска" мне
Як на яву, красу тваю вяртае.

## Вам, суайчыннікі мае

Ах, людзі, людзі, як мне вас шкада,
Што вы душою гэтак абяднелі!
Вас вабяць толькі ўборы ды яда,
Так, што, здаецца, і душу вы з'елі.

Вы свой пагляд хаваеце далоў,
Калі ля кнігі вас вядзе дарога.
Не цэніце цікавых цёплых слоў,
Што чалавеку дадзены ад Бога.

А ўсё-ткі разумнейшы прыйдзе час,
І калі дзетак мудра гадавалі,
То ўдзячнасцю яны прыпомняць вас,
Што ім не жвачку - кнігу вы куплялі.

Таму мне, людзі, сэрца боль трасе,
Што вы душою страшна так счарствелі.
Аднак я ўсё-ткі веру, што не ўсе
Душу сваю з бананамі вы з'елі.

**Мой любы край**

Душу маю хвалююць адгалоскі
Той песні, без якое не пражыць.
Твой лёс, мой любы край бацькоўскі,
Не пакідае галаву кружыць.
Лаўлю тваё чаруючае слова
І сум, што дзеліць з рэчкаю лаза,
Бо голас твой - майго жыцця аснова,
Уцеха і пякучая сляза.
О, Беларусь! Я не губляю мары
На росквіт твой, як і другіх краін,
Што і ў цябе так мудра гаспадарыць
Будзе твой верны, твой жаданы сын.
Божа, пашлі - няхай здзяйсніцца вера!-
Сыноў тваіх і ўсіх тваіх дачок,
Каб атрымаў народ наш поўнай мерай
Тое дабро, што абяцаў Прарок!

**Біясфера**

Цябе заўсёды славіць буду,
Бо ты жыццё, любоў і вера,
Цуд найдзіўнейшы з усіх цудаў
Зямлі-планеты, біясфера.
Ты - маці ўсёй жывой прыроды,
А да мяне аж ад пячэры
На колах, робленых з калоды,
Каціла продка, біясфера.
Затым, набраўшыся размаху,

Ён мог і акіяны мераць.
Ды і на крылах, быццам птаха,
Яго ўзняла ты, біясфера.
Цяпер у глыбіню сусвету,
Туды, дзе песціцца Венера,
Запрогшы касманаўт ракету,
Ляціць з табою, біясфера.
І мо адно вар'ят шалёны,
Хто сэрцам дзікая пантэра,
Пра выбух думае нейтронны,
Каб ты зачахла, біясфера.
Насуперак такому юдзе
Я гнеў людскі ўзніму бар'ерам,
Каб ты заўсёды ў нашы грудзі
Жыццё ўлівала, біясфера.

* * *

Край Навагрудскі, родны край
Нідзе не забываецца,
А горад дарагі, бы май,
Прывабнасцю ўсміхаецца.

Пры адмысловых ліхтарах,
Красой зачараваныя
Да ранку ночку ўсю не раз
Праводзяць закаханыя.

Дык ганарыцца ад таго
Ці ж не павінен кожны з нас?
У сэрцы горада свайго
Бляск чарадзейны каб не гас.

## Святая наша Беларусь

Люблю цябе, люблю бязмерна,
Святая Беларусь мая!
Служу табе заўсёды верна,
Каб слава век жыла Твая.

Калісьці велічна ў век з веку
Сярод народаў ты ішла.
Ды і навалу гвалту, здзеку
Мужна не раз перамагла.

Святло ўсім нёс твой крок бадзёры.
І ў час бязлітасных падзей
Твае чароўныя прасторы
Натхняюць на дабро людзей.

Жыві надзеяй так, як птушкі
Зімой жывуць цяплом вясны!
З табою верныя дачушкі,
З табою верныя сыны.

Не! Не дадуць яны ніколі
Цябе чужынцам спаланіць!
А голасам "Народнай волі"
Свабоду будуць бараніць"

**Помні, раз жывём**

Дрэвы прыбраліся касцюмамі
Зялёнымі, зялёнымі,
А з імі цешуся я думамі,
Новай вясной натхнёнымі.
Даўно, даўно на гэтай вуліцы
Не быў ужо.
Цяпер яна да сэрца туліцца
З цёплым дажджом.
Каштаны свечкамі і бэз букетамі
То тут, то там
Малюнкамі жывымі гэтымі
Смяюцца нам.
Быццам не тая вуліца
Перада мной.
Душа мая цвіце, любуецца
Новай вясной.
І ты таксама пакланіся ёй
Светлым чалом,

Бо на зямлі ўваскросшай той
Мы раз жывём.

**Тайная загадка**

*Жарт*

Пытаўся шафёр у шафёра:
"Які найвялікшы дзе горад?"
Казаў той: "Гадаць я не буду -
Найбольшы за ўсё Навагрудак.
Паўдня не раз, пэўна, патраціш,
Пакуль знайсці выезд патрапіш
З раскопаных вуліц, мой братка,
Ну вось табе ўся і адгадка".

**Нос, як сліва**

*Жарт*

Адэкалону флакончык купіць
У парфуму дзядзька заскочыў.
А там тых флаконаў столькі стаіць,
Што проста разбегліся вочы.
Пабачыў усякіх, але ж каб купіць
Шукае шчэ без упынку
- Які ж самы лепшы?- нарэшце прасіць
Пачаў ён гандлярку - дзяўчынку.
А тая вось так (аж у жываце
Кальнула адповедзь такая):
- Не магу падказаць, бо, які вы п'яце,
Я абсалютна не знаю!
Купляў сабе дзядзька адэкалон,
Каб пасля ляза асвяжыцца,
А дзяўчыне здалося, што ён
Задумаў ім пахмяліцца.
І дзядзька з сабою крыўду панёс,
Бо глянуў на дзеўчыну крыва…
Ды хто ж вінават, што ў дзядзькі нос,
Нібыта спелая сліва.

* * *

У рытм уплятаючы думы,
Шукаючы рыфмаў, як цвету,
Ніколі не сніў я, не думаў
Прадаць іх, аддаць за манету.
Магу з імі стаць я на споведзь,
Магу ўсім жыццём пабажыцца -
На шчырым, на матчыным слове
Ніколі не прагнуў нажыцца.
А ў гэтым, бясспрэчна, я грэшан,
І буду да смерці я марыць:
Людзей хачу вершам пацешыць,
Па злыднях заклятых ударыць.

**Цана вялікай Перамогі**

Да таго дня вялікай Перамогі,
Што будзе вечна чутны і відзён,
Ішоў народ пад зарывам трывогі
Праз тысячу смяртэльных, чорных дзён.

Ішоў народ лавінай агнявою
Са славаю кастрычніцкіх сцягоў
Ад бітваў пад Масквою, над Нявою,
Да бугавых свяшчэнных берагоў.

Магутна к сонцу ўзняўшы свае крылы
І вызваляючы за краем край,
Усё далей на Захад вёў ён сілы,
Знішчаючы франты варожых зграй.

Нарэшце пастку зверавай бярлогі
Салдат савецкі мужна пакарыў.
Цяплом, святлом жаданай перамогі
Сагрэў усю планету, азарыў.

За мірны дзень, за светлыя дарогі -
Герояў пала не адзін мільён.
Народ - герой прыйшоў да Перамогі
Праз тысячу начэй і чорных дзён.



# *Святлана Абдулаева*

*Абдулаева (Юшкевіч) Святлана Іосіфаўна нарадзілася 23 снежня 1964 года ў вёсцы Ашмянцы Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці. Пасля заканчэння Гарадзенскага музычнага вучылішча жыве ў Наваградку і працуе ў дзіцячай школе мастацтваў выкладчыкам. Друкавалася ў "Полымі", "ЛіМе", "Маладосці", "Настаўніцкай газеце", "Гаспадыні " і г.д. Выдала зборнікі паэзіі "Музыка дажджу", "Тайна времени", "В преддверии любви". Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.*

* * *

Дзінькаюць сініцы за акном,
Бэзу куст аблюбаваўшы зранку.
Лёгка расквітаўшыся са сном -
Я адсоўваю рукой фіранку.
Падае на вуліцы капеж..
Тае снег ад пацалункаў сонца…
І ляціць…ляціць хвілін картэж
Па сваіх канонах у бясконцасць.
Новы дзень - ты той жа паштальён,
Прынясі мне добрыя навіны!
У цябе іх можа быць - мільён!
Мне б хаця з дзесятка - палавіну.

* * *

На цёплым узмор'і - усё, як калісьці…
І чайкі здалёку зноў крыкам вітаюць.

А мне падаецца - што белыя пісьмы
Ляцяць да мяне …але не далятаюць.
Усё, як заўсёды, на ціхім узмор'і…
А я адчуваю, што ўсё тут - іначай,
Хоць пірс той жа самы і тое ж надвор'е…
Слядоў Вашых побач з сабою - не бачу…

* * *

Спускалася сонца ў Балтыйскае мора,
Танула, нібы карабель.
А хвалі рабілі паўтор за паўторам
Набегі бясконца на мель.

На фоне пунцовым над гладдзю марскою
Крык чаіцы белай павіс…
Застыў у чарговым чаканні прыбою
Самотна пустуючы пірс.

Спускалася сонца зусім непрыкметна -
Хавала ў ваду прамяні,
Нібыта ў гадзіну апошнюю лета
Падлічвала цёплыя дні…

* * *

Шыракалістыя каштаны
Святло лавілі ліхтара,
Што так рассейвалася цьмяна
Наўкол прыціхшага двара.
Бяроз - каштанавых равесніц
Ляглі маўкліва цені ў рад…
Застылі крокі каля весніц…
У змрок схаваўся далягляд.

* * *

Ветравое шкло машыны
Абдымае завіруха.
Белы снег ляціць пад шыны,
Як дакучлівая муха.
Усміхаецца мужчына -
Цісне "газ" - матор шалее,
І машына - малайчына
Пралятае скрозь завею.

* * *

Кароткі дзень зімовы…
І вечар - на прыступках.
А водар чабаровы
На кухні ўецца з кубкаў.
І ў сяброўскай згодзе
Цячэ… цячэ бяседа.
Каб ёй не перашкодзіць,
Цвыркун сціх нават недзе.
Ах, як бывае часта,
Так мала трэба людзям,

Каб падзяліцца шчасцем -
Вось так забыць пра студзень!
Кароткі дзень зімовы…
І ночка - на прыступках,
Ды ўсё цячэ размова
Пад водар лета …з кубкаў.

### Раны

Сябе, распятай на крыжы,
Я адчуваю дзень не першы.
Вы раны на маёй душы
Зашыйце мудрым
словам верша.

Не трэба ніці залатой,
Ні чыста срэбнай, ні шаўковай -
Зашыйце раны прастатой
Са шчырасцю абавязковай.

Усіх прашу: паверхню швоў
Сагрэць сардэчнасцю адразу -
Бо лепшых лекаў не знайшоў
Яшчэ ніхто мне і ні разу…

### Гармонік

Як пахне зялёны аер!
І вечар плыве па вадзе,
Ды нібы ў журбе кавалер,
Гармонік не грае нідзе…

А мне яго мілы распеў
Так хочацца шчыра пачуць,
Каб белыя кнопачкі ўсе
Душы не давалі заснуць.

Ды піша адно цішыня
Даўно гарманісту пісьмо:
"Хоць заўтра на захадзе дня
Ты ўсё-такі ж вернешся мо?"

І шэпчацца ціха аер,
І ночка плыве па вадзе,
Ды нібы ў журбе кавалер -
Гармонік не грае нідзе…

* * *

Нібы сяброўка, што ў кіно
Са мной пайсці павінна,
Галінай стукае ў акно
Чырвоная рабіна.

Яна нагадвае мне зноў,
Што час ляціць імкліва.
А я ў адказ не маю слоў -
Адно гляджу маўкліва…

* * *

Канчаецца цёплы сезон,
І коціцца лета на спад,
Як з кветкамі з горкі вазок
Між хуткіх чужых аўтастрад.
І той ксілафонавы звон,
Што так рассыпаў зарапад,
Схаваў пад лістотаю клён,
Як лёгкую горыч ад страт.
Канчаецца летні сезон -
Намёк дае дождж за дажджом.
І пах нясе ў лесе азон
Самоты асенняй ужо…

* * *

На Месяц, дзе ёсць раён
З назваю "Мора дажджоў",
Глядзіць задуменна клён,
Што так без пары пажоўк…

А ёсць там дажджы ці не?
Як доўжыцца іх сезон? -
Насамрэч цікава мне
У коле бягучых дзён.

* * *

Пад шоргат восеньскай лістоты
Мне зноў успомніўся Парыж -
Фрагменты вуліц і афіш,
Дзе паміж слоў луналі ноты.
І шматгалоссе розных моў
На беразе магутнай Сены…
Магчыма, там калісь Ясенін
Карміў з рук белых галубоў…

* * *

Даўно пакінутая хата…
І дзесьці гаспадар у Бога.
Адно куст бэзу зухавата
Глядзіць бясконца на дарогу.
Не варухнецца на хвіліну -
Нібыта ў забыцці-чаканні…
А па шашы імчаць машыны,
Аднак, на іншыя спатканні.

* * *

Пушыстай шэранню пакрыты
сад стары,
У ім сягоння фаварыты -
снегіры…
Колер пунсовы і …белы снег -
дзіўны кантраст.
Яблыні ў профіль стаяць ува сне,
а бачны - анфас.
Вось вам і казка - з чырвонымі птушкамі
голле гарыць,
Ці верасень спелыя яблыкі гушкае
ў нашым двары?

* * *

Зноў горад запаліў свае агні -
Зімою вечар надыходзіць рана.
У тлуме гарадскім і мітусні
Я ўспамінаю пра цябе, каханы.
А снегапад на вуліцы - сцяной,
Такі густы, што не было ніколі.
Праз белы снег журботны позірк твой
Усплыў у маёй памяці міжволі.
І з перавагай нават хай мароз
Казырнай картай выпадзе на студзень -
Каханне нашае, што выткаў лёс -
Зіма сваім дыханнем не астудзіць.

* * *

Хаця разбегліся па полі васількі,
Нібыта ў хованкі гуляючы палеткі.
Ды мне яны ўплятаюцца ў радкі,
Як сіненькі сцяжок на край сурвэткі.
І не магу я выбіраць шляхі,
Вакол якіх няма блакітных зорак -
Я проста прадстаўніца тых жанчын,
Што любяць колер неба й колер мора.

* * *

Шукаю я вачыма просінь,
Хаця яе няма нідзе…
І жураўліны клін адносіць
З сабой фрагмент маіх надзей.
Не паштальён мне ліст прыносіць,
А вецер, нібы дабрадзей…
І дробны дождж паветра косіць
Усё часцей… часцей… часцей…
Шукаю я на небе просінь,
Хаця і ведаю - дарма.
І на гадзінніку ўжо - восем…
І недапісаны раман…

* * *

Стаяла восень залатая ля шашы,
Нібыта падарожніца-шляхцянка…
І назірала з вышыні буслянка,
Як размінаюцца аўто на віражы.
А ў полі вандравала цішыня
І запрашала з гарадоў у госці…
І нехта мне па-добраму  зайздросціў,
А я чакала выхаднога дня.
А там... стаяла восень ля ракі
І з пазалоты кладачку масціла,
І я ў яе ў чарговы раз прасіла:
"У верш крыху мне золата падкінь"…

*  *  *

Я рву чырвоную каліну
ля ручая…
І рвецца крыкам жураўліным
душа мая…
Прывязаная цесна лёсам
тут да зямлі -
У марах там я - у нябёсах,
дзе жураўлі…
"Сарваць цябе усю, каліна,
пад нуль дазволь…"
Тады мо крыкам жураўліным
зляціць мой боль…

*  *  *

Плыве  над возерам туман балотны,
І кружыць галаву мне пах аеру…
Мінае дзень… Ён будзе незваротным,
Аднак, я ў гэта ўсё ж такі не веру.

Бо застанецца ён у маім вершы
Акрэсленай канкрэтнаю страфою.
Плыве туман па возеры, як вершнік,
Што адпусціў каня да вадапою…

*  *  *

Калі дождж бясконца моцна хвошча,
Распачаўшы ўжо асенні графік -
Я па-добраму кату  свайму зайздрошчу,
Што разлёгся на маёй канапе.
Бо яму мачыць не трэба ногі,
Так, як і стаяць перад дылемай:
Дзе, якою мне пайсці дарогай,
Як развязаць надзённыя праблемы?
Бо, як кажуць, "ён не вяжа лыка, "
Што наогул робіцца навокал.
І яму адно - ляжы мурлыкай,
Напалову прыадкрыўшы вока…

* * *

Ізноў балалайка кранула мне душу…
І думкі спляліся ў адзін карагод.
Гляджу ў задуменні на белую ружу,
А ў марах - чакаю цябе ля варот.

На вуліцы дзесьці спявае салоўка,
Да весніц падплыў фіялетавы змрок…
А мне падалося - запахла чаромха…
І ты прыпыніў побач сцішаны крок.

* * *

Пакрыта снегам белым каля ракі даліна…
І ў полі песні распявае вецер…
Нібы ў час растання самотная дзяўчына,
Рабіна сустракае ціхі вечар.
Запальвае на небе анёл начныя зоркі -
З іх кожная, бясспрэчна, - таямніца.
І з вышыні гадоў гляджу я, як з пагорка -
Былі ў жыцці маім Парыж, Ерусалім і ў марах - Ніцца.

## Ты - не кароль

Ляцяць дамоў зноў журавы…
І ў марах я - на крылы.
Цяпло з праталінаў травы
Мяне сагрэла, мілы…
А ты… а ты…, ты - не кароль
І не арол у небе.
Прыход вясны мой сцішыў боль,
І лекар не патрэбен…
І пахне свежасцю вярба
У цноце, як святая…
І ў сэрцы даўняя журба
Ільдзінкай ціха тае…

А ты… а ты…, ты - не кароль
І не арол у небе.
Прыход вясны мой сцішыў боль,
І лекар не патрэбен…
Я - птушка вольная ў душы -
Як золата мне - воля!
І снег сваё адцерушыў -
Пяе жаўрук над полем.
А ты… а ты…, ты - не кароль
І не арол у небе.
Прыход вясны мой сцішыў боль,
І лекар не патрэбен…

* * *

Я глядзела ў начное акно
На бясконцы віхор снегападу.
Ды ў той момант было не відно,
Як у сэрца мне снег ціха падаў.

А калі снегапад адкружыў -
Я сама на сябе паглядзела:
Стаў каханы мужчына чужым,
І душа мая пахаладзела.

* * *

На вуліцы снегапад
Усю ахінуў прастору…
А памяць вядзе назад
Праз шэраг гадоў - да мора:
Дзе чаіцы крык павіс,
Аздобіўшы гладзь марскую,
І лёгкі салёны брыз
З табою мяне цалуе…
На вуліцы - снегапад…
А ў сэрцы маім - зноў лета…
Хоць можа і неўпапад -
Сняжынкі - пялёсткі з кветак.

* * *

Цішыня за аселіцай…
Толькі падае снег…
І напевы мяцеліцы
Ліпа слухае ў сне.
Божым лёсам заручана
Побач з яварам быць -
Як агонь непатушаны,
Цуд-каліна гарыць.
І за іх, нібы моліцца
Дуб і шэпча: "Амінь".
І ляціць над ваколіцай
Звон царкоўны: "Дзінь-дзінь".



# *Зміцер Арцюх*

*Зміцер (Дзмітрый Уладзіміравіч) Арцюх нарадзіўся 2 сакавіка 1978 г. у вёсцы Рутка Наваградскага раёна. Аўтар кніг вершаў "Вясна ў кароткім паліто…", "На скрыжаванні". Друкаваўся ў беларускіх і замежных выданнях. Вершы перакладзены на рускую і балгарскую мовы, некаторыя пакладзены на музыку.*

*Скончыў Менскі педагагічны каледж імя Максіма Танка, факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта.*

*Аўтар дакументальных фільмаў "Навагрудская Галгофа", дакументальна-публіцыстычнага цыклу "По имени Детство", тэлепраграмы "Монолог", тэленарысаў.*

*Заснавальнік і першы дырэктар Паэтычнага тэатра "Арт.С".*

*Працаваў на Беларускім радыё і тэлебачанні, у рэдакцыі часопіса "Промышленная безопасность", у Амерыканскім дабрачынным фондзе "The Saviour", намеснікам рэдактара партала Свята-Елісавецінскага манастыра.*

*Зараз з'яўляецца рэдактарам Праваслаўнага партала Dei Verbo.*

* * *

Зіма ў завейным Навагрудку -
Старонка памяці маёй
У кнізе "Радасны настрой".
Зіма ў завейным Навагрудку -
Мой цёмна-сіні неспакой…
І еду я ізноў на Рутку…
Зіма ў завейным Навагрудку -
Старонка памяці маёй.

* * *

Мая зімовая сталіца,
Я ведаю, што ты не спіш
Пад снежнай коўдраю маўчыш,
Мая зімовая сталіца.
Вакол - наваградская ціш…
Яна мне мінскай ноччу сніцца.
Мая зімовая сталіца,
Я ведаю, што ты не спіш.

* * *

Мой сон - Сальвінава Гара -
Ты мне ізноў вяртаеш вёсны…
Дзяцінства.
Басанож з двара
Збягаў ад мамы…
Сон дзівосны…
Мне прачынацца не пара!

* * *

Сакавік убелены зімотай…
Хаатычнасць рухаў матылькоў,
Паўчкоў -
збіральнікаў сумётаў -
Засмучае…
Радуе…

Ён зноў
Сны разбудзіць -
І вясне прысніцца
Гаманлівы першы сакавік.
Дзень другі
Паклікаў нарадзіцца
На зямлі…

* * *

Зіма не хоча быць забытай.
Яна змагаецца.
І снег,
Вясновым подыхам забіты,
Спыняе ход жыцця…
Я збег
Ад гэтага змагання з лёсам
На вёску,
Дзе зімуюць сны
І дыхаюць жыццём Нябёсы…
І блізка, блізка да вясны.

* * *

Вясна засынала на кветках,
Фіранкі злятаі з акна,
І поўня ў стаптаных танкетках
Збірала аблокі да дня.

Зашторыла зорнае поле,
Прамовіла сціпла: "Антракт".
Пусціла аблокі на волю,
Каб з імі мы танчылі ў такт.

* * *

*Юліі Лебядзенка*

Плача скрыпка ліпеньскім дажджом -
Ёй жыццё здаецца шэрай хмарай.
Лета адшукала іншы дом,
Там спявае песні пад гітару.

І не ведае: сумуе скрыпка
Без цяпла, схаванага ў аблоках.
Да такога лета не прывыкла…
Ты вярніся з далечы далёкай,

Усміхніся скрыпцы - знікнуць слёзы
І вясёлкай неба засмяецца,
І паэзія заменіць прозу -
І жыццё сапраўднае пачнецца.

* * *

Не лягу спаць, бо зноў душа зацьмела,
І трэба чысціць вершамі яе.
Бяру асадку ды блакнот нясмела -
Душа пяе…
Пра чысты свет, які мне часта сніцца,
Пра дом жывы на могілках старых,
Пра жураўля над вёскай і сініцу,
Якіх ніколі не ўтрымаць дваіх.
Туман над рэчкай, ветру калыханкі,
Нябёсаў верасовых вышыня
І маціёлаў пах з начы да ранку,
І камары… Зноў камары звіняць…
Не лягу спаць…

* * *

Мокне мальберт.
Ля фантанаў - нікога…
*Леанід Дранько-Майсюк.*

Слёзы неба на мальберце сноў
Ператворацца ў кахання здані.
Я прамоўлю гэтаю вясной:
"Да сустрэчы. Не было кахання".

І асеннія спалю лісты
Там, дзе словы соладка палалі.
Мне не важна, што сумуеш ты.
Мы ж з табой ніколі не кахалі.

Выдаць ненапісаны раман
Мне сягоння дапаможа горад.
Не хачу я маляваць падман
На мальберце закахана-хворым.

* * *

На ўскрайку прыснежанай вуліцы -
Худзенькая яблыня. Там
Яшчэ павуцінкі цалуюцца,
І вецер спявае лістам.

Ад песень лістота так журыцца
І падае ніц на траву.
Не хоча асенняя вуліца
Пад шапку хаваць галаву.

**На Новы год**

Сагрэты сонцам студзень
Праз шыбы піша вершы.
А ты мяне забудзеш...
Ці я забуду першы.

У першы месяц года
Я стану адзінокім.
Засну, бо спіць прырода
Халодным сном глыбокім.

Але вясной прачнуся!
З жыццём карціць сустрэцца.
Ў абдымках Беларусі
Мне хочацца сагрэцца.

І летам быць крылатым,
З табой стварыўшы восень.
Вярнуўшыся дахаты,
Зіма ізноў папросіць

Пасаду на паўгода
У зазімелых сненнях.
У першы месяц года
Так хочацца натхнення!

## Мяхі са старым вінам

Пазіраю ў глыбокі калодзеж.
І не бачу там дна. Не відно…
"Ты чаму да мяне не прыходзіш,
Не зліваеш старое віно?
Бо мяхі, што з сабою ты носіш,
Трэба новым вінам запаўняць…
Вось ізноў урадлівая восень.
Ты скажы: мне цябе пачакаць?"

* * *

Я кепскі воін -
Дрэнна чышчу зброю,
Я пакідаю зброю абы дзе…
А потым плачу:
"Што са мной такое,
Чаму так цяжка барацьба ідзе?"
І выбіраю грэшны накірунак,
І спадзяюся: кепскае міне…
На крок ад смерці
З Неба
Падарунак:
Бог на руках
            Ізноў
                        Нясе
                                    Мяне.

* * *

У краіне, дзе дождж гаспадарыць
І да сонца плацкартны білет,
Застаецца пра лета марыць
І фальшывы складаць санет
Пра пяскі на егіпецкім пляжы,
Бедуінаў, арабскі базар…
Пра пустыню… Пра што - не важна:
Толькі б цёпла было ад мар
У краіне, дзе дождж - гаспадар…

* * *

Гатэль знаходзіцца ў маляўнічай затоцы
Рас Ум Сід ля бухты Наама Бей…
*З прапановы тураператара.*

Уцяку ізноў на "Бора-Бора"
Ад зімы халоднай, ад вятроў.
Як сумую я… Ах, Чэрмна мора,
Золата егіпецкіх пяскоў…

Над Сінаем дымкай льецца неба,
Кліча Бога муэдзін стары…
Мне для шчасця так нямнога трэба -
Проста ля Сінайскай жыць гары.

* * *

Павуцінка бабінага лета
Верне ёй зялёны сакавік,
Вершы сінявокага паэта -
Ёй адной складаў калісьці…
Знік
Час радкоў пад шэрымі снягамі.
Дзеці - ўнукі - іх цяпер вясна…
Вечарам старэнькімі рукамі
Возьме сшытак з вершамі.
Адна
Будзе ўголас іх чытаць да рання…
Летнім успамінам не заснуць.
Гэты сшытак - сведка іх кахання -
Павуцінка ў бабіну вясну.



# *Уладзімір Бармута*

*Бармута Уладзімір Антонавіч нарадзіўся 18 жніўня 1940 года на хутары Астравок Пружанскага раёна Берасцейскай вобласці. Пасля заканчэння дзесяцігодкі працаваў у калгасе паляводам, рабочым на цагельні. Служыў у Савецкай Арміі. Скончыў філалагічны факультэт Берасцейскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна (1968). Настаўнічаў у Велікарыцкай сярэдняй школе Маларыцкага раёна.*

*З 1972 года жыве ў Наваградку. Працаваў у рэдакцыі раённай газеты "Новае жыццё", у партыйных органах, выкладаў беларускую мову і літаратуру ў СШ № 6. Піша вершы і прозу. Друкаваўся ў розных перыядычных выданнях, у тым ліку ў часопісах "Бярозка", "Вожык", "Маладосць", "Полымя".*

**Ветэрану**

Усё ў жыцці праходзіць незваротна,
імкліваю ракою час бяжыць,
а ў снах тваіх агонь атак смяротных,
а ў памяці ўсё тыя рубяжы,

дзе, малады, стаяў ты непахісна
і быў сваё жыццё аддаць гатоў,
каб дзень свой чорны вораг ненавісны
запамятаў на тысячы гадоў;

каб мір прыйшоў да роднага парога,
каб мы не зналі болю, ран і страт.
Здабытая табою Перамога -
і фініш твой, і ў будучыню старт.

## Можа стацца

Гадоў разгорнецца сувой,
рассыпле белы іней.
Зямля, зялёны покрыў твой
пад ім навек загіне.

Цябе ахутае туман,
і станеш ты замглёнай.
Дзе дыхаў цёплы акіян,
там будзе снег салёны.

На гэту, нібы цукар, бель,
на снежныя пагоркі
аднойчы сядзе карабель
з далёкай самай зоркі.

Нагою ступіць астранаўт
на снег, вякамі збіты,
і ўсё ацэніць ён спаўна
з часоў, даўно забытых:

"Зямля - Сусвету кут глухі,
бязлюдны, мёртвы, сумны.
Тут пакараны за грахі
быў чалавек разумны".

Зямлю пакіне астранаўт,
не будзе больш вяртацца.
… Хацеў бы я, каб кожны знаў:
такое можа стацца.

## Загадкі

Няма дарог на свеце гладкіх,
наадварот усё якраз.
І не на ўсе ў жыцці загадкі
знайсці мы здолеем адказ.

Навука, вера і старанне -
шляхі да мудрасці Тварца.
Няма табе мяжы, пазнанне,
няма, загадкі, вам канца.

Такі спакон вякоў парадак,
што з кожным
новым адкрыццём
ніяк не менее загадак,
і гэта рухае жыццё.

## Дзве дарогі

Дзве дарогі ў чыстым полі -
ільняныя ручнікі.
Дзве дарогі, як дзве долі,
беглі ў розныя бакі.

А наўсцяж імкнулі хвалі
недаспелай збажыны,
над сабою калыхалі
ветразь воблака яны.

І пра гэтае раздолле
пелі ў небе жаўрукі…
Дзве дарогі, як дзве долі.
Дзве жыццёвыя ракі.

## Вечны рухавік

Белапенная, крутая
хваля точыць камяні
і на бераг вымятае
скарб, схаваны ў глыбіні.

Гэта золата бурштыну,
белы жэмчуг і карал.
Б'ецца хваля без спачыну,
у яе штодня аўрал.

То прылівы, то адлівы
пад бясконцы чайкі крык,
бой нястомны, бег імклівы,
хваля - вечны рухавік.

## Пытанне

Не ўсе, відаць, рашаюцца задачы
і на зямлі, і там, на небясі,
бо, мусіць, і Гасподзь не змог прадбачыць,
што Еву змей захоча спакусіць,

каб ад старога ўсе да немаўляці
мы адчувалі, што і нам баліць,
і першы грэх той нашае прамаці
ніхто не мог ніколі замаліць.

Ці  ўсё было інакш, і ў такім разе
свядома Бог нам вызначыў шляхі,
і па вышэйшай волі мы ў адказе
і за свае, і за бацькоў грахі?

## Вечнасць

Млечны Шлях цячэ да небакраю.
Сузіранне вечнай прыгажосці
кожнаму яшчэ раз нагадае:
мы на гэтым свеце толькі госці.

Хоць не грэе тых нямая млечнасць,
у каго зямных багаццяў многа,
час праб'е - і ім напомніць Вечнасць
пра часовасць усяго зямнога.

## Узлёт

Не варажы на гушчы і вадзе
і прэч гані дарэмную трывогу,
бо нам вядома: кожны, хто ідзе,
сваю  заўжды адолее дарогу.

Дарог мільён, але твая адна.
І дзе б ні жыў, ні працаваў бы дзе ты,
найлепшая з усіх, калі яна
прыводзіць нас да запаветнай мэты.

І чым цяжэй, вышэйшы тым  узлёт,
таму абходных сцежак нам не трэба.
Хоць пра зямлю і думае пілот,
аднак ён марыць пра бясконцасць неба.

## Дзядуля

Гады прайшлі, як шпаркія мінуты,
жыццё цябе круціла так і сяк.
І, нібы дрэву са ствалом сагнутым,
не выпрастацца ўжо табе ніяк.
Шмат пройдзена па свеце і  пражыта,
але тужыць няма чаго, калі
табою дбайна ўзрошчанае жыта
квітнее для нашчадкаў на раллі.

## Былое

Вітаю час натхнення і спакою,
прастор бязмежны, ясны дагляд!
І добрае, і кепскае былое
не вернеш, і не вернецца назад.

Нам ад яго ні соладка, ні горка,
яно ўжо не трывожыць, не заве.
Няхай гарыць спакойна тая зорка,
што вечарам ледзь бачна ў сіняве.

## Лістапад

Па сонцы зажурыўся дагляд,
не ўбачыць за туманам краявідаў.
Прыйшоў у горад ноччу лістапад
і па асфальце золата раскідаў.

Яго збірае ў парку дзетвара,
шчаслівы смех разносіцца далёка,
а ў дворнікаў не лепшая пара,
і да зімы не болей, чым паўкроку.

Мятуць, грабуць пажоўклыя лісты,
і хутка іх зусім ужо не стане.
Праз месяц век мінецца залаты,
і ўслед за ім сярэбраны настане.

## Лісток

Плывуць аблокі - тоненькі лядок.
Даўно заціхла выраю гамонка.
А тут, на ўзлессі, б'ецца матылёк
над аганьком запозненым рамонка.

І верыцца: далёка халады.
Насуперак усякаму прагнозу
цяплом сінее гладзь рачной вады,
і не чуваць ні снегу, ні марозу.

І ў сэрцы растапіўся халадок,
і ажылі надзеі і жаданні.
Ляціць спакойна, кружыцца лісток -
табе мой ліст, апошняе каханне.

## У акне

Прыпыняю крокі я міжволі,
хоць хутчэй за ўсё здалося мне:
штора варухнулася паволі
на тваім зацененым акне.

А за шторай белыя герані
цягнуцца да сонца і цвітуць.
Ведаю, мае перажыванні
аніяк цябе не закрануць.

Ты - мая халодная лілея
на рачной празрыстай сіняве…
Азірнуся, а герань бялее,
дражніцца, смяецца і заве.

## Пяе гітара

Сняцца кіпарысы і Сахара,
ад яе яшчэ я не астыў.
Напяваю ціха пад гітару
з Афрыкі прывезены матыў.

За акном зіма і золь сырая,
мокры снег сцякае па акне.
Пальцамі лады перабіраю,
ты сядзіш і слухаеш мяне.

Ні пры чым, здаецца,
тут Сахара,
проста сэрца ў песні разгарну:
закранула ты ў маёй гітары
самую пявучую струну.

## Маладосць заве

Воблака плыве -
лебядзіны пух.
Далячынь заве,
аж займае дух!

На скале крутой
ты стаіш са мной.
Хваляй залатой
б'е марскі прыбой.

У тваіх вачах
дзіўны каларыт:
і салодкі жах,
і марскі блакіт.

Самы светлы час,
самы шчыры смех.
І пачуцці ў нас -
чысты горны снег.

Пырскі серабром
абдаюць уцёс,
верыцца ў дабро
і шчаслівы лёс.

Воблака плыве -
сіні з белым сплаў.
Маладосць заве
да вялікіх спраў.

## Ляснік

Я выходжу зноў на тую хатку,
што стаіць за вёскай у баку.
Песню без канца і без пачатку
ветрыкам даносіць праз раку.

Ні душы. І гукі песні гэтай
з заміраннем слухаю адзін.
Пахне хвояй,
  сонцам разагрэтай,
і смалой салодкаю ялін.

Песні ў такт калышацца галіна,
нібы дырыжорская рука,
ды яшчэ не ведае дзяўчына,
што запаланіла лесніка.

## Незабудкі

Час імклівы і хуткі -
луг засох і зачах.
Але я незабудкі
ў тваіх бачу вачах.

Хутка снегам палеткі
замяцеліць зіма -
ты блакітныя кветкі
прынясеш мне сама.

Ля каміна сагрэцца
не адмовімся мы.
У блакіт наглядзецца
мне не хопіць зімы.

## Статыстыка

Нехта сказаў:
"Статыстыка ведае ўсё".
І гэта амаль праўда.
Статыстыка падлічыла,
колькі людзей
пражывае на Зямлі.
Колькі сярод іх
мужчын і жанчын.
Колькі багатых і бедных.
Колькі галодных,
непісьменных,
бяздомных, беспрацоўных…
Але статыстыка
не ведае галоўнага:
колькі на Зямлі шчаслівых.

## Апошняя сустрэча

Я зразумеў: твой поціск развітальны,
хоць не сказалі мы ані слаўца.
Прачнуўся ветрык ранішні, світальны,
каб у дарогу рушыць без канца.

Плылі на захад воблачныя грады,
глядзела з даху зорка ўніз адна.
А нам шаптала лісце вінаграду,
што мы віно не выпілі да дна.

## Твая Атлантыда

Жаданая заўсёды і жывая -
такую лёс табе аднойчы выдаў, -
у снах тваіх дагэтуль усплывае
далёкага дзяцінства Атлантыда.

І шчасце тваё першае смяецца
каля акна чаромхай белай-белай,
хоць сто гадоў ужо прайшло, здаецца,
і тысячу разоў перабалела.

## Каля затокі

Каля затокі жоўтых дзюнаў груды.
І ні травы, ні кусціка нідзе.
Прыгожы, стройны і залатагруды,
спакойна ён па беразе ідзе.

Твой прынц!
Ён паўставаў у сне забытым.
Зачаравана ты глядзіш туды,
дзе хваля, аддаючы малахітам,
сцірае на пяску яго сляды.
Зліліся сон і ява нечакана.
Сляпіла вочы бляскам біруза.
Салёны вецер дыхаў з акіяна,
і набягала першая сляза.

## Знічка

Раптоўная ўспышка, імгненнае бліс -
і знічка згарэла датла.
Мо гэта бязмежная зорная выс
якісьці нам знак падала?

Яго толькі так зразумець я магу:
нам гэта адтуль напамін,
што мы перад небам заўсёды ў даўгу.
Усе мы ў даўгу, як адзін.

## Пісаць вам буду

Жыву сярод бярозаў і рабін.
Тут бусел будзе восенню кружыць,
лунаць у небе жураўліны клін,
і па сябрах тут некалі тужыць.

Яны далёка ўсе па гарадах,
жыццёвая іх кружыць карусель.
А вестку ад мяне знаёмы птах
ім па дарозе ў вырай занясе:

"Капаю бульбу і здаю грыбы,
не слухаю прагнозаў і навін,
сню па начах балотны мох рабы,
у пацерках ружовых журавін.

Зімы чакаю: будзе вольны час;
пакрые шэрань дрэвы і кусты.
Тады, сябры, успомню я пра вас,
пісаць вам буду вершы і лісты".

## ДЗВЕ ПЕСНІ

### 1. Дзе ты?

Замірае сэрца, хоць няма надзеі,
у майго каханка, у таго зладзея,
маладая жонка і малыя дзеці.
Добра ўжо і тое, што ён ёсць на свеце.

Наступае ночка - сэрца так заб'еццa,
гэта ён у дзверы стукае, здаеццa.
У руках пяшчота, на губах атрута,
без дажджу завяне і засохне рута.
Ночка пралятае, надыходзіць ранак.
Дзе ж ты, мой харошы?
Дзе ты, мой каханак?

**2. Зацвіце каліна**

Надышла, настала гэтая хвіліна -
адцвіла, апала без пары каліна.
Прыгажосць ніколі не бывае вечай.
Так і ты, каханне, часам хуткацечна.
У прылівах ласкі песціла яго я -
ён узяў сабраўся і пайшоў з другою.
Ані "да сустрэчы", ні "бывай здарова"…
Ціха ўжо скідае золата дуброва.
Ды гамоняць недзе ў паднябессі гусі,
што дарма тужу я, што дарма журуся.
Не сышоўся, хлопец, на табе свет клінам,
зноў вясна настане - зацвіце каліна.

**Цынія**

Паблісквае самотным агеньком,
як спадарожнік у начным палёце,
пад версанёўскім свежым вецярком
у суседкі цынія пры плоце.

Гляджу на цуд, здзіўляюся яму,
яшчэ нядаўна я яго не бачыў.
І мне здаецца: гэта ўсё таму,
што ён раней нічога мне не значыў.

**Ускраіна**

Халадок чаромхавай завеі,
белыя, як воблакі, сады.
Маладая траўка бранзавее
кроплямі-іскрынкамі вады.

Правады бягуць у просінь вуліц.
Ластаўкі прачнуліся ад сну.
На прыпынку хлопец “каравуліць” -
мо аўтобус, мо сваю вясну.

Мне таксама не сядзіцца дома,
з раніцы бягу туды-сюды,
бы на гэтай вуліцы знаёмай
размінуўся з некім назаўжды.

**Усё мінаецца**

Здараюцца ў жыцці любыя войны -
ідзём на рубяжы і віражы…
Калі ў цябе, мой друг, усё спакойна,
няма трывогі і ў маёй душы.

Жыццё - яно заўсёды ўперамешку,
за хмарным ясны выдасца дзянёк,
нібы ў траве няскошанага ўзмежка
праб'ецца краскі цёплы аганёк.

Усё мінаецца, ніколі не бывае
ні лета вечнага, ні без канца зімы.
І калі сёння іншы хто спявае,
то заўтра заспяваем, значыць, мы.

**Развязка**

"Ку-ку! Ку-ку!" - даносіцца здалёк,
а за платамі над травой прымятай
ніяк не можа ўзняцца матылёк,
захмелены духмяна-горкай мятай.

Ён крыльцамі заўзята б'ецца так!
Баюся яго высілкі сурочыць.
Ды бачу: на галінцы бэзу шпак
за ім таксама зверху пільна сочыць.

Канчаецца тут вытрымка мая,
іду ў праём расчыненае брамы,

шпак паляцеў, - так перайначыў я
развязку гэтай невялічкай драмы.

### Удзячнасць

Перахварэў, і сэрца апусцела,
і пачынаю зноў усё з нуля.
Душой спакойны і здаровы целам,
я адчуваю лепш цябе, зямля.

І пах травы, і тонкі звон крыніцы,
і дзіўны спеў начнога салаўя,
і гнеўны грукат летняй навальніцы -
усяму цяпер удзячны я.

І, зманлівая, кліча зноў дарога,
і халадок надрэчнага куста.
І зразумела мне, чаму так многа
ў сабе змяшчае гэта пустата.

## МІНІЯЦЮРЫ

### 1. Паэзія

Бяжыць радок, як па тэлеэкране,
радок саспеў, прыйшла яго пара,
і ён спяшыць, сарваўшыся з пяра,
людскія сэрцы і гаіць, і раніць.

### 2. Чаму?

Усмешлівасць блакітнай хрызантэмы,
халодная нарцысаў белізна.
Чаму паэты гэтай вечнай тэмы
ніяк не могуць вычарпаць да дна?

### 3. Памяць

Мы ў памяці сваёй былое будзім,
вяртаючы назад мінулы час.
Забылі нас - не значыць: мы забудзем,
забылі мы - успомніць нехта нас.

### 4. Восень

Туман, як пух, па-над лугамі сцелецца,
плыве далёка водар баравы,
шуміць, балюе жоўтая мяцеліца,
і журацца па леце журавы.

### 5. Свіцязь

Сярод лесу Свіцязь нібы чаша.
Смех дзяцей і песні салаўёў.
Прыгажуня сонечная наша
поўная блакіту да краёў.

### 6. Дзень

У першых промнях воблачка зардзее -
начны кашмар, як чарнавік, парві:
настане дзень - і ажывуць надзеі,
і запульсуе радасць у крыві.

### 7. Цуд

Жыў чалавек у доміку благім,
адбудаваў - і жыць стаў у палацы.
Давайце ж узнясем хвалебны гімн
найбольшаму на свеце цуду - працы!

## Азарэнне

Усе табе ўсміхаюцца, здаецца,
гармонія пануе і спакой,
калі Ікарам юным узнясецца
твая душа над грэшнаю зямлёй.

Але аднойчы прыйдзе азарэнне:
і сярод блізкіх нават, і сяброў
мы не заўсёды знойдзем разуменне,
і не заўжды адплацяць нам дабром.

## Элегія

Над ціхай ракою раскінуўся гай,
вясною там белай чаромхі пурга,
улетку мядовая ліпа цвіце,
а восенню золата вецер мяце.
Над ціхай ракою высокі курган,
у ім спачывае герой-партызан.
За мірнае неба жыццё ён аддаў…
Курган абмывае рачная вада.
Салоўка спявае над ім па вясне,
і сыпле чаромха пялёсткамі снег.
А ўлетку духмяная ліпа цвіце.
А восенню золата вецер мяце…

## А мне пачуцці нагадалі

Выходжу раніцай на ростань,
асенні клён гарыць-гарыць…
О, як нялёгка і няпроста
пачуцці ў словах паўтарыць!

Яны мне сёння нагадалі
вясны палескае разліў.
А недзе там, у зорнай далі,
пяюць і плачуць жураўлі.

І з неразгаданаю сілай
гучыць над безданню палёў
любоў да Бацькаўшчыны мілай
у сумнай песні жураўлёў.

Вось так і нас, усім багаты,
лёс па зямлі вядзе-вядзе,
але цяпло бацькоўскай хаты
не забываецца нідзе.

## Непазбежнасць

Настане дзень - і ў полымі зары
апошні ліст на клёне адгарыць.
І непрыкметна ён у Лету кане.

І новы дзень, і новы час настане.
І нехта іншы будзе гаварыць:
"Апошні ліст на клёне адгарыць…"

**Памылкі**

Дзень адгарэў і кануў пад гару,
за сіняю завесаю схаваны.
Яго памылак больш не паўтару,
але ад новых не застрахаваны.

Бо ведаю: мне заўтра прынясе
не толькі ўжо вядомыя задачы.
Ці правільна я іх рашу? Ці ўсе?
Ці будзе спадарожнічаць удача?

Каб і жыццё па-новаму пачаць,
нягледзечы на досвед і стаpанні,
прад кожным з нас працягвалі б гучаць
пастаўленыя толькі што пытанні.

**Мушкецёры**

Парыж і Лондан. Замкі і палацы…
Не думаў, што пра гэта напішу.
Далёкае ад нашай звыклай працы,
чаму яно запала мне ў душу?

Пагоняю імчацца мушкецёры,
наперарэз сцюдзёныя вятры.
А ў паядынку зваліцца каторы -
на выручку спяшаюцца сябры.

Несправядлівасць будзе пакарана,
каварства злога шпага не міне!
Бальзамам праліецца ім на раны
глыток у прыдарожным кавінэ.

І зноў у шлях. Нястрымна рвуцца коні.
Зноў высякаюць іскры капыты.
І чуецца мне ў  іхнім перазвоне
пакінуты нам продкамі матыў.

## Ружовыя валошкі

Калі маленства ўспомню,
трошкі
прыпамінаецца тады:
цвітуць ружовыя валошкі
ў далёкім полі ля вады.

Ружовы ветрык іх калыша,
пялёсткі падаюць на дол.
А навакол такая ціша.
І пахне ружамі вакол.

Паветра нібы мёдам льецца
у гэтай казцы незямной.
І сонца ружаю смяецца
ў блакітнай вазе нада мной.

Цяпер забыты сны і казкі
пары шчаслівае тае,
змянілі фарбы свае краскі
і пахі, шолахі свае.

## Край зямлі

Зара над лесам дагарае,
заснулі росныя палі.
А там, за самым небакраем,
ляжыць нябачны край зямлі.

Які ён, гэты край далёкі?
Ці шмат вядзе дарог туды?
Маўчаць ружовыя аблокі,
схаваўся месяц залаты.

Мо там красуюцца заўсёды
вечназялёныя гаі,
і ружы водзяць карагоды,
і не змаўкаюць салаўі?

А мо рассыпала пустыня
пяскі гарачыя вакол?
Ці пад халодным ветрам стыне
пакрыты вечным снегам дол?

І ледзяныя збудавала
палацы вечная зіма?
…Дарог туды вядзе нямала,
ды толькі лёгкае няма.

## Ільвоўна

Заходжу ў хату да Ільвоўны,
яна сядзіць каля акна
і ніткі цягне з белай воўны
пад мерны шум верацяна.

Работа гэтая няхутка,
але памалу, пакрысе
навяжа з нітак тых абутку
і на таўкучку занясе.

- Малыя з пенсіі раскошы,
А выйду - нешта і прадам.
Хоць невялікія, ды грошы.
Якісь рубель і ўнуку дам.

## Лёс

У верасні чаромха зацвіла:
з вясны яна падсечана была.
Марнела, сохла,
а па цёплым лецe
на ёй успыхнулі
духмяныя суквецці.
Але над імі пчолы не гулі,
бо тыя кветкі горкімі былі.
І на пялёстках ранкамі раса
блішчэла, нібы цёплая сляза…



# Марыя Быт

*Быт Марыя Аляксандраўна нарадзілася 30 студзеня 1955 г. у вёсцы Лозкі Наваградскага раёна Гарадзенскай вобласці*

*Вучылася ў Лозкаўскай васьмігадовай школе і ў Шчорсаўскай сярэдняй школе.*

*У 1975 скончыла Ваўкавыскае педвучылішча, у 1983 годзе - Менскі педагагічны інстытут.*

*Увесь час працавала на Нав採градчыне: у Альхоўскай, у Гагарынскай, у Сянежыцкай, у Ваўковіцкай школах.*

*Бацькі - калгаснікі, працавітыя, сумленныя людзі, якіх ужо няма на свеце.*

*Першая спроба пяра адбылася тады, калі вучылася ў 9 класе.*

*Любоў да паэтычнага слова суправаджала Марыю па жыцці ўвесь час.*

*Любіць вершы Сяргея Ясеніна, з беларускіх аўтараў творы Коласа і Купалы.*

*У 1998 годзе пачалося супрацоўніцтва з газетай "Новае жыццё". З таго часу шмат вершаў на розныя тэмы: пра вёску, сям'ю, прыроду, школу, краіну, гумарэскі і інш. - было надрукавана на літаратурнай старонцы газеты.*

*У 2005 годзе пры садзейнічанні Навагрдскага гістарычнага краязнаўчага музея быў выпушчаны зборнік вершаў "Лісцвяная мяцеліца", у склад якога ўвайшлі 27 вершаў.*

*Вершы друкаваліся ў "Гродзенскай праўдзе", у газеце "Полымя" г.п. Карэлічы і іншых.*

*Муж - ветэрынарны лекар мясцовай гаспадаркі. Дачка Наталля - старшая медыцынская сястра анкалагічнага дыспансера ў Баранавічах, сын скончыў Гарадзенскі аграрны ўніверсітэт. Жыве і працуе у Баранавічах.*

*З 2007 года на заслужаным адпачынку.*

*Ёсць ўнучка Валерыя і ўнук Іван.*

## Мой край

Там,дзе Нёман-рака срэбрам льецца,
Дзе сініцай лячу ў думках я,
Грае сонца на хвалях, смяецца,-
Там мой край, там радзіма мая.

Луг зялёны. Шаўковыя травы
Прамяністай іскрацца расой,
Вырастаюць стажкамі атавы
Сенакоснай духмянай парой.

Любы край! Свіцязянскія хвалі,
Чысціні і празрыстасці свет,
Бляск рубінаў у сябе ўвабралі,
Палявых васількоў мілых цвет.

Родны край! Навагрудак-гаданне,
Аб мінуўшчыне сказ-успамін,
Ты пачэсна нясеш сваё званне,
Нібы сведка вякоў, ты адзін.

Узвышаецца горда і смела
Твой курган Бессмяроцця сцяной,
Горад велічна птушкаю белай
Падымаецца над цішынёй.

Салавейка ў краі міла свішча,
Абуджае зялёны наш гай.
Ранак свежасцю роснаю дыша,
І чаруе квітнеючы май.

Тут усё мне да болю знаёма
Гэта сцежка, званочкі вакол.
Крочу шпарка. Не чуецца стомы,
Як сыходжу з пагорка на дол.

Кучаравыя, пышныя клёны
Апавітыя сіняй смуглой,
Мне здалёк адбіваюць паклоны,
Вербы ніцыя спяць над вадой.

Ідучы, я свой крок прыпыняю,
Дзе бярозак вясёлых сям'я.
Гэта - ты, як вясна маладая,
У вяночку, старонка мая.

### Слова пра матулю

Як ты жывеш, мая матуля,
Аб чым ты думаеш цяпер?
Мне сніцца, што нібы лячу я
На крылах мары да цябе.

Свой лёс я ўжо не перайначу,
Але і ўсё ж і я жыву.
Ты плачаш, мама, і я плачу,
Спяваеш ты - і я пяю.

Ідуць гады, падзей нямала
Благіх і добрых у жыцці.
Сяброў надейных я спаткала,
Ды лепш, чым ты,
мне не знайсці.

З чым параўнаць цябе матуля?
Ты - нібы сонейка вясной.
З табой так цёпла, так утульна,
З табой святлею я душой.

### Мяжа

Абрус жыцця перада мною.
Прастор, падзелены мяжою.
Там справа - сад калін-малін,
А злева - горы ды палын.

А я то ўгору, то з гары
Іду, каб выпіць цвет зары
Не шле маліна водар свой,
Каліна ўслед: "Я за табой".

Віецца сіні матылёк -
Шле вестку добрую сынок.
Далей - бярозка, абніму,
Маёй дачушкі сум вазьму.

А на раздвоенай мяжы
Каханых грэюць шалашы.
І тут шалаш, і там шалаш,
Ля іх - пусты куфэрак наш.

І так я крочу па жыцці.
Матуля, ластаўкай ляці
У царства белі, цёплых сноў
Да тых шчаслівых берагоў.

Самота, скруха ды палын.
Куды ні кінь - тупік ды клін,
Ды золкам раю не чакаю -
Малінкі свежыя збіраю.

### Капліца

На свет паглядае вялікі,
Люляе на ўзгорку спакой,
Купаецца ў сонечных бліках,
У аздобе гарыць залатой,

Імкнецца ў высокае неба
І цепліць красою пагляд,
Капліца святая патрэба:
Як ззяе для нас далягляд!

Машына шашою імчыцца.
Між волі прыходзіцца ёй
Ля самых Ваўковіч спыніцца:
Святыня пацешыць красой.

І келіх, і крыжык адкрыты
Для сэрцам прыгожых людзей.
Нядвецкі, святар, не забыты,
Бы кліча: "Заходзьце часцей!"

Усё ж у жыцці з Боскай волі,
Было так калісь і цяпер.
Не здраджваў ён веры ніколі.
Жыццё абарваў нейкі звер.

Узвысься ж ты велічна, розум!
Прачніся ад сну, цішыня!
Акрасай не толькі нам роздум,
А вынік пражытага дня.

Мінулага хто не ўшануе,
Таму шанцаў мала ў жыцці.
У сталасць, пару залатую,
Са справаю б добрай прыйсці.

- Каб вас паважалі ўсе людзі,-
Звярнуўся айцец наш святы, -
Хай чыста на могілках будзе,
І ў душах квітнеюць сады.

Святая з святыняў, капліца!
Я верую ў мудрасць муроў,-
Табе я іду пакланіцца,
Каб духам узвысіцца зноў.

**Касцёр**

Яшчэ была ў палях зіма.
Было ў душы сцюдзёна.
Чаму ж цяпла таго няма?
Кідала сум ікона.

І грымнуў гром, і збыўся цуд,
Касцёр пазваў пагрэцца.
Бягу, бягу: я, любы, тут,-
Трапеча-б'ецца сэрца.

Да ног мне сцелецца трава,
Пяюць санеты ружы.
Плыве ў аблоках галава -
Яе ад шчасця кружыць.

О, як успыхвае язмін!
Душа спраўляе свята.
Са мною побач ты адзін, -
О, сонца як багата!

Ужо мароз больш не пячэ,
У аблоках я лятаю.
Касцёр гарыць усё ярчэй,
І я ў ім згараю.

Нібыта лёгкі матылёк,
На полымя ляцела.
Касцёр прывабліваў здалёк, -
Там быць я так хацела

Касцёр мне любы распаліў,
І быў ён пасткай самай.
Узлёт і спуск, а то й абрыў,-
Пачуццяў маіх драма.

Бывай, сцюдзёная зіма!
Касцёр гарыць упарта.
Яго стварыла я сама-
Надзейны, цёплы, варты.

**Настаўніку**

А шаты восень залатая
Снуе бы кужаль, над зямлёй,
І памяць ластаўкай вяртае
У мілы край вучнёўскі мой.

Жыве там першая пяцёрка,
Сустрэне юная сям'я,
Гарыць, палае мая зорка
Жыцця майго ад "А" да "Я".

Там пахне свежым сырадоем,
І мякка сцелецца мурог,
Там у лагодзе і ў спакоі
Дабро ступае на парог.

Настаўнік -
мой прарок адкрыццяў,
Вас бачу зараз маладым
У светлым казачным блакіце
Недасягальным і зямным.

Урокам, формулам, задачам,
Здавалася, няма канца,
Жадалі шчыра Вы ўдачы
Не для чырвонага слаўца.

Тады, я помню, нам казалі:
"Ляціце, птахі! У добры шлях!"
Прытым спагадліва жадалі
Не ныць, не падаць у палях.

О, колькі год руплівай працы!
О, колькі пройдзена дарог!
Сустрэцца б разам, павітацца, -
Вас кожны ў памяці збярог.

Жыццё спакусліва міргае,
І быць пад сонцам нам навек,
Бо дзверы лёсу адчыняе
Настаўнік - мудры чалавек.

**Вясковая хата**

Нявесела, сумна глядіш на палеткі,
Дзе ветер гуляе, красуюцца кветкі.
Бясцэнны набытак сваіх спадароў
Вясковая хата, палонніца сноў.

Тут праца кіпела, жыццё тут квітнела.
Ты радасць дарыла і скарбы, што мела.
Утульнасць, цяпло і ўсё, чым жыла,
Ты родным і блізкім сваім берагла.

Цяпер ты ў вёсцы, нібы сірацінка,
Як тая самотная ў лесе рабінка,
Вясковая хата - дзяцінства агмень.
Ніколі каб ты не сышла ў вечны цень.

Стаіш не адна апусцелая ў вёсцы.
Не здрадзіла родным і белай бярозцы.
Успомні маіх землякоў дарагіх,
Бацькоў і дзядоў, і вяскоўцаў усіх.

О, свет непаўторны, сапраўднае свята
Дарыла матуля, страчаў мяне тата.

Вярніцеся,родныя, хоць бы на міг.
Як вас не хапае, хвілін залатых.

Ды хата застыла ў маўклівым чаканні.
Кідала святло ўслед мінуўшчыны зданям.
Здаецца, міргнула мне вокам шкляным.
Надзеяй жыла і тугой па былым.

**Бацькоўскі дом**

Раўніна, раўніна - як вокам абняць,
Нявесты-бярозкі страчаюць гасцінна.
Ляцяць мае вёсны, гады так ляцяць.
А родная хата ўзвышаецца чынна.

Радзіма пакліча, і сэрца шчыміць.
І я абдымаю вас родныя Лозкі,
Бо не перастала радзіму любіць.
Тут вербы расчэсваюць светлыя коскі.

Сюды прыязджаю, страчаюць палі.
Матуля і бацька ўжо не сустрэнуць.
Пайшлі на спачын, бавяць "там" ужо дні.
Сляды на зямлі іх, напэўна, не знікнуць.

Прыеду я ў вёску, на грэблі сыду,
Ляжыць да матулі дарога прамая.
Спачну тут душой, тут уцеху знайду,
І здасца мне часам: я - быццам малая.

Салодкі ўспамін, ход на міг прыпыні,
Як добра з матуляй жылося на свеце!
Хай ярка гараць сэрца маці агні.
Як маці жыве, то і мы - тады дзеці.

Самотная хата. У самоце і двор.
Па ім мая мамачка рупна хадзіла.
Пустуе радзіма мая, як дакор,
А будучы лёс - Усявышняга сіла.

Салодкія мроі прыхлынуць ракой.
Вам дзякуй скажу я за сонейка ў лёсе.
Няхай на тым свеце вам будзе спакой.
Царуе хай велічнасць там, на пагосце.

Я песні вясны вашы ўсе дапяю,
Пра ваша жыццё, як сапраўднае свята,
Пра волю, і долю, і радасць маю -
Была я шчаслівай, была я багатай.

**Дождж**

Гэты дождж усё цярусіць,
Аддаляючы вёсны, гады.
А заплакаць мяне не прымусіць,
Хоць не будзе ўжо так, як тады.

Эх, дзівачка: смяялася звонка.
За акном падаў восеньскі дождж,
А рабіны ружовая гронка,
Ды глядзела ў акно ціха ноч.

Вас назвала пяшчотна, ласкава.
Не кранулі вас словы мае?
"Я для вас была проста забавай", -
Так праўдзіва гітара пяе.

Адбалела, прайшло, адшумела,
У душы пакідаючы след.
"Я ж удзячнасці нават не мела!" -
Крыкну восені я напаслед.

Як за тую ў рацэ саламінку,
Я чаплялася так за жыццё.
Помню кожную кроплю-дажджынку,
І не стрэне мяне забыццё.

Боль і сум, і фальшывыя маскі,
Заглянула і подласці ў твар,
Без ваганняў, згрызот, без падказкі
Адзіноту прыму, быццам дар.

## Самсону Пярловічу

Пахаладзелыя зоркі дрыжалі,
Падаў сняжок на ўстрывожаны твар.
Плакалі словы, і вусны шапталі -
Чуў іх увесь Прынямонскі абшар.

Сціх, змоўк паэт Навагрудскага краю.
Вольныя ветры галосяць на ўзрыд.
Снежнай мяцеліцы, цёпламу маю
Памяць аб ім выльe цвёрды граніт.

Слова тваё, о Самсоне, жывое!
Як жа яго ты цаніў і бярог!
У сэрцы нашчадкаў тваіх дарагое
Існасць прадоўжыць у плыні дарог.

Шлях да цудоўнага з іскраю веры,
Шлях каляінаў і церняў глухіх,
Не зарасце, не зачыняцца дзверы
Ў свет хараства і мясцін дарагіх.

Глянь, як хвалюецца сэрца народа,
Думкай крылатай узрушыцца скронь.
Дзе ж наша доля, дух праўды, свабода?
Вечна гарыць чарадзейны агонь.

## Люблю, кахаю…

Паўднёвы вецер гушкаў хвалі -
Быць навальніцы. Двор аціх.
Ляталі ластаўкі, гукалі…
Здаецца, толькі нас дваіх.

Упалі першыя дажджынкі
На луг, на цёплую раллю,
А з воч маіх цяклі слязінкі
Ад слова светлага "Люблю".

"Люблю", - прамовілі вы ціха.
Ці то прыснілася так мне?

Якая мілая уцеха-
Гучанне вашых слоў у сне!

Мне падарыў іх куст язміну -
Які чароўны белы цвет!
Шаптала велічна рабіна
І паўтараў іх грэшны свет.

"Люблю, кахаю", - дождж вясновы
Да слыху музыку данёс.
Пяшчотай веяла ад словаў
І свежасцю світальных рос.

Ды не пачулася, сказалі
Мне іх і сонца прамяні.
Мне вусны вашы іх шапталі,-
І шчасця пырснулі агні.

**Рэквіем**

Быў майскі дзень, дзень Тройцы святой,
Свяціла сонца, птушкі шчабяталі,
Аблокі, неба сінь над галавой,
Бярозак шэпт бяды не прадвяшчалі.

І зеляніна дрэў, і бэзу пах
Дапоўнілі настрой святочны зранку.
Здаецца стомы не было ў нагах:
Хто быў у царкве, хто трапіў на гулянку…

Ды раптам вестка ўскалыхнула свет
Аб жудаснай падзеі ў сталіцы.
Ён ціснуў, не ўмяшчаўся ў галаве -
Той жах, што мог хіба ў кашмары сніцца.

Хто тут віной? Шалёны вецер, град,
Прыступкі ці дзявочыя абцасы?
Хвілін праз дзесяць сціхнуў дождж-вар'ят…
Дзясяткі жыццяў ён спыніў заўчасна!

Чаму такім суровым быў ваш лёс,
Пяшчотныя Алёнкі і Марынкі?
Каб вас аплакаць - колькі ж трэба слёз…
Патухлі свечкі, згаснулі іскрынкі.

А хутка сонца яснае ізноў
На небе сінім промнямі зайграла,
Ды не вярнуць ні дочак, ні сыноў.
Згубіла іх Нямігская навала.

**Сад**

Мой белы сад - уцеха залатая,
Хачу я шчырай госцяй быць тваёй.
Тут яблынька гамоніць маладая
Ў сукенцы пышнай белай, незямной.

Нявесты-вішні белыя, дарыце
Бялюткі вэлюм сонцу і зямлі,
Купайцеся ў сонечным блакіце -
Ваш добры свет і высі зберaглі.

Пальецца музыка, як хлыне ветрык, -
Паправіць вэлюм лёгкаю рукой.
Адразу сум кранае светлы,
Няпрошана віецца нада мной.

У гэтым свеце ўсё толькі імгненне:
І я, і ты, і гэты белы сад.
Завеяй сцеле белае цвіценне,
Мяце ў душы мой белы снегапад.

Руплівай пчолцы ёсць дзе супыніцца:
Бы з вуснаў, п'е няктару чысты мёд.
А я гляджу і не магу напіцца
Красы дзяўчат, што цэлы карагод.

Іх цёплы ветрык мрояй узлагодзіць.
Цалуе сонца тварык маладых.
І чысціня над садам узыходзіць,-
Там маё сэрца, вёсны і гады.

## Маці

Дарагі ў жыцці чалавек!
Аб табе і пяю, і сумую.
Дараваў Бог табе доўгі век,
Вартасць духу ў ім немалую.

Куды ж знікла рухавасць ў нагах?
Ах, як шчыра ў палях працавала!
Ззяе зоркаю пройдзены шлях.
Я заўсёды яго шанавала.

Апусцеў матчын дом, нібы спіць.
Клён стары неяк жаласна стогне.
І дрыжыць жоўты ліст, і звініць,
І бярозка застыла ў паклоне.

Дрэвы-помнікі дзён, што прайшлі.
Іх, на дзіва, у вёсцы багата.
Навальніцамі сны праплылі.
Адгрымела сапраўднае свята?

Дык чаму ж не смяешся цяпер?
Хіба я для цябе не ўцеха?
Ты вясне ў цёплых фарбах павер,
Адгукніся, як светлае рэха.

Б'е акорд дзён святлей і званчэй.
Ціхай ласкаю сонца атуліць.
Мне на свеце з табою лягчэй,
Свет у акенцы, мая матуля!

## Поле

Як гамоняць улетку лясы!
Свішчуць птушкі на ўсе галасы.
Я ж заўсёды душой з родным полем,
Там, дзе вецер гуляе прывольна.

Прыбягаю ад тлуму не раз,
Каб пачуць каласкоў дзіўны сказ.

І адкрыецца перад вачыма
Свет твайго залатога кіліма.

Хваля жыта ізноў набяжыць,
І званок палявы зазвініць.
І куды маім марам падзецца?
Замірае ад радасці сэрца.

Ты пакліч у бязмежжа здалёк
Ночкай летняю, сінь-васілёк, -
Там у роднага поля прасторы
Углядаюцца чыстыя зоры.

Тут прытулак - іх родны дом.
Свеціць месяц чароўным святлом.
Ну а днём на прасторах бясконцых
У яркіх промнях купаецца сонца.

Не адняць, не прадаць прыгажосць.
Ты сюды завітай, добры госць.
Будзем разам красой любавацца,
Каб у светлых пачуццях прызнацца.

**Лета**

Я люблю цябе, цёплае лета,
Я табою так шчыра сагрэта.
І за кветкі так моцна люблю,
Што пяшчотна глядзяць на зямлю.

Што за водар ствараеш наўкола!
Дыяменты нясе метыёла,
І духмяны вячэрніка куст
Вабіць добры і тонкі густ.

Цешыць душу тваю цеплыня.
Як гараць усе колеры дня!
А каго ж не ўзрадуе сонца!
Дасць жыццёвую радасць бясконца.

І палёў, і садоў зеляніна
Над зямлёй узвышаецца чынна.
Вас сустрэне ў палях сіні лён,
Беларускі аддасць вам паклон.

Мнагаводны шаноўны наш Нёман,
Чуцен, вабіць здаля нас твой гоман,
З табой думкі ўзлятаюць да зор
На шырокі і вольны прастор.

* * *

Ты прагрымі гітарай звонкай,
А я ў рытм ёй патанцую.
Ты прашумі бярозкай тонкай,
А я ёй ножкі пацалую.

Ты завітай у сад цвітучы,
Там я з табою пакружуся,
Ты забрыдзеш у лес дрымучы,
І я з табою заблуджуся.

Ты прыйдзеш, любы, знаю, знаю,
Сузор'і неба запалаюць,
Духмяным, свежым караваем
Цябе, мой любы, сустракаю.

О, светласць чыстая пагляду!
Я не забуду твае вочы,
Хвіліны помню зарападу
І цемру восеньскае ночы.

Спыні, імгненне, час далёкі
І шчасце кожнае сустрэчы.
Спявалі золатам асокі
У ціхі месячны наш вечар.

Ты прагрымі гітарай звонкай,
А я так пільна буду слухаць.
Ты чуеш, мілы, жаваронка?
І ні па чым туга і скруха.

Пайду на луг - якое свята -
У сэрцы любай апынуцца,
Рамонкаў светлых як багата,
Каб з варажбой да іх звярнуцца.

Калі ж у звыклай тваёй песні
Цябе, нявернага, убачу,
Пайду ў світанні напрадвесні
І ад адчаю не заплачу.

Няўжо пасееш у сэрца здраду?
Тугу я фарбай занатую,
Пакіну водшыбы фасаду,
Пайду у восень залатую.

## Скачы, мой конь

Я варушу лісты календара
І прыпадаю пільна да пяра.
А за акном рака блішчыць, як срэбра,
Жыццё міргае паласатай зебрай.

Куды ж бяжыш, неўтаймаваны конь?
А з-пад капытоў тугіх цурчыць агонь.
А ці ж усе спазнаеш ласкі сонца
У вечных муках, клопатах бясконцых?

А конь упарта моцным капытом
Бярэ гары крутой далёкі злом.
Пасля пад неба рэзка ўзвівае,
Яму не страшна вышыня любая.

Тут я пытаю ў смелага каня:
"Ці ты паспееш да світання дня?
Ці зможаш, конь, ты з хібамі змагацца?
Ці лепш табе ў росах красавацца?"

А конь адказ кідае на скаку:
"Пабачыў многа на сваім вяку.

Я не змаруся цвёрда браць вяршыні,
Пакуль каханне сэрца не пакіне".

І я гартаю новы каляндар.
Мой конь буланы, што нясеш мне ў дар?
Кілім нябёс, вясёлкамі саткань,
Бо ўсміхнуўся міла мне каханы.

**Свіцязь**

У цёплы сонечны дзянёк
Вабіш ты ўсіх здалёк
Сваей светлай, гожай цішай-
Цэнтр Навагрудскага ўзвышша.

Свіцязь возера. Бягу.
Каб не ўбачыць - не магу.
У суцэльным кольцы лесу,
Мабыць, сніш, скажы, прынцэсу?

Тут Міцкевіч, знай, хадзіў
І паэму прысвяціў.
Светлы прывід Свіцязянкі
Тут выходзіць з вады ўранку.

Шмат паданняў, не сакрэт,
Пра цябе, вер, зведаў свет.
Кажуць,тут узвышаўся горад.
Цяпер ты нясеш свой гонар.

Ночкай месяц на двары,
Цуд лунае з той пары.
Туман сцелецца высокі.
Тут русалкі ладзяць скокі.

Цешыць душу дзень пры дні
Свет азёрнай чысціні.
Дай жа Бог табе свяціцца.
Чараў я іду напіцца.

**Завея**

Беласнежная завея
Сцежку за маім акном,
Быццам казачная фея,
Скрозь заслала серабром.

Наляцеў свавольнік-вецер,
Разгуляўся вольны птах,
Гнуў бярозцы долу вецце,
Нагарнуў сумёт, як гмах.

Глуха біў у аканіцу,
Як зімы сярдзіты дух,
Рваўся зверам у святліцу,
Завірухі снежнай зух.

Як на поле ранкам гляну:
Кружыць, сыпле снежны пыл.
Уздыхаць з жальбой не стану,
Што абсяг нібы сляпы.

Думкам дам сваім патолю,-
Крочу ў неба, як на трон,
Хараства нап'юся ўволю.
Ветру мчуся наўздагон.

Ужо пад вечар у суседзяў
Не вярэдзіць сцюжа слых.
Курганы, нібы мядзведзі,
Вабяць да сябе малых.

**Родная мова**

Аб каштоўнасцях, аб вечных,
Аб свядомых, чалавечных
Народ кожны гаварыў,
Скарбы нам свае дарыў.
Мова кожнага народа,
Ты багата, як прырода.
Сума душ яго жывых
I цяпершніх, і былых.
Ты - фундамент натуральны,
Свет духоўнасці стваральны.
Прыйдзеш, музыка душы,
Сілу духу нам вяршыць?
Хто руку проці законаў
Падымае аж да скону?
Дом будуеш на пяску?
Воды хлынуць, пацякуць.
Вы становішча ўратуйце,
Будзе дом зіхцець у святле,
Палац новы на скале.
А душа без роднай мовы-
Гэта ветразь папяровы.
Гэта проста пусты дом,
Гэта скрыпка, нібы злом.
Мова родная-калыска,
Галаву схіляем нізка.
Душа рвецца да яе,
Ганарыцца і пяе.
Дык шануйце сваю мову,
Што для розуму аснова,
Будзіць душы ў дзядоў
I прыходзіць зноў і зноў.

**Бывай, настальгія**

Адцвіла каліна ў полі.
Спіць чаромха ў нашым садзе.
Тчэцца смутак у паглядзе:
Старасць тупае паволі.
Вішня золата надзела-
Непаўторны сум прыроды.
Эх, дзіцячыя прыгоды!
Стомленнасць не знала цела.
Восень пышнаю паненкай
Заспяшалася ў госці.
Жаль і сум кідае штосьці
Перад Натаю і Ленкай.
Толькі я больш не сумую,
Бо гады- маё багацце,

Бо правы маю на шчасце
І нічога не шкадую.
Што збылося, не збылося,
Адгуло ці не грымела,
Майскім садам не кіпела,-
Прарасце буйным калоссем.
Мякка сцелецца дарожка,
А па ёй- прэч смутак з жалем.
Шлю усмешку ясным далям…
Бяжыць восень рыжай кошкай.

**Родны дом**

Хоць і восень ужо за акном,
Але сонечны грэе прамень.
У сіняватай смузе цёплы дзень.
А я еду ў родны свой дом.

У палісадніках астры цвітуць,
І атава буяе ў лугах.
Край мой родны
хлебам прапах…
О, як добра на сэрцы тут.

Вёска родная - Лозкі - жыве.
Сонца лье на зямлю цеплыню.
Як прырода, і я рада дню…
І дзяцінства ў думках плыве.

Поле роднае-мілы абсяг.
Даланю я табе працягну.
Хоць і час не малы ўжо мінуў,
Да цябе я імкнуся ўсяк.

Тут матуля люляла мяне.
На бацькоўскі ступаю парог
Адпачыць ад жыццёвых трывог,-
Клён прыветна галінкай кіўне.

З вамі болю знайду забыццё,
Высачэзныя дрэвы-сябры,
Вам я сэрца гатова адкрыць,
Распавесці пра долю-жыццё.

Тут мне кожны куток дарагі.
Родны дом, ты мой светлы ачаг,
З часам ты ў журбе не ачах,
Мне жыцця ты накрэсліў кругі.

**Мой край**

Мой родны край!
Палёў раздолле!
У думках, марах я ізноў
Сярод прыгожых на прыволлі
Блакітна-сініх васількоў.
Шапоча ніва, луг гамоніць.
Прастор вакол і прыгажосць.
Цяністы лес
нам радасць дорыць.
Тут будзеш ты жаданы госць.
Мой родны край - мая надзея
У светлы час і ў час тугі,
Прытулак у жыцці надзейны,
Куточак сэрцу дарагі.
Зірні удаль - перад табою
Бяроз чародка трапяткіх,
Прывабных мілаю красою,-
Не адвясці вачэй ад іх.
Так цешыць душу, нібы сонца,
Бацькоўскі кут, мой родны дом.
Я край бяроз люблю бясконца,
Сагрэты матчыным цяплом.
Хвала рукам працалюбівым,
Што ўслаўляюць родны край.
За тое, каб ён быў шчаслівым,
Усё спаўна яму аддай.

**Раскоша**

Бяскрайняе неба - раскоша!
Як сонца смяецца прыгожа!

Усё б у жыцці паспытаць,
А гора нам лепей не знаць.
Раскошнае цешыць нам душу, -
Прызнацца ў гэтым я мушу.
Брыльянты і золата - вам.
Усмешкі прыгожыя - нам.
У кагосці раскоша - машына,
Каханак - прыстойны мужчына.
Як футра на сонцы блішчыць,
І вам яго хочуць дарыць.
У тых-ох! - багацце якое!
Зайздроснікі, дайце спакою.
Я знаю раскошу адну:
Матулю маю і вясну!
Ёсць шанц
на раскошу ў кватэры.
Дзе ж рыцарства дух, кавалеры?
Раскоша, прызнаюся вам, -
Мая дарагая дзятва.
Тулюся, галублю, люляю,
Я з вамі надзей не губляю.
Дастану да зоркі рукой,
Каб свет запаліць над зямлёй.
І цешыць ваколіца вока.
Іду па жыцці мерным крокам.
А дзеткі, як кветкі, прыму, -
Мне з імі раскоша ў зіму.

**Чаромха**

Чаромха мая белая,
Што, сумная, стаіш?
Што белая, нясмелая
У госці не бяжыш?
У ласцы ты з аблокамі
Шлеш мудрасць на зямлі.
Над хатамі высокімі
Мяцеліцы гулі.
Напоўніш сэрца марамі
І мройны сцелеш след.
Каханыя тут парамі
Пакінуць свой сакрэт.
Страчай нас зарападамі.
Ляцяць пялёсткі ніц
Пяшчотнымі паглядамі
Зор велічных з крыніц.
Цвіці, мая нявестачка,
У вэлюме вясны,
Парадуй добрай вестачкай,
Агучвай мае сны.
І тонкі водар сцелецца,
А побач - я і ты.
Мяці, мая мяцеліца,
Чаромхай праз гады!

**Бацькаўшчына**

Ты мая Радзіма - чараўніца,
Светлая, як месяц сакавік.
Да бярозкі белай прытуліцца
І яе абняць, бы светлы блік.
Ты здаўна завешся Белай Руссю,
Срэбназвонны свіцязянскі край.
Аб табе спяваць я не змаруся, -
Хараство якое, проста рай.
Пахадзі па сцежках баравінных, -
Ты пачуеш голас векавы,

Што нясе зялёная Айчына
З-пад аблокаў белых веснавых.
Паплыві ты хваляй шумнацечнай,-
Бацька-Нёман будзіць успамін.
Пра героеў памяць будзе вечнай.
Кружыць вальс, успыхвае язмін.
Тут жыву і тут я застануся
У абдымках велічных вятроў.
У куточку мілай Беларусі
Салавей паселіцца ізноў.
Кажуць людзі: "Ёсць на белым свеце
Прыгажосці казачнай краі".
Цвёрда веру, што на ўсёй планеце
Наймілей усё ж мне - у маім.
Ласкай матчынай асветлены дарогі.
Ад маёй Радзімы - бальшакі.
Хай бягуць, не зведаўшы трывогі,
Пад шчаслівым сонцам на вякі.

## Спі, беларус!

*Памяці Мікалая Васільевіча Балая,*
*шчырага беларуса, настаўніка*
*і кампазітара-спевака.*

Тут ціха, маўкліва. У скрусе тут травы.
Спяць продкі: навекі пайшлі на спачын.
Жыццё іх - нам прыклад даволі яскравы.
Тут роднага краю заснуў верны сын.
Пакінулі сэрца турботы зямныя,
Як мары, яны ўзышлі ў небакрай.
Іх помнім і мы, помняць іх маладыя,-
Жывым яго помніць азёрны наш край.
Крыніц галасамі, бароў перазвонам
У сэрцах ягоная песня плыла.
А зараз ідуць сюды людзі з паклонам,-
Рунь думак яго збажыной прарасла.
Паэт і музыка, твой голас вясёлы,
Для нас ён заўсёды, як звон ручая.
Спяваеш на сцэне, гаворыш ля школы, -
Пра лёс твой, як зорку, і памяць мая.

У жыцці не цураўся ніякае працы:
Зямельку араў і настаўнікам быў.
Ды трэба было з Беларуссю расстацца, -
У дзень красавіцкі галоўку злажыў.
Твая сёння песня звініць па-над краем,
І роднае слова струменіць святлом,
Заранкі лунаюць над полем і гаем
І цепляць надзеямі родны твой дом.

### Мамін сум

Не сумуй, мая добрая мама!
Мне так лёгка заўсёды з табой,
Маё сэрца кранае таксама
Жаўруковая песня вясной.
Супакой сваё сэрца. Не трэба
Ціха плакаць і слёзна ўздыхаць.
На бязмежжа блакітнага неба,
Як і ты, я люблю пазіраць.
Я з табой палунаю ў аблоках.
"Адпачні ад турботаў",- прашу.
Залатым я грабеньчыкам локан
Тваіх кос дарагіх расчашу.
Хто сказаў, што цябе я забыла?
Што ў роспачы я ўсё яшчэ?
Я цябе, мне павер, так любіла.
Настальгія па дому пячэ.
Глянь: у маі наш сад увесь белы,
Сее ён чысціню ў душы.
Тваім голасам вішня запела.
Хараство тваё грае ў цішы.
Не кажы, быццам век твой пражыты.
Мне з табою так хочацца жыць:
Веснавая краса нам адкрыта,
І ў лета з табою мне плыць.

### Неба і зямля

Я гляжу на неба: светлая палоска
Ў сэрцы абудзіла цёплы ўспамін,
Залатыя вёсны, шчасця адгалоскі,-

І паэт застаўся з цішынёй адзін.
Неба мне гартае мудрасці старонкі,
Я іх дапаўняю вопытам сваім.
У роспачы пачую маці голас звонкі-
Матчын свет шырокі; хораша ў ім.
Я гляджу на неба: чысціня чаруе.
Дзесьці ж агрэсіўна бразгаюць мячом.
Толькі просінь неба душу адратуе,
Загартуе сэрца ў барацьбе са злом.
Смелыя ёсць людзі. Ім пяём мы славу -
Не баяцца грому, моцнага дажджу,
І з вышынь нябёсаў думаць нам па праву,
Як ушчэнт рассеяць на зямлі імжу.

**Купалле**

Купальская ночка плыве над зямлёй,
Таемнасць і чары нясе за сабой.
Купаецца сонца ў чыстай расе,
Касцёр палымнее ў поўнай красе.
Так светла вакол, нібы сонечным днём,
І месяц, і зоркі чаруюць агнём.
Кіпучы, гарачы купальскі касцёр
Сваю даланю ў прастору прасцёр.
Паводле павер'я, у час гэтай пары
Гавораць і дрэвы, і птушкі, звяры.
Той ночкай цікава ў рэчку глядзець:
Там прывіды можна ўбачыць ў вадзе.
Каб душу ачысціць ад зла і грахоў,
Купайся ў расе, праз касцёр скачы зноў.
Пакоцяцца кола і бочка на ніз, -
Як быццам бы сонейка падае ніц.
Абрады такія ў народзе жывуць,
Аб гэтым у песнях народных пяюць.
На свята Купалля, у поўначы час,
Цвіце тады папараць-кветка для нас.
Цвіці, кветка-папараць, шчасце нясі!
Купалле, прыродзе ты сілу дасі,
Адкрыецца людзям цудоўнейшы скарб,
І будзе ўрадлівасць, дастатак і лад.



# Уладзімір Гайдук

*ГАЙДУК Уладзімір Антонавіч нарадзіўся ў БССР, у 1959 годзе, 28 лютага, у суботу, у невялічкай панямонскай вёсачцы Брацянка, што на Навагрудчыне. Усе жыццё яго звязана з гэтымі прыгожымі мясцінамі. Тут, у Навагрудку, ім пабудавана хата, у якой нарадзіліся дзеці. Вершы пачаў пісаць зусім выпадкова, зарыфмаваўшы ўражанні ад пачутага анекдота. Гэта здарылася ў саракагадовым узросце, што стала першым штуршком, што паклікала ў гэту прыгожую краіну, якая завецца "Паэзія". Вынік на ваш суд, дарагія чытачы!*

*Галоўнай мэтай выдання гэтай кнігі аўтар бачыць у тым, каб захапіць чытача лірычнымі радкамі. Каб чытач паглядзеў на наваколле вачамі паэта, у новых фарбах, вобразах, у рытмах і рыфмах па-іншаму, каб, прыпыніўшыся пры прачытанні, усвядоміў напісанае, адчуў міжрадкоўе, не дасказанасць, уявіў увачавідкі тое, што напісана, аб простых рэчах высокімі, узнёслымі, прыгожымі словамі з філасафічнымі высновамі…*

*Адным з галоўных момантаў падняцця настрою чалавека ёсць гумар, байкі, жарты. Яны даюць магчымасць паглядзець на сябе з боку. Галоўнымі героямі выступаюць жывёлы, птушкі, рэчы і г.д. Але пераносіцца на нас, людзей, на наш побыт і паводзіны, добрасумленнасць і абыякавасць, сквапнасць і дабрыню, дурноту і незапатрабаваны розум. Гумарыстычныя творы вельмі карысныя, адлюстроўваюць нашы паводзіны для таго, каб высмеяць нешта недарэчнае і падказаць выснову, выйсце з гэтага становішча…*

*Аўтару будзе вельмі прыемна, калі дзякуючы яго намаганням у некага падымецца настрой ці нешта памяняецца ў жыцці.*

## Скрыпач у пераходзе

Там непрадказальнасці гукаў нямала,
Лагоднасцю скрыпка ўсе разбаўляла.
Лісліва  баюкала, гладзіла нервы ,
Шаптала на вушка - ты лепшы і першы!

Са слёзкамі ўсіх  прабачэння прасіла,
То ўспомніўшы нешта наўзрыд галасіла.
Смяялася звонка, вярталася рэхам,
Была заляцанкай  прахожым, пацехай.

Ды людзі спяшаліся, нізка галовы,
Не зведаушы цымусу нават паловы.
За руку ўзяла ўсё ж яна некаторых,
Спыніцца прымусіла, быць з ёю поруч.

Свяціліся твары , усмешка вітала.
Уявіў ён сябе прад  вялізарнай залай.
(у сталых  гадах,  усяму ведаў цэну)
Яшчэ ў вушах меў авацыі сцэны.

Фрак чорны з адлівам і постаці гонар,
Маэстра ўзор, прафесійнасці годнасць,
Няголенасць твару ўсяму  ў дапамогу,
Аж душы кранала і лашчыла многіх.

Апошнія ноты, удзячнасць у паклоне,
Ён гукамі сэрцы людскія палоніў…!
Усё падарункам і па-дысідэнцкі
Меў шчырасць падзякі ў апладысментах...!

## Саксафон

Святочнай залай легла цмянасць,
Сабой бармэна не чапіўшы.
У таемнасць павяла каханых,
А ты здалёк разбавіў цішу.

І я самлеў душой знямелай,
На пару хвіль мяне не стала.
Гучаў ты кволенька, нясмела,
А сэрца буйна грукатала.

Узяў ніжэй, заплакаў сіпла,
Цяклі ў трызне слёзы.
Плылі маркотныя ўсхліпы,
І залы мой крануўся позірк.

Была яна ў нейкіх чарах,
Прытым маўчала нерухома.
Прабегла хвалька па бакалах,
Мне так схацелася ўсвядоміць.

Дзе чуў тых гукаў непаўторнасць?
Дзе іх жыве нямы пачатак?
Ты ж ноткі жвавыя прыпомніў,
Прысутных акунуў у чардаш…

## Азёрная фея

То ў лодцы плывеш чыстай роўняддзю,
То йдзеш берагам і ўсміхаешся.
Табой вобразы возера поўняцца,
І хлапечага сэрца кранаюцца.

Ты  цудоўная і непаўторная,
Між начнымі плывеш бліскавіцамі.
Зграбнай постаццю, сілай чароўнаю,
Доўга помніцца будзеш і сніцца мне.

Уся твая нагата ў шэрым вэлюме,
Хвалькам вольнасць упрэчкі разбегчыся.
Прыйдзе добрых уражанняў вельмі ўжо,
Параўнаю цябе толькі з вечнасцю.

Ты нагая, святая і грэшная,
Ноч і сэрца табой запалонены.
Плёс набегшаю хвалькаю цешыцца,
Закаханы ў цябе месяц клоніцца.

Раптам птушкаю ціша парушыцца,
Рэха ўслых адгукнецца ля месяца.
Ты нябачнага храма паслушніца,
Вобраз твой у маім сэрцы месціцца.

**Жанчына нашага краю**

*Да паэмы Адама Міцкевіча "Гражына"*

Змагацца за край было ўдзелам мужчыны,
Усё тое не ёй ….не ўспрымае Гражына ...
Даспехі прылеглі да зграбнасці стану:
- Ты будзеш, чужынец, мячом пакараны!

Іржуць ужо коні …. Наваградка плошча,
Вятры над сталіцай харугвы палошчуць.
Вядзе за сабою ў княжавым убранні
Паход на крыжацкія воўчыя зграі

Характар няўрымснай ліцвінкі - цвярдыня,
З ліслівасцю мужнасць яе не астыне,
Ваярства, жаночасць - усё тое да месца,
Аж ворагу млосна, жахліва і цесна.

І б’ецца яна аж за трох акружэнцаў,
Аддасць за радзіму не руку, а сэрца.
Хоць варагаў процьма, упэўнена ў сіле,
І меч яе клаў … немца ў кучы, касіў бы.

Ды рукі здранцвелі, зацяжылі латы,
Тут меч па-зладзейску, заплечны, закляты,
І падае лёгка красуняй - лябёдкай,
Пакінуўшы ў полі смак славы салодкай…

І сёння легенды жывуць аб жанчыне,
Літоўкай* вяночкі плывуці ..!
усе ад той жа Гражыны!

** Літоўка - возера ў Наваградскім раёне Беларусі. У паэме ўпамінаецца слова “Літэўкі”. Ёсць меркаванне, што, магчыма, на гэтым возеры пісалася паэма.*

### Жадаю вам!

Пад зграбнаю ліпай
　　　　　і безліч пчаліны,
Агортваў юнак
　　　　　прыгажуню дзяўчыну.
І вусны, не меўшы
　　　　　зусім перашкодаў,
Палалі і рдзелі,
　　　　　і смак мелі мёду.
А шчочкі красуні
　　　　　без іскры гарэлі,
Абодва ў высях
　　　　　сваіх каруселяў.
Пачуцці лunалі аж
　　　　　за небакраем… ,
І стукалі сэрцы…
　　　　　кахаю, кахаю!
Пашчасціць, і тое
　　　　　вас недзе спаткае
Паміж завірух
　　　　　ці ў квецені мая.

### Чужая любая

Вас немагчыма не кахаць,
У надзеях верыць, спадзявацца.
Вас немагчыма не кахаць,
Ды як магло такое стацца?

Што Ваша сэрца і рука,
Не мне належаць, а другому.
Гатовы усё жыццё чакаць,
Мы так даўно знаёмы.

Пагляд і вусны ўсё яму,
Мне толькі кволая надзея.
У думках за руку вазьму,
Вы для мяне вясновай феяй.

Вас немагчыма не кахаць,
На жаль ,належыце другому.
Толькі цяпер я змог спазнаць
У каханні безнадзейным стому

Яму пагляд, яму рука
Ды пацалункаў чарада.
Вас немагчыма не кахаць
Вас немагчыма…

### Чырвонае на белым

Шырэе між намі мяжа,
Абветраны словы кахання.
А ружы на снезе дрыжаць,
Бы сведкі балючых растанняў.

Так прыкра і сумна гдядзець,
Чырвонае месціцца з белым.
Куды, ночка, нас завядзеш?
Снягі вэлюм кветкам адзелі.

Вы сёння дарункам зіме,
Што не раскахае, не здрадзіць.
Я мроі, надзеі ўсе меў,
У мару паверыў - мо зладзім!

Віную сябе, вечар, змрок,
Твой след да мяне засцілае.
Шкадую, не змог, не збярог,
Маўчу, спадзяюся, кахаю!

### Клін

Кахаю, смяюся, плачу -
Запозненыі ў небе клін.
Кірунак узяў за ўдачай,
І мроіцца, што ў ім
Лячу я ў невядомасць,
У ёй бы сябе знайсці,
Пакінуць зямную стому
Ды тое, што так карціць,
Ды тое, што так балела

І спэўніцца не магло.
Узяў трапяткую смеласць
Махнуць на ўсё крылом,
Спаткацца, каб з новым ветрам,
Ды рэхам сябе адчуць,
У новых мясцінах светлых,
У свет небыліц лячу …
А клін ну зусім вось блізка,
Ды мары мае дарма:
Здаецца, вось слёзы пырснуць, -
Між птушак мяне няма.

**Жанчынам**

Не закахацца ў вас няпроста -
У шчырых сэрцаў цеплыню.
Вы ў бальзакаўскім узросце,
І вочы з чарамі агню.
Вас не кранае нават восень -
У сэрцах вечная вясна.
Надзеі кветкі вам прыносім:
"Ты мной каханая адна!"
Ваш стыль узважаны і просты
У фарбах - мера,
у думках - такт.
Няхай у гэтым дзіўным узросце,
Бясконца славіць вас Бальзак!

**Наваградчыне**

Краю светлы мой, чысты,
У бязгрэшнасць улюблёны.
У даль палеткаў квяцістых,
Засень ліпаў і клёнаў.

Ты мая калыханка,
Месца лепшых прызнанняў.
Пацалункаў, світанкаў,
Свет зары чыстым раннем.

Хвілька ночы духмянай,
Сумны поўдзень у спякоту.
Крыж марных пакаянняў,
І настрой нуднай слотай.

Толькі ў думках на хвільку,
Да цябе дакрануся.
Ты - скажу без памылкі -
Лепшы кут Беларусі!

**Коні**

Праз луг, за вёскаю, зялёны,
Галопам рушаць цішыню,
Бягуць няцугленыя коні,
Каб небасхілу дасягнуць.
А ён усё, чамусьці, далей,
Ды коням гэтае няўцям:
Іх вабяць сонечныя далі,
Што расхінаюцца вачам.
Б'юць капытом траву жывую,
Іржуць, падняўшы галаву.
Яны штодня вось так вандруюць, -
Сваёй няволі путы рвуць.

Ніяк жа коням, ім не ўцяміць,
Што гарызонт - гэта падман,
Што за расхрыстаным прасцягам
Такіх лугоў, як тут, няма

**Мове маёй**

Не прадам, не згублю, не здраджу,
Пакуль сэрца маё рытміць.
Топчуць хай, чорнай сажай мажуць,
Падыму, абатру, дам жыць!

Не дам пэцкаць нязграбным зманам,
І смяяца, дурнець уздагон.
Тых хто бачыць у ёй "паганасць",
Бы папёр з Беларусі вон.

З кветкаў-слоў напляту вяночкаў,
Бы раздаць на ўвесь прасцяг.
Ты мой дзень і святло ўночы,
Наш статут, карані і сцяг!

**Клічуць журавы**

Ізноў журавы над асеннім прасторам
Кідаюць журботныя ўніз галасы,
Вітаюць юнацтва, ды клічуць за мора,
Маркотай трывожаць дзявочыя сны.
У светлыя далі, за сонцам і ветрам,
Дзе суму з лянотаю месца няма,
Запоўнены жарам і радасцю лета,
Тут рэдкасным госцем - жанчына-зіма.
У безліч вандровак, вясны і настрою,
Вады незлічонасць і лішку цяпла.
Запал і натхненне вам дасць усё тое,
Чаго Беларусь у сабе не знайшла!

**Беларус**

Ён тутэйшы, сусед і сваяк,
З ім прыемна насустрач і ўпоруч.

Разам топчацца наша зямля,
Мы праз плот - раніцой ці апоўнач.

У бядзе, у трывозе, між спраў,
На вяселлі, у роспачы сціплай,
Ён апошняе сябру б аддаў,
То зямляцкая, добрая звыкласць.

Панямонец, ад продкаў увесь.
Яму ў сорам быць госцем нязваным.
Не тваё, дык здымі і павесь,
Бо заўжды памяркоўны, рахманы.

Можа кіне свайго дзе ў бядзе?
Ці дабро не па-брацку падзеліць?
Яму зычу дабра кожны дзень.
То ад сэрца, не слоў добрых дзеля!

## ГУМАР

### Скнара

Жарты вам, ды мне не смех.
Зажадала жонка снег.
У тым рэцэпце піша так:
- Ну без снегу тут ніяк!
Ідзе вясна - снег днём з агнём,
Ёсць у суседа за хлявом.
То ж чужое, нельга браць,
Ён аддасць, трэ запытаць.
- Слухай, снег патрэбен мне!
- О-о, дэфіцыт то! Ён у цане!
- Колькі ж трэба? Не таннее!
- Трэба з коптурам балею.
- Дам на бульбу, у абмен.
- Яго ўзважым, ёсць бязмен.
- Каб без хітрасці было,
- За кіло хачу кіло.
Мяне аж перахапіла,
Ад здзіўлення твар скрывіла.
Узяў бязмен пайшлі за хлеў.
Тут сусед услупянеў.
Снегу шмат было на дні,
Ды праз дождж ён ноччу знік.
- Галава мая дарма!
Бо мазгоў у ёй няма!
Ёю тут сусед патрос.
-Хай бы ў хату нанач унёс!
Мяне чэрці так абулі,
Ды сабе пад нос нёс дулю.
Чырванеў ён то бялеў,
Задрыжэў тут і самлеў.
Праляжаў у шпіталі з месяц,
Нават рукі скласці меўся.

### Цвік і дошка

Заспрачаліся цвік з дошкай,
Для чаго хто і навошта?
- Без мяне ты, - дошка кажа, -
Нібы комін ды без сажы,
Нібы рэчка без вады,

Ці без яблыкаў сады.
Як абурыцца тут цвік:
- Чуць няпраўду не прывык.
Як ашчэрыць вастрыё:
- Мной прыбіта - усё маё!
Ды прыбіў яе на сцену,
На тым скончылася сцэна.
Закрактала дошка дужа,
- Калі разам - справе служым!
- Як прыбіў я, аж зажыў,
Сам стаў колерам іржы.

## На распрадажы

На распрадажы, у дзень які,
Набыў ён у крыжыкі шнуркі,
З маднячых модныя, вядома,
А ў кошце - дык танней саломы.
Ды ён жа франт,
ужо густу дзеля,
Да іх знайшоў сабе адзенне.
Ружовы фрак у зялёныя гарохі,
Па жоўтых галіфэ букетаў трохі.
Ды капялюш з пяром чырвоны,
Абуў блакіт у плямах чорных.
- На дзіва танныя тавары!
Купіў на ўвесь твар акуляры.
Увесь "прыкід"
з шаўкоў ды саржы,
Прыдбаў бядак на распрадажы.
Рабы хадзіў ён ды пярэсты,
Здалёк відаць - не з тога цеста.
Ні клоўн, ні дурань, няма слоў,
Са смеху б лёг Алег Папоў.
Такога з джунгляў не паклічаш.
Ну, малпа ў зебравым абліччы!

І смех і грэх, інакш не скажаш,
Купляйце таннае
на распрадажах!

## Рэвізор

Птушкафабрыка ў турботах,
Не з рукі ідзе работа.
Ёсць прыпіскі, ёсць абман,
Не выконваецца план.
Залячыць бы споры скора,
Шле начальства рэвізора.
У акулярах, у модным фраку,
Ды не спец, а небарака.
Дадае ды адымае,
Шмат да плану не хапае.
- Усе пішыце тлумачэнне,
Тады вынайдзем лячэнне,
Для курынай вашай зграі,
Чаму мала знесла яек?
Усе давай пісаць з ахвоты,
Пра працоўныя суботы.
Што святло было пагасла,
Святкавалі курапаса.
Сон курыны трэба ўлічваць,
У гэтым плана акалічнасць.
Падлічыў, адняў, памножыў,
Сам сабе ускрыкнуў: “Божа!
Яек знесена зверх плану!”
Хваліць усіх ён за стараннасць.
І пайшла наверх дэпеша:
- Узнагароды трэба вешаць!

На партыйных жыў ён дачах,
Яйкі ў смятку толькі бачыў!

## Бот і нага
*Байка*

Пасварыўся бот з нагой,
А ці тут было чаго?
Кажа бот - хоць сядзь ды плач:
- З-за цябе я стаў крывач.
Быў жа зграбны ды прыгожы,
Аж люстэрку ўжо нягожы.

Расцягнуліся халявы,
Стаў абцас крывы, дзіравы.
У адказ яму нага:
- Ты не бот, а качарга!
Я ж цябе з сяродку грэю,
Прыцiскаю, аж пацею,
Каб ты быў заўжды ў цяпле,
З тваіх слоў аж прыкра мне!
Не хачу цябе я болей,
Ад цябе адны мазолі!
Басяком на ходнік стала,
Шкельца там з пяску тырчала.
Закрычыць як раптам: "Вой,
Лепей будзем мы з табой!"
Шусь у бот, як там была,
Са ступні кроў пацякла.
- Ты, нага, - мая сястрыца,
Трэба нам хутчэй мірыцца.
Ды прамовіў:
- Ужо ж не грэбуй! -
Сам адчуўшы непатрэбнасць.

Ясна тут усё без слоў -
Няма лепш старых сяброў.

**Дэпутат**

Зайца зычаць у дэпутаты
Ўсе звяры і вараняты,
Ды палянаю ўсёй "за",
Хочуць слова ўсе сказаць.
Кажуць:
- Добры і старанны,
Не зайздросны і не п'яны,
Не абразіць нават муху.
А прамоўца - толькі слухай.
Вось ужо гэты хлопец слаўны,
Абаронца нам паляны.

Толькі сеў у мяккім крэсле,
Хабар сціпламу панеслі.
Акуляры гляне скрозь
Ды спытае, што прынёс?
Цераз год машына, хата,
Ды паводзіны занадта.
Тут знянацку, нечакана,
У праблеме ўся паляна.
Каб праблему ту залатаць,
Хадака шлюць к дэпутату.
Каб праблем не слухаць тых,
Ён прыняў рашэнне ўслых.
- Засадзіць паляну лесам,
Тым праблемы ўсе закрэслім!

Быў ён сціплы, аж занадта,
Як хадзіў у кандыдатах.

**Фінансіст**

Сядзіць бязногі ля царквы.
Сляпы, нямы, усё: -ы- ды -ы-.
А люд успрымае так - шкада,
Трэба чырвонцаў пару даць.
А круцізна дык сто і дзвесце,
Калецы зычаць бы паднесці.
А ён - убогасць той бяды,
Пад дурня косіць: -ы-ды-ы-.
Сам жа ў патолю той бядзе
Рублі за пазуху кладзе.
І ужо пад вечар, бы і трэба,
У сляпога вырас бэбах.
Тут падруліў у акулярах,
Сябрук, з кім чаліўся на нарах.
- Ну хопіць дурня калаціць,
Пойла кісне, пойдзем піць,
Усё на мазі - кафэ, таксі,
У праблеме толькі фінансіст.
Сляпы ў здзіўленні:
- А дзяўчаты….?
Сябрук:
- Аўдоля, Гэлька і Агата.
Ты секануў бабла багата?

Сляпы:
- Ці ёсць праблема з хатай..?
- З баблом то проста гумар,
І асабісты нават нумар.
Сляпы:
- Падзелім як траіх?
Сябрук:
- Мне пойла, табе ўсіх.
І гікнуў тут нямы:
- О, богі!
Бег, не шукаючы дарогі.

**Модны ўнук**

Унук прыехаў на "Пакровы"
Ў штанах дзіравых, клёвых.
Дзіркі ўсюдна, неўпапад,
Ажно свеціцца ў іх зад.
На каленях, на галёнках,
Пазіраць ажно няёмка.
Бабка ў слёзы:
- Што за зух?
Вось прадам сваю казу
Ды куплю табе штаны,
У цябе ж драныя яны.

Кажа ўнук:
- Ёсць той прыкід,
Грошай велізных якіх.
Ды няўцям табе, а плачаш.
Ёсць мадэрн той ад Вярсачы!

Баба слёзна:
- Ад Вярсачы?
Шмат зубоў на іх сабачых!

Унук:
- Не парся ты, бабуля,
За казу і не абуеш!
Ды  казаць табе няёмка,
Кошт абутку ёсць кароўка!

Баба ў смутку:
- То ж прыкольна!
Не смяшы мне наваколле!
Ватнік вось прымерай дзедаў,
Лепшай вопраткі не зведаў!
Боты вось з кірзы абуй,
Чалавекам у вёсцы будзь!

**Парсюковая насмешка**

Свіння надумала худзець,
Бо тлушчу лішку недзе дзець.
Кахаць не рвуцца парсюкі,
Смяюцца:
- Бач жывот які!
- Кахаць цябе, - крычаць,-
дарма!
У цябе ж таліі няма!
Ды вочы тлушчам заплылі,
У худой такія б ці былі?

Пачырванела тут свіння,
Мадэлям, бачыць, не раўня.
Рэцэпт прыдумала тады,
Нішто ў рот апроч вады.
За месяц голаду суровы,
Схудзела….. нібы ровар.
Цяпер пры таліі, на шпільках,
На павадку сабака Філька.
Парасон ды акуляры,
У цырульні дзень не дарам.
Педыкюр, памада, гель,
Між свіней, няйнакш, мадэль.
А парсюкі ўжо ў дыбар.
- Ды ты танчэй ужо, чым рыба!
Не-е, лепш з табою ўрозь,
А то рассыплешся вось-вось!

Свінню дурніцай мелі парсюкі,
У іх жа выбар вунь які!

## Перагнутая палка

*Жарт*

Усім наганяе аскому,
Віруецца ветрам салома.
Дзядок сціпла, хрушкам
Нагробшы, нясе ў дзяружцы.
Участковы той пільны аж надта.
- Квіток дзе? - пытае, -
з аплатай?
Дзядок мовіць:
- Тое ж дарма!
Па полі вандруе і справы няма.
- Ты доказ злачыннасці скінь!
І тут жа дзядку кайданкі.
Ужо следства-дазнанне ідзе,
Знялі кайданкі аж у судзе,
А справу забацалі з пары тамоў.
- У турму загрыміш да Пакроў.
Лжэсведкі ўсяго наваколля
Паставілі подпіс
у тым пратаколе
Запыт ўжо пайшоў у інтэрнет:
Злачыннасці відэа
хочуць з планет.

***Даведка з калгаса:***
*“Перад самай зімой*
*Дзяружкі бракуе ў полі адной”.*

Суддзя лямантуе:
- Каго даравацць?
На нары зладзюгу
гадочкаў на пяць!
Ды тут адвакат гне:
- У справе бяда!
Без рэчавых доказаў
у зале суда!
Дзядок тут жа дуляй патрос:
- Салому, паблытаўшы,
вецер разнёс,
Таўклі і кляпалі мяне вы дарма,
Без рэчавых доказаў,
справы няма!

## Свіння і карыта

*Байка*

Свіння ад хмелю ўдосталь,
Ну звар’яцела проста:
- Ах ты, бруднае карыта,
З-за цябе заўжды не сыта!
Каб не бачыла ты дна,
З-за цябе заўжды адна!
Толькі ты ў тым вінавата,
Калі хлеў мінаюць сваты!
Пад нагамі ты мне вечна,
Пашчапаць цябе ды ў печку!
Лепш не ты, будзе другое,
Тое раны ўсе загоіць!

Шмат пякучых слоў сказала,
Пахісталася і ўпала.
Так да раніцы ў карыце,
Спала? Дрыхла, лепш кажыце.
Раніцой прадрала вочы,
Так было ўжо не аднойчы.
- У свеце лепшае карыта,
Лыч прабач ты мой нямыты!
Ды цалуе тры разы.
- Я б цябе за абразы!
Можа, ведаеш, дзе проста,
Хмель расце ўдосталь?
Як мне цяжка, слову вер,
Хмель - не бэз і не аер!

І пад вечар, як вядома,
Прынеслі свінню дадому.

Так па простаму сцэнары
Доўгі час жывуць на пару.

## Прэзент

У жаночы дзень круты баран
Прэзентаваў казе баян,
Бо быў упэўнены цвёрда:
- Каза валодае акордам.
І слых, і голас музыкальны,
Яна ж спявачка - то рэальнасць!

Клаў на пюпітар партытуру,
Яе не зведаўшы ў "натуру".
Дзе ноты чорныя па белым,
Каза панюхала - ды з'ела.
Тут душыць злосць,
смяяцца грэх,
….Каза жуе ў баяне мех.
І ад прэзента ажно млее,
Пытае ён:
- Не акалееш?
- О, цудны прэзент і ў аправе,
Ну вельмі смачны - гэта праўда.

Яму пад злосць давай таран,
Разбегся добра - і ў баян…

Ён віншаваў яе са святам,
Яна ж - з фантазіяй багатай…

## Ля пад'езда
*Жарт*

- А ці чулі, бабы?
Да Парасі,здэцца, ўчора,
Нешта нёс у торбе Жора!
- Так, так.
- Яго жонка мне казала,
Што прапаў аполец сала!
- Гэта што!!!
- І не так ужо даўно,
Нёс Трафім туды сцягно!
- А мае ж вы, бабы!
- Не далей, як пазаўчора,
Да яе ішло чацвёра.
Неслі выпіўку, прыкуску,
Выглядалі вельмі тлуста.
- Гэта ж цуд!!!
- Яна ж хвора, і не ходзіць?
- Справе то зусім не шкодзіць!
- У яе ж хворыя суставы?
- Дык паднімуць і паставяць!
Рот заткнула ім Параска:
- Языком не брыдка ляскаць?
Зайздрасць вас бярэ, качэргі?
Бо за мной мужчыны ў чэргах!
Ды гукнула праз акно:
- Моцна колюць вашы словы,
Бо адзін той орган і здаровы!

## Сябрукі
*Байка*

Бруд парыўшы там, ды сям,
Дамоў плялося парася.
А насустрач, да вады,
Гусак валокся малады.
- Сябраваць давай, сусед!
Парася сказала ўслед.
- Дык я што, я толькі за,
Ужо даўно аб тым казаў.
-То гайда ў лес дубовы,
Вабіць смакам жалудовым!!
- Не,
лепш падымемся да хмараў,
Абляцім вакол на пару!
- Што з тых хмараў,
ёсць балота,
Пакачаемся ў ахвоту!
- Не, на рэчку лепш махнём,
Рыба, ракі - во гульнём!
- Не сяброўства то, а ліха, -
Парася шапнула ціха.

- У цябе лыч - у мяне крылы, -
Гусак прамовіў цераз сілу.

Каму дзёрн, каму аблокі,
Кошт сяброўству не высокі!

**Выбары**

Вароне белай пашанціла,
Пафабавала хвост  і крылы.
Ляцела бедная выпадкам
Скрозь дым нядобры, гадкі.
І чарада, о, то здзіўленне,
Змяніла позірк у імгненне.
Ужо дазваляе ёй закон
Быць прэзідэнтам - важаком.
А тут і выбары на носе
- Удзел прыміце, - просяць.
Выснова выбарчая так:
- Яна без роздумаў - важак!
Так справы добра павяла,
Карысць для дзюбы і крыла.
Тут дождж, і дзе ёй дзецца,
Ён ставіць колеры на месца.
Бяда ў чародцы, інцыдэнт,
Ва ўбранні белым прэзідэнт.
Адны закаркалі ў думе:
- Пераабраць яе, не думаць!
Другія:
- Рана ставіць кропкі,
Апартэід гэта таропкасць!
- З якой прыкметай абіралі?
Не месца ёй між намі!
- Дыскрымінацыяй то будзе,
Звяры, што скажуць людзі?
- Ці чарната прыбавіць розум?
Запала дума ў роздум
І хутка вынесла вердыкт:
- Мы паспяшаліся тады
Абралі раз - таму і быць!
З адной умовай - па-чар-ніць!!!

**Рэклама**

*Жарт*

Па базарах, ужо парадкам,
Вазіў дзедка мёду кадку.
Не куплялі, аж абрыдла,
Хоць цаніў таней павідла.
Тут студэнт у штанах дзіравых
Прапануе дзеду справу.
Бы ў звон гукнуць базарны,
- Мёд не дасць вам зацяжарыць!
Усё не так, усё не дарам,
Ушчыпне студэнт з навару.
Дзеда ўбок, цану патроіў,
Абступілі дзеўкі роем.
Хвіль за пяць мядку не стала,
Ды апошняя спытала:
- Карыстаць як падкажыце?
- Дык …
            палец мажце ды ліжыце!

**Палёт свінні**

*Жарт*

Свіння за вёскаю бруд рыла,
Нарыла скарб - купіла крылы,
І над зямлёю, колькі сілы,
Бы непрытомная кружыла.
- Я птушка! - і на балота
Пазірае без ахвоты,
Цяпер жыве на дрэве,
Звіла гняздо і дрэмле.
Тут ёй тэлефануе статак:
- Дзе знікла ты, што стала,
Зямля за вёскаю не рыта,
Чакае стойла і карыта.
Нам без цябе сумнотна,
Мы статкам крочым на балота.
Свіння ў адказ:
- То ж гумар,
Паблыталі вы нумар.
Не чула слова я "балота",

У мяне ад вас  турботы.
І не свіння, бярыце шырай,
Я - птушка! Палячу ў вырай.
Я вас за гэткую абразу,
За краты - усіх разам.

І так ужо завіравала,
Зламала крылы і … упала.
Пішчала з болю доўга, гадка,
Пад свіст і смехі статка.

**Інтэрв'ю ў пастуха**

*Жарт*

Меў пастух з аўто нязгоду,
Прыпыніўся ля завода.
А тут з камерай мужчына,
З мікрафонамі  жанчына.
- Вы, напэўна, кіраўнік?
Хоць балбес, але не знік.
- А хіба вам не відаць?
- Інтэрв'ю хацелі б узяць.
- Дык …бярыце, не шкада,
Яго я вам усё аддам!
- Ці даўно вы пры пасадзе?
- Дулю ім, за што пасадзяць?
- Калектыў у вас без слоў!
- Дык … за тысячу галоў!
- Лёгка з імі, ці з натугай?
- Пачашу каго… а то і пугай.
- Кажуць, плаціце аж надта?
- Ну дык гэта … натурплатай.
- Што вы мелі ад канцэрна?
- Добра дояцца з люцэрны.
- Ці ёсць выйсце за мяжу?
- Бывае выйдуць… ды я гляджу.
- Ці кульгае дысцыпліна?
- Дык лячылі ж… не павінна.
- Колькі маеце вы намаў*?
- Шарык, пуга ёсць таксама.
- У калектыва ёсць цякучка?
- Дык… вывозім спраўна кучкі.
- Як з валютаю ёсць справы?
- Яно злева ёсць і справа.
- Ці выконваецца план?
- Ды паўсюдна тут падман.
- Што ў жыцці для вас святое?
- Без мукі няма надояў.
- Заняпад - прэрагатыва
Быць кіроўцам калектыву?
- Ну дык з ранку так было,
Пакуль сонца не пякло.
- Дзякуй вам за дыялог.
- На здароўе, калі дапамог.

**Нам - намеснік кіраўніка.*

**У тумане**

У адзін туманны дзень,
Трэба ж здарыцца бядзе,
Цераз рэчку ў плыткі брод,
Ехаў п’яны абармот.
Ён на грудзі добра ўзяў
Ды на возе з храпам спаў.
Конь - таму павінна быць,
Прыпыніўся тут папіць.
Ён прачнуўся з бадуна,
Не відно ні перуна.
А ўнізе - гэта ж трэба,
Пад нагамі ў яго неба.
Ціш, туман, не вее вецер,
Ён гукнуў:
- На тым я свеце!
Выязджаў дык быў жывы,
Ад страхоцця аж завыў:
- Перадаць радні нейк трэба,
Што з канём папаў на неба.
Раптам чуе:
- О-го-го!
Хто спыніўся тут, чаго
Мне закрыў на рэчцы брод?

Аж сумеўся абармот.
Гэта ж дзядзька Аляксей
Пасвіць гнаў сваіх гусей.



# Алесь Гоцка

*Алесь Гоцка (Аляксандр Валянцінавіч Гоцка) нарадзіўся 1.07.1944 г. у вёсцы Новыя Руткавічы Карэліцкага раёна Гарадзенскай вобласці. У1962 годзе закончыў Карэліцкую сярэднюю школу. У 1963 годзе паступіў у Гарадзенскі дзяржаўны медыцынскі інстытут, пасля заканчэння якога ў 1972 годзе працуе ўрачом-тэрапеўтам у Навагradскай раённай паліклініцы. Служыў у Савецкай Арміі (1963-1966 гады). З 2017 года - на пенсіі. Вершы піша даўно. Друкаваўся ў рэспубліканскіх газетах "Піянер Беларусі", "Во славу Родины", "Чырвоная змена", "Літаратура і мастацтва", "Вожык", "Краязнаўчая газета", у калектыўных зборніках паэтаў-медыкаў, у раённых газетах "Полымя", "Новае жыццё".*

*Аўтар зборніка паэзіі "Іду на Парнас" (2014 г.)*

**Размова беларускай кнігі з тутэйшым беларусам**

Адчыняю насцеж дзверы:
- Асцярожна. Ну, заходзь!
А калі не маеш веры,
Не кранай маёй паперы -
Лепш трымай ў руках аброць.
Ты, як бачу, паважаеш
Больш за кнігу свой жывот:
На "трасянцы" размаўляеш,
Не глынуўшы, паглядаеш,
Каб ізноў пакласці ў рот.
Дык ідзі, ідзі абедай
(Скварка й чарка, пэўна ж, ёсць)
Ды ўспомні свайго дзеда:
Ён за кнігу кулю зведаў,
Каб ты ў доме быў не госць,-
Гаспадар быў у краіне,
Што завецца Беларусь,
Мову знаў сваёй Айчыны,
Скінуў з плеч сваіх ляйчыну -
Годнасць меў, унук Пятрусь.
А калі ты ўзгадаваны
Штучнай соскай, як цяля, -
Залячы спачатку раны,
Што нанесены абманам,
І чытай мяне пасля...

## Паэзія

У паэзіі я - непрыкметны хадок.
З ёй, як пленнік, жыву, разважаю...
Кожны вобраз і слова, як кволы расток,
Асцярожна нясу ў паэтычны куток -
Там іх Муза жыццём правярае.
Для мяне ты - як неба, маланка і гром,
Што зямлю аздабляюць цяплом і дажджом.
Мо таму цябе часта пытаю:
Дык чаму, і за што, і навошта, скажы,
Снег у маі бывае, а ўзімку - дажджы,
І вясна так трывожна ўздыхае...

## Мне на свеце...

Мне на свеце нямногае трэба:
Дажджу кроплю з блакітнага неба,
Ветру пошуму па-над бярозкай,
Паху-водару хвоі за вёскай;
Сонца промняў, каб бачылі вочы,
Сноп усмешак зычлівых дзявочых,
Працы рознай, штодзённай, бясконцай,
Без якой мне не жыць, як без сонца.
А найболей за ўсё я жадаю -
Быць шчасліваму роднаму краю,
Каб шынель і вінтоўку, няйначай,
У музеі я змог толькі ўбачыць.

## Зімовы эцюд

Зіма. Заснежаная раніца.
Іду на шпацыр ціхай вуліцай,
Што між бяроз, каштанаў туліцца.
Усход праменнямі румяніцца
Заінеўшага сонца.
Сняжок-крухмал рыпіць пад ботамі.
Мароз, як дуб. Дваццаціградусны.
А на душы так светла-радасна,
І лёгка крочыць мне з ахвотаю
У далячынь бясконца.

## Восень

Адшумела лета
Спелым коласам,
Апусцела поле,
Гола ля ракі.
Адзавецца жораў
Сумным голасам,
Ды заплачуць дзесьці
Глуха кулікі.
Павучкі за працай,
Бы рамеснікі,
Праз густую сетку
Дожджык прасяюць.
Ложыць карты-лісце
Волат-дуб ля веснікаў,
Быццам хоча зноўку
Лета мне вярнуць.
Ад агню рабіны
Далеч дыміцца.
Туманы бульбянік
Кутаюць жуюць.
Я ўсё роўна веру:
Мой настрой узнімецца
І змагу я ў вочы
Любай зноў зірнуць.

* * *

Я ўсё менш гавару -
Хачу болей сказаць,
Неруш слоў ажыўляе паэзія.
Хтосьці будзе мяне
Упікаць-дакараць,
Што "парфумай" не ўмею
Я верш аздабляць,
Рэчаіснасцю ўвесь
Зажалезіўся.

## Ты казала

Ты казала: вясна
Да цябе прыйшла ў восень.
Да мяне ж - чуць пазней
І на белым кані.
К табе золак прыйшоў,
Мне ж - самоту прыносіць
Міжсезонне ў душы
І халодныя дні...
Ты ж мяне зразумей,
Акрапі маю смагу,
А інакш - я травой
Упаду пад касу
І пракосам буйным
Каля ног тваіх лягу,
Пакуль сонца не ссушыць
Мяне, як расу.

## О, Усявышні

Цябе я прашу: падкажы,
Дабрыні як мне вызначыць
Ісціннасць,
Каб за праўду
Цвікоў не было на крыжы,
Каб сумленню на свеце
Лягчэй было жыць,
Бо без іх, як без рук, -
Няма выйсця нам.
Пачынае шарэць ...
Паглядаю ў акно:
Зоркі срэбрам ужо
Засвяціліся.
А ў душы неспакой
І жаданне адно -
Каб зямля была з небам
Заўжды заадно,
Не гнявіла яго,
Не сварылася...

## У Мінску

О, Мінск! Я сёння - госць твой нечаканы.
Ад Нёмана і Свіцязі табе прывет!
Чамусьці сэрца б'ецца ўсхвалявана,
Як птушанё малое ў скошанай траве.

І я бягу, баюся апазніцца
(Гадзіннік, цікай, толькі не спяшы!),
Сказаць хачу тры словы чараўніцы,
Што так даўно адна ў маёй душы.

Больш дзесяці гадоў яе не бачыў
І столькі ж сініх вёсен і халодных зім.
Хоць, пэўна, лёс не ў сілах перайначыць -
Ды і маўчаць увесь час я не магу зусім.

...Іскрыць тралейбус, к правадам прывязаны,
Звініць трамвай (да рэек ён даўно прывык)...
А я крычу. І слоў, што ёй не сказаны,
У жалезным гуле гасне набалелы крык.

## Іду на Парнас

*З нагоды 130-годдзя беларускіх песняроў*
*Янкі Купалы і Якуба Коласа*

Іду на Парнас. Пад нагамі стамлёнымі
У разбежцы зямля, з ёй вароны на свежай раллі...
А вочы ў чаканні на неба ўтрапёныя,
Пакінуўшы дома турботы зялёныя,
Шукаюць на небе, што тут на зямлі не знайшлі.
Іду на Парнас я парою асенняю
Крыху са спазненнем (я ведаю гэта і сам)
Не на пераклічку ці сходку вячэрнюю,
А на справаздачу, на споведзь сардэчную -
Іду да пракокаў сваіх на Парнас, як у храм.
Я з вамі, я з вамі, і зноскі й тутэйшыя,
Ды толькі ў памкненнях сваіх я далёкі ад вас.
Хадзем жа ўсе разам - і вы, маладзейшыя,
Да нашай гары, як у Меку свяцейшую,

Да нашых пракокаў, на наш беларускі Парнас.
Жывых там убачым Купалу і Коласа.
Купала здалёку спытае: "А хто там ідзе?"
Максім Багдановіч спагадліва-хараша
Ля брамы нас стрэне і з радасцю ў голасе
У "Дом беларусаў", як родных сваіх, прывядзе.
Прадбачу я слёзы ў вачах Багушэвіча:
"Не ўмёрлі, не ўмёрлі, шчэ ёсць беларусы, жывуць!"
А Быкаў, убачыўшы нас, з Караткевічам
Запросяць за стол і спокойна, і велічна
З Купалам і Коласам гутарку з намі пачнуць...
Іду па праспектах і ўквечаных вуліцах
Да роднае вёскі, жытнёвага мора палёў,
Якое чамусьці ўсё болей хвалюецца,
Як колас да коласа блізіцца, туліцца,
Хаваючы ўсмешку нябесную - сінь васількоў.
Сялянка на вуліцу выйшла - не спіцца ёй,
Хоць ціха: рачулка травой зарасла - не журчыць,
Суседскія хаты глядзяць аканіцамі...
Хоць поле багатае бульбай, пшаніцаю,
Каровы даўно не мычаць, і вяпрук не пішчыць.
Іду цераз сад. Ён сёлета радуе.
На яблыні глянуў - чакаецца добры ўраджай.
Ды толькі плады, нібы птушкі прахладаю,
Злятаюць з галін, недаспелыя падаюць
У садзе заўчасна - прыедзь і збірай.
Іду цераз поле. А думка пякучая,
Як компаса стрэлка, застыла, шукае адказ
Найперш на праблему старэйшых балючую:
Чаму журавіны мы садзім гаючыя,
А ў выніку клюква чырвоная родзіцца ў нас?
Іду на Парнас. Пад нагамі стамлёнымі
У разбежцы зямля, з ёй вароны на свежай раллі...
А вочы з надзеяй на неба ўтрапёныя,
Пакінуўшы дома турботы зялёныя,
Шукаюць адказу, што тут на зямлі не знайшлі.

### Успамін маладосці

На досвітку раннім іду са спаткання.
Вясна. Цеплыня. Мілавіца. Каханне.

А месяц на варце - прысеў на страсе
І зоркі - свой статак - пільнуе-пасе.
Раз-пораз іх лічыць - адной не хапае.
Дзе ж зорачка дзелася, дзе прападае?
О месячык мілы, ты больш не лічы -
Адказ на загадку-пытанне вядомы:
Праспала яна ў мяне на плячы
Ўсю ночку, а ранкам шчэ бавіцца дома.

* * *

Жураўлік мой, цябе я адпускаю,
Ляці ў неба - болей не лаўлю:
Сініцу ў руках сваіх трымаю,
Яе, надзейную, даўно кахаю,
Яе, як і цябе, даўно люблю.
Фартуну я за горла не хапаю,
Нясу свой крыж дарогай Блізняца,
Што Бог дазволіць - тое маю:
Жыву, працую і кахаю...
Жыццё люблю да самага канца.
Найбольш, жураўлік мой, люблю свабоду,
А здраду, ашуканства не цярплю.
Табе прызнаюся з нагоды:
- Я не люблю душэўнай непагоды,
Таму цябе я болей не лаўлю...

* * *

*Бо, як жанчына, цягнецца зямля*
*Да абароннай ласкі мужыковай...*
***Яўгенія Янішчыц.***

О, матуля-зямля!
Дай цябе мне паслухаць,
Стэтаскоп дай прыкласці да хворых грудзей.
Эскулапу не здраджваюць вока і вуха:
І за кашлем відаць - цябе мучае скруха,
Выцякае самотай з гарачых вачэй.

Гэй, зямляне!
Прашу вас: крыху памаўчыце,

Супакойце пустую сваю мітусню.
Сэрца маці-зямлі перапёлкаю ў жыце
З перабоямі б'ецца - нягоды баіцца,
Быццам стрэла ў бязладдзі людскую гайню.

Гэта, пэўна, з-за нас табе цяжка бывае -
Ты калоцішся ўся, цябе кідае ў жар...
Тваё сэрца жаночае ўсё прадчувае:
Ці як вострыя крылы тайфун расхінае,
Ці ў зялёнай тайзе падрастае пажар.

Я іду да цябе, дарагая матуля,
Пазразаю вулканных ванітаў слупы,
Прынясу табе новае ўбранне, кашулю.
Палячу. І ад стронцыя пылу ўратую,
Покуль сам не аслеп, покуль сам не сляпы.

## Міндоўг на плошчы

Туман густы, нібы марская вада,
Мой горад накрыў сінявою,
Ды ў золаку раннім выразна відаць,
Як волаты-краны на старце стаяць
З узнятай да неба рукою...
Не спіцца мне сёння.
На плошчу іду
І ў зелені адпачываю.
У чыстай цішы мне чуваць, як гудуць
Падзеі вякоў, што забыць не даюць
Пра скарбы радзімага краю.
Сяджу ў задуменні.
Ды тут цішыню
Парушыў раскацісты пошчак,
І вершнік, адзеты ў кальчугу-браню,
Чуць губы цуглямі скрывіўшы каню,
Як дзіда, з'явіўся на плошчы.
- Ліцвін-беларус, ты няўжо не пазнаў? -
Уздыбіў каня ды пытае.
Мяне зразумеўшы, хоць я прамаўчаў,
Да крэпасці-замка наўскач паімчаў, -
Карона зіхціць залатая...

О, маці-гісторыя! Мне ж ты дазволь
Быць сведкам адноўленай славы:
Адзіны Вялікага Княства кароль
Наведаў сягоння зямную юдоль -
Сталіцу забытай дзяржавы...

## Ода беларускаму першадрукару

Паўтысячы гадоў да нас ідзе, ідзе Скарына
І слова друкаванае нясе ў кожны дом.
Ён знае, што без кніг не здзейсніцца Краіна,
Без слова беларускага не сцвердзіцца Айчына,
Што толькі Біблія дасць сілы ёй сваім святлом.

Няхай жыве ў вяках імя тваё, Францыск Скарына,
І родны, слаўны Полацк твой, адкуль пайшоў ты ў свет!
Табою ганарыцца Беларусь не без прычыны:
Ў сваіх прадмовах ты вучыў, як людзі жыць павінны,
Асветнік-гуманіст, першадрукар наш і паэт.

Цябе й сягоння помняць Кракаў, Падуя і Прага,
Дзе ўпершыню на роднай мове выдаў ты Псалтыр,
Каб просты люд вучыцца змог, меў да сябе павагу,
Знайшоўшы "золата ў пяску", свой гонар і адвагу,
Бо ў кожнай прытчы - мудрасці жыццёвы эліксір.

Памроілася мне, што ўчора йшоў ты па сталіцы.
Па мантыі пазнаў цябе (на галаве - барэт).
Лячыць каго, ці паглядзець, ці проста падзівіцца,
Ці мо зайсці ў царкву, касцёл і нізка пакланіцца,
І перадаць яшчэ адзін, не сказаны, сакрэт?

## Да ісціны

І ў змрочны час, і ў светлы дзень
Мой пошук ісціны ідзе.
Душа трывожыцца, баліць -
Хутчэй ржавее лёсу ніць.
Чаму на свеце многа зла,
Як жыць і не зламаць вясла?

Я верыў - вынік буду мець,
Прайшоўшы праз туманы,
Цераз ваду, агонь і медзь,
І вось, нарэшце, крутаверць
Адказ дала чаканы:
- Знай сам і іншым раскажы
Пра гэту Ісціну жывую:
У сэрцы з Богам трэба жыць,
Дабром, свабодай даражыць,
І праўду берагчы святую.

**Будзем жыць!**

Хоць у акне святлом найперш - "катлета",
І спадчына пад снегам шчэ ляжыць,
Пакуль жывуць пісьменнікі, паэты -
Ліцвіны-беларусы будуць жыць!
Хоць родным словам край мой не сагрэты
І зорак рой ад холаду дрыжыць,
Пакуль жывуць пісьменнікі, паэты -
Ліцвіны-беларусы будуць жыць!



# *Віктар Дземеш*

*Можа выступаць у друку пад псеўданімамі: Дзервіш, Сталкер, Вітаўт, Вітэк, В. Самураеў, В.Д., Віктар Д.*

*Па адукацыі - эканаміст і журналіст.*

*Працаваў старшым эканамістам па працы і зарплаце, в.а. галоўнага эканаміста, галоўным эканамістам на заводах Меншчыны, знаходзіўся на адказных пасадах у СМІ цэнтральнага рэгіёна. Зараз - на ўласнай гаспадарцы.*

*У вольны час малюе (графіка), займаецца (нерэгулярна, па меры магчымасці) баявымі відамі спорту, сябруе з людзьмі, якія вядуць здаровы лад жыцця. У далейшых планах - ушчыльную далучыцца да сістэмы Парфірыя Іванова.*

*Ганарыцца тым, што першыя тівооры былі ўхвалены і падтрыманы менавіта Вольгай Іпатавай і Ўладзімірам Някляевым, якія і далі дарогу ў літаратуру. А ў самым пачатку на яго шляху стаяў Веніямін Рудаў, аўтар вядомага рамана “Чёрная Ганьча”, літаратурны кансультант “Вечернего Минска”, на паседжанні літаратурнага аб’яднання пры якім разам з ім прыходзілі Анатоль Аўруцін, Іван Рубін, Віктар Стрыжак, Алесь Емяльянаў, Любоў Філімонава і іншыя.*

*Удзел у літаратурным лёсе таксама прымалі Юрась Свірка - загадчык аддзела паэзіі ЛіМ-а, Янка Сіпакоў - намеснік галоўнага рэдактара газеты “Звязда”, загадчык аддзела паэзіі часопіса “Маладосць” Яўгенія Янішчыц, галоўны рэдактар выдання Анатоль Грачанікаў, Валянціна Аколава (вяла паэзію ў “Нёмане”).*

*Часта заходзіў дамоў да тагачасных мэтраў - Міхася Стральцова і Уладзіміра Караткевіча, яны моцна сябравалі. Стральцоў пісаў тады “Адзін лапаць, адзін чунь” і збіраў вершы для свайго адзінага зборніка “Ядлаўцовы куст”. Караткевіч заканчваў і дапрацоўваў “Хрыстос прызямліўся ў Гародні”, абдумваў “Дзікае паляванне караля Стаха”. Вельмі шкадуе, што такім тытанам*

*мала было адпушчана жыцця і часу для творчасці.*

*"Прыклалі руку" да Дземеша Алесь Разанаў, Леанід Рашкоўскі, Міхась Стрыгалёў, вядомыя рускія паэты Рыма Казакова, Ігар Шклярэўскі, Іван Бурсаў і Іван Летка. Але асаблівы ўплыў на яго творчасць аказаў Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. Гэтаму простаму даступнаму, сціпламу, шчыраму чалавеку і найвялікшаму таленту краіны абавязаны ўсім.*

*Друкаваўся ў раённых, абласных і цэнтральных выданнях, у выданнях Саюза пісьменнікаў. Вершы шматразова гучалі на Рэспубліканскім радыё, са сцэн мастацкай самадзейнасці да Дня Перамогі, да Дня работнікаў сельскай гаспадаркі. На словы аўтара напісаны некалькі песень.*

*Выдаў кнігі "Барысаўскі мерыдыян", "Барысаў у экслібрысе". Сябар Саюза вольных літаратараў "Полоцкая ветвь".*

*У ліхія, бандыцкія 90-я нейкі час не пісаў, навалілася апатыя, абыякавасць, згубіліся жыццёвыя арыенціры. Цяжка тады было не толькі застацца чалавекам, але і наогул выжыць у гэтым жывёльным свеце. Некаторыя творцы не вытрымлівалі неймавернага напружання і зводзілі рахунак з жыццём. Некаторыя з адчаю пачалі злоўжываць спіртным і таксама без пары загінулі. Не ведаў, што рабіць, і Дземеш. І толькі, калі зноў пачаў супрацоўнічаць з газетамі (больш беларускамоўнымі), ажыла, акрыяла душа.*

*З Наваградскай зямлёй Дземеша звязвае даўняе знаёмства: яшчэ падчас вучобы ў складзе студэнцкага будаўнічага атрада (на працягу некалькіх летніх семестраў) удзельнічаў у рамонце, рэканструкцыі і будаўніцтве МТФ і фермаў БРЖ.*

*Даводзілася жыць і працавацьу вёсках Падлужжа, Любча, Мотча, Нягневічы, Шчорсы, Усялюб, Навасёлкі.*

*Калі жыў у Падлужжы, не раз бачыў сапраўдную легенду, гонар Наваградскага краю, аграном калгаса "Зорка", Героя Сацыялістычнай працы Марыю Карповіч.*

**Мой імпэт**

Пра стольны град пачуцці гэтыя,
Любімы мною і табой,
Мы не былі б ні чуць паэтамі,
Каб на ірваліся на бой.
Прымі іх, о, чытач наваградскі,
І зразумей мяне, як след,
Па сэрцы калясьмі без загваздкі,
Праедзе, можа, мой імпэт.
А ты спакойным будзь, будзь ветлівым,
Я побач ля цябе стаю
І позіркам - такім прыветлівым -
Самога Бога дастаю!

**З пакаяннем**
*Песня*

Вунь купалы ў маленні, ззянні,
Спакой, з якім уверх расту,
Іду з пакорай, з пакаяннем,
А не з гардыняю к Хрысту.

***Прыпеў*** *(2 разы):*
Наваградак, мой стольны горад!
Люблю без меры я цябе.
Ты бачыў кроў, ты нюхаў порах,
Ды выстаяў у барацьбе.

Хрысту я ў храме пакланюся,
І думкі расцвітуць няўзнак.
Тут памалюся, павінюся
І адраджуся небарак.

***Прыпеў*** *(2 разы):*

Табой, шчаслівым, лёгка крочу,
Надзейным у баі і ў сне,
І мне не дазваляюць збочыць
Усе, хто помніць тут мяне.

***Прыпеў*** *(2 разы):*

Спяшаю любым, ветлым, родным,
І сэрцу радасна ў грудзях,
Я бардам стану тут народным
І атрымаю сто падзяк.

***Прыпеў*** *(2 разы):*

Я выйду ў першыя, напэўна,
Збяру для вечнасці пасаг,
Паэтам стану я напеўным,
Каб пра Наваградак пісаць.

***Прыпеў*** *(2 разы):*

## Радзімы значнасць

*Буду ў далёкім краі я нудзіцца...*

Зямля мая - мой найдарожшы край,
Жывая, жыццядайная крыніца!
Дзе можна тваёй сілай наталіцца?
Вяртаюся сюды, нібыта ў рай,
Каб ля святых вытокаў памаліцца,
Вачмі абняць і нівы, і палі,
Падлесак той, што дружна ў рост пусціўся,
Дзе з любаю калісьці галубіўся,
Сцяжынкі, што ў жыццё адсюль вялі,
Каб не зблудзіў, са шляху каб не збіўся.
Наваградак і Свіцязь! Бог зямны, -
Ён і на небе, - у сілах паручыцца,
Як за свой род распятая ваўчыца,
Што вы Вы мне прыходзіце нярэдка ў сны,
Каб я вам мог, заўсёдна пакарыцца
Вам мой сыноўскі, нізкі мой паклон
І шчырая, бязмежная падзячнасць
За неўтаймоўны ў сэрцы пераzвон,
За жыватворны рэдкасны азон,
Нудой адчутую Радзімы значнасць.

## Прытулак жыццяспеўны

Пад хваляў плёскат Свіцязі святой
Там, дзе Міцкевіча сляды дымяцца,
Днём срэбнай, а пад вечар залатой
Люблю душой і целам падымацца.

Люблю ўдыхнуць паветра і святла,
Абшарам самавітым наталіцца,
Пацешыцца з буслінага крыла,
З птушыным граем цесна парадніцца.

О, краю мой, світальны, дарагі,
Прытулак жыццяспеўны, жыццядбайны,
Ты лечыш ад самоты і тугі,
Ад нематы і немачы адчайнай.

## Маё высокае найменне

*Марыі Карповіч, былому аграному*
*калгаса “Зорка”, Герою Сацыялістычнай працы*

Я - хлебароб! Вышэйшай долі
Няма, не будзе, не было.
Як сонца ўстане - кліча поле,
Вядуць дарогі за сяло.

Што пад Навахрадкам, пад самым,
Што каля Свіцязі самой,
Які спазор у бляску славы!
Ажно не хочацца дамоў.

О, край Навахрадскі, мой родны,
Паліты потам і слязьмі!
Які дызайн, ландшафт прыродны,
Хоць ты з сабой яго вазьмі.

Раса з раслін сцякае сіняя,
Лякарствам лепшым мне яна.
Прыветна мне кіўнуць азімыя,
Усмешкай блісне ярына.

Маё высокае найменне,
Ты абавязваеш мяне
Свае і сілы, і натхненне
Аддаць радзімай старане.

Каб не пакутвала, нібыта
Жанчына ў соку без дзяцей,
Каб морам гойдалася жыта,
Усё вышэй, усё гусцей.

## Слядамі славы

Тут Броўка быў, бываў Бураўкін
На Замкавай святой гары,
А потым без купюр, без праўкі
Пісалі вершы слоў майстры.

Тут Барадулін нёс бародку,
Тут Караткевіча сляды,
Іпатава плыла лябёдкай,
І прыязджала Лось сюды.

Гілевіч шпарыў-крочыў смела
Да Свіцязі, купаўся ў ёй,
Задзірыста-даўгое цела
Блішчэла спрытнасцю сваёй.

Крыштальна-чысты ўвесь, як з храма,
Брываcты, велічны на здзіў,
Гуляў ён сцежкамі Адама
Там, дзе Марылю той вадзіў.

І я іду слядамі славы,
Званю ва ўсе свае званы,
Бо прыклад іх вядзе яскравы,
Бо падштурхоўваюць яны.

## Наваградак цябе запомніў

*Памяці Алеся Емяльянава*

Ты з Забалацця,
што пад Мінскам...
Цябе Іпатава вяла
Дарогай адзічэла-слізкай
Да паэтычнага крыла.

І ты ўзляцеў, і ты падняўся,
І шыбануў у белы свет,
А потым з Вольгаю абняўся
На ўвесь імпэт, бо ты - паэт.

Цябе мой стольны град
прыкмеціў,
Ты ў ім не раз, не два бываў:
Бег па зіме, ішоў па леце,
З самім Адамам сябраваў.

Ля Свіцязі суворай крочыў
Упару з вершам, з тым радком,
Што дзесь чакае патарочы
І падбіраецца крадком.

Дыпламатычна асцярожны,
Ну а было што хуліган,
Не лез бяздоказна на рожны,
Паэзіяй быў п’яны пан.

Наваградак цябе запомніў,
Як і Высоцкага амаль.
І рэжуць сонечныя промні
Для вас агульную ўжо даль.

## Неба на заказ

Камбайны рухаюцца ў полі,
За ўраджай прымаюць бой,
Не адступаючы ніколі,
Як танкі на перадавой.

Наваградак як на далоні,
І Свіцязь скрозь лясы заве,
І сэрца ў мрояў у палоне
Днём растрыножаным жыве.

Надвор’е лашчыць хлебадара,
Яму спрыяе кожны дзень.
У бункер, нібы дожджык з хмары,
Зярнят ссыпаецца струмень.

Калоссе гнецца перад “Нівай”,
Перад “Палессем”, “Дон” дзяўбе”,
Камбайнер радасны, шчаслівы
Пот выцірае на ілбе.

Вялікі дзякуй, пан зямелькі,
Што ўзыдзе хлеб, забродзіць квас,
А сонца - нібы карамелька,
А неба - быццам на заказ.

## Зямля святых памкненняў

*Песня*

Гісторый пласт - Наваградскі мой край,
Дзе працаваў на фермах, на будоўлях,
Дзе сэрца песціў лета зыркі грай,
Дзе горычы і шчасця я не ўтойваў.

***Прыпеў** (2 разы):*
Я рады, што вось тут мая нага
Прайшлася - і не раз - па Навагрудку,
Што раставала воблачкам туга,
Што ўранні певень мне іграў пабудку.

Міцкевіч і Высоцкі тут жылі,
І я сярод іх быў, знаць, не апошні,
Мяне любілі рэчкі і палі,
Лясы, звяры, крыніцы, людзі, пожні.

***Прыпеў** (2 разы).*

Зямля маіх ліцвінаў дарагіх,
Што паўставалі за сваю свабоду,
У бой ішлі на ворагаў ліхіх,
Каб усяму святлей было народу.

***Прыпеў** (2 разы).*

Зямля святых памкненняў, дум крутых,
Зямля - яна асвечана ад веку
Крыжамі, што на храмах залатых
Жыццё даюць якія чалавеку.

***Прыпеў*** *(2 разы).*

**Любоў жыцця**
*Песня*

Ад'ездзіў, як належыць, па Зямшары
Ды повязі з радзімай не згубіў.
Збяру ў клубок разбэрсаныя мары
І ўспомню тых усіх, каго любіў.

***Прыпеў*** *(2 разы):*
Ля Свіцязі шчымлівай, Міцкевічам апетай,
Ля Свіцязі сур'ёзнай, задумнай пастаю,
Вандроўнікі блукаюць тут з усяго Сусвету
І лашчаць цёплым вокам любоў жыцця маю.

Маршрутамі ўзварушанае сэрца
Знаходзіць у матулі супакой,
Дзе хваляю дрыготкай Свіцязь б'ецца
Аб бераг з ганарлівай асакой.

***Прыпеў*** *(2 разы).*

Дзе ноч сваім адорыць зоркападам
І пахамі сасмяглае травы,
Дзе яблыкаў планеты між прысадаў,
Дзе восень уваходзіць у правы.

***Прыпеў*** *(2 разы).*

Паветра раскалыхваюць стракозы,
Туман, як карабель, вунь сеў на мель,
Застыну пад стамлёнаю бярозай,
Як з выраю шчаслівы журавель.

***Прыпеў*** *(2 разы).*

## Паэт не можа без бяссмерця

Наваградак, зямля зялёная,
Кут найвялікасных пакут,
Ад поту едкага салёная,
Я да цябе душой прыкут.

Міцкевіч, Зан, Чачот тут бегалі,
Пачуцці білі ў берагі,
Гулялі з паннамі са смехам, і
Пісалі вершы ад тугі.

Ні выкідаў, ні тлуму-грукату,
Ні віску тармазоў сляпых,
Калі ж трыбун і трубадур які
Успыхне гневам, зрэжуць пых.

Бляск кандэлябраў плыў са столі,
Святло іх неўпрыкмет цякло.
Якое ўсім было раздолле,
Паветра чыстае, як шкло.

Паветра лёгкае, як сэрца,
Што закахалася навек...
Паэт не можа без бяссмерця,
Бо ён - як Бог, хоць чалавек.

## Жыць для будучых сустрэч

У стольным горадзе - падзея,
У Навагрудку - фэст вякоў,
Такая велічная дзея,
Што аж міліцыя з бакоў.

У Навагрудку зборнік выйшаў,
У Навагрудку - альманах,
Аж расцвілі навосень вішні,
(А гэты штрых зусім не лішні),
Аж прыблудзіў святы манах.

Ажно прыехалі вунь з Ліды,
Бічэль з Гародні, Голуб Ю.
І я, ярылаю заліты,
І я, увагаю спавіты,
Мажны, салідны, самавіты
Алей на сэрцы з верша лью.

І я тут госць, і я пазваны,
І я сярод усіх стаю,
Мільгаюць рэдкасныя панны,
Прымаюць сонечныя ванны,
Ды я пазіцый не здаю.

Ад вершаў так прыемна пахне,
Нібыта ў садзе, дзе ранет,
Паэзія нідзе не счахне,
Пішы, пакуль Зямля не ахне,
Свой верш. Ты ім жывеш, паэт.

Пішы, паэт, не мудрагельствуй,
Дайдзі да кожнае душы,
Нам хопіць трансзямных зладзействаў,
Пішы! Пішы! Пішы! Пішы!

І апавяй жанчын і мора,
А разам з імі Беларусь,
Ну, а калі якое гора,
Не падай духам і не трусь.

Не нікні там, дзе кругаверцю
Прайшоў, спакой забраўшы, смерч,
І ты даверышся бяссмерцю,
Каб жыць для будучых сустрэч.

**Сэнс жыцця**

На сенавале, ля Літоўкі
Жыў бард вядомы, з ім - Мары.
Адна ўкрывала іх ватоўка,
Была шчасліваю вандроўка,
І нават злыя камары

Давалі спаць каханым людзям,
Што аж цвілі ад пачуцця.
Мы абгаворваць іх не будзем,
Бо зразумеюць іх і суддзі,
Якія знаюць сэнс жыцця.

**Крузазварот**

Вось спахмурнела зноў надвор'е,
Кругазварот яго такі,
І ладзяць пэндзлі мастакі,
І на паголеным падвор'і
Шыпяць бойфрэнды-гусакі.

Яшчэ ледзь-ледзь - і ўдарыць сібер,
З-пад Шчорсаў вылезе мароз,
Умовы згоршацца для рыбы,
Пакрыюцца кілімам шыбы
Нібыта думкі ўзорам кроз.

І Нёман у апратку з лёду
Адзене хвалі пакрысе
І будзе ў новае красе,
І на прыснулую прыроду
Дзівіцца стануць людцы ўсе.

**Міраж**

Над Літоўкай і над соснамі, -
Я сам бачыў, без маны, -
Табунамі ў шале гойсаюць
Без аброцяў туманы.

Параходамі - ад берага,
І губляюцца ў палях,
Гэты шэрага, той белага
Колеру - свой знаюць шлях.

Тут маланкі неба рэзалі,
Гром злаваўся не на жарт,
Тут гарэў агонь паэзіі,
Тут тварыў любімы бард.

Дачакаюся Высоцкага,
Як міраж ён праміне
Над Літоўкай і над соснамі
І растане ў тумане.

### Каб я быў вясёлым заўжды

З Чаромушак - з вёскі - Масквою
Павеяла ўраз на мяне,
Раён там ёсць з славай мірскою,
Звіняць салаўі па вясне.

Яны мне і тут зычаць часта,
Каб я быў вясёлым заўжды,
Каб мілыя Каця ці Наста
Не зведалі век злыбяды.

Каб з чыстых Чаромушак долю
Знайшлі і каб хлопцаў сваіх,
Каб слёзаў не зналі ніколі,
Жылі каб не горш ад усіх.

... Пліса свае плёсы разліе,
Ваду ўскалыхне ў іх да дна
І кожны каменчык абмые,
А потым засне да відна.

### І Богу трэба адпачыць

Як старажытны, мужны віцязь,
Што без любві засумаваў,
Гляджу па-новаму на Свіцязь,
На неба медны самавар.

Вада гарыць - бяжыць дарожка
Ад берага скрозь грывы хваль,
І сонца дыск - на елцы брошка,
Ты яе, вечар, не хавай.

Вось-вось цвікамі зорак неба
Прыб’е Гасподзь, каб уначы
Не пільнаваць, бо Богу трэба
Таксама крышку адпачыць.



## *Васіль Кузьміч*

*Кузьміч Васіль Пятровіч нарадзіўся 20 студзеня 1949 года ў в. Пагост Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Журналіст і філолаг. Вучыўся ў Мазырскім недінстытуце і на факультэце журналістыкі БДУ, закончыў Гарадзенскі дзяржаўны педінстытут імя Янкі Купалы і Менскую ВПШ. Працаваў у рэгіянальным друку. Працяглы час (1987 - 2013) рэдагаваў наваградскую раённую газету "Новае жыццё".*

*Друкаваўся ў тыднёвіку "ЛіМ", іншых рэспубліканскіх і рэгіянальных СМІ. Удзельнік рэспубліканскай нарады маладых пісьменнікаў Беларусі на возеры Свіцязь у траўні 1967 года.*

### Радок у верш

Радок у верш прымроіцца ў сне,
Нібыта здань, падманна мільганецца,
Няўлоўнаю іскрынкаю блісне,
Здагадкаю апаліць сэрца.
У ім спрасаваны любоў і боль
Начною парой і ўранні,
У ім бясконцая бітва з сабой,
Дзе толькі нябачныя раны.
У ім у згодзе надзея і гнеў
Стаяць за дабро да адчаю,
У ім радасць да Неба сягне,
Дзе ісціна асвячае.
У ім дазвання крыўда згарыць,
Зарунее праўда святая…
У гэтым радку пад водбліск зары
Верш новы нарэшце світае.

## Часінай самотнай

Сонца хіліцца ўсё хутчэй
За небакрай барвова-сіні.
Летні вечар прадзіва тчэ
Для маёй самотнай часіны.

Яна прыходзіць сваёй парой
Натхненне маё разняволіць,
Яна выдае адмысловы пароль
Для слодычы творчай і болю.

Ёй не заказваюць пэўны настрой,
Ёй не патрэбны пышныя фарбы.
Знешнім бляскам, гульнёю пустой
Яе да сябе не завабіць.

Яна ратавання майго пасланец
У тлуме штодзённым і ў быце.
Творчаму слову з ёю мацнець
І ў мітусні не згубіцца.

Там, дзе пасак вячэрняй зары,
Патухлі яе карціны-палотны.
Толькі ярчэй у сэрцы гарыць
Натхненне часіны самотнай.

## Не наракай

На тое, што прайшло, не наракай,
Калі часамі ўспамін нахлыне.
Не запаволіцца жыцця рака
Ў сваёй імклівай хуткацечнай плыні.

На ёй то раптам плыткі перакат,
То нечаканы выгін павароткі.
Без стомы і з упартасцю шукаў
Да берага свайго я шлях кароткі.

На беразе тым, мроілася мне,
І больш святла, і меней ценю.

Але наканавання не мінеш,
Прысуд суровы лёсу не адменіш.

Ілюзій дробных разарву палон,
Хоць і трымаюцца ўчэпіста да болю,
Удачы і няўдачы прошлых дзён,
Нібыта скарб, заўжды бяру з сабою.

З ім неспадзеўкі не патраплю ў тупік,
Калі бяда якая засціць вочы,
З ім проста мне не дадзена ступіць
На перакат ракі жыццёвай двойчы.

## Споведзь

*Прыпяці і брату Лёню*

Зараніца сцяжынку цярэбіць
Праз затоку на водную гладзь,
Дзе рака сваё чыстае срэбра
Гоніць сонцу і далям аддаць.

Ранак лёгкай наміткай туману
Паплавы навакола заслаў.
Наша лодка плыве паслухмяна
За кароткім узмахам вясла.

Прывітанне табе, наша Прыпяць,
Таямніча абсяг твой прыціх.
Не стамляецца шчодра сыпаць
Лета знічкі ў лугах тваіх.

Нам здалося, ты крыху змялела,
Але ўсё ж у сваёй красе,
Нашы мары - да сёння з маленства -
Ты на хвалях у свет нясеш.

Ты прымі нашу сціплую споведзь,
Што шчымліва на сэрцы ляжыць,
Яго скрухай і радасцю поўніць, -
Ад цябе ў нас няма таямніц.

Хай пачуюць яе твае воды,
Што стагоддзямі ў вечнасць імкнуць.
Ці то радасць, ці то нягода -
У душы ты абудзіш вясну.

Споведзь нашу гуллівы вецер
У далоні падхопіць свае,
З ёй у кручы пясчанай дасвеццем
Зімародак гняздо саўе.

Яе госця твая - чапля шэрая
За сабой панясе ў прасцяг.
Гай дубовы ступіць да берага -
Нашай споведзі дасць працяг.

Яе рэха весткай ціхаю
З плынню хуткай да вусця сягне,
Дзе з сястрою малодшай Сцвігаю
Ты зліваешся ўсё цясней.

Нам здалося, ты споведзь шчырую
Прыняла, як малітву, ад нас,
Берагі неўзаметку пашырыла,
Пасвятлела да самага дна.

Заблукаем ад шчасця хмельнага
У затоках і травах густых,
І ніяк па-іншаму нельга нам:
Не адпусціш з палону нас ты.

## **У зарапад**

У лугах на сцяжынцы вузкай
Нам за шчасце было заблудзіць.
Цішыня тут здавалася музыкай,
З намі слухаў яе маладзік.

Ноч без стомы зоркамі сыпала -
З неба падаў зіхоткі лівень.
Ты яго сарамліва-сціплая
У далоні лавіла маўкліва.

Ліпень зёлкі і краскі пахкія
У стагі закаханым паклаў.
…Сэрца горача раптам затахкала -
Пацалункамі ты апякла.

Закружыліся зоркі ўсе разам,
След зарніцы бліснуў і ачах.
Мы шапталі прызнанні нязвязна…
Калыхнулася неба ў вачах…

У здагадках маўчалі абсягі,
Спяшалася ў вечнасць часу рака.
Шчасце-лёс ў вышыні недасяжнай
Маладзік адзінока шукаў.

Зараніца плыла, як звычайна,
Краем неба ў сваіх берагах.
Зналі мы: нашу светлую тайну
Цішыня, як сваю, берагла.

Зараслі тыя сцежкі з гадамі,
Цуд жа летніх начэй не пагас.
Зарапад мы з табой узгадаем -
Хай хвалюе, як некалі, нас.

**Асенняе**

Клён махнуў мне лістом-даланёй
Ля шашы на ўзгорку высокім,
Вершалінай барвовай сваёй
Ён узяў у абдымкі аблокі.

Быццам восені ён пасланец,
Бы дазорца яе далячыняў.
Сонца з хмары ўсмешкай бліснe -
Як у лета акно прыадчыніць,

Расхіне небасхілы наўсцяж…
Вецер пругкі, нябёсы гушкай.
Хай шчаслiва і лёгка ляцяць
У далёкія выраі птушкі,

Хай з сабою яны пранясуць
Праз дарогі-шляхі ў расстанні
Мары-мроі свае пра вясну
І ў родныя гнёзды вяртанне.

З дрэў лістота зусім ападзе,
Бель сувоі рассцеле паволі.
Згасне разам з зарою дзень
У азяблым кляновым голлі.

**Трывогі і смутак**

Трывогі ўсе і светлы смутак свой
Я цалкам толькі жніўню давяраю,
Калі празрыста-яснаю парой
У наваколлі лета дагарае.

Нязмушана ён кліча за сабой
У свет, што ўяўляецца мне дзіўным.
…Чародкай шумнай ластаўкі наперабой
На правадах шчабечуць штось нявінна.

Дзянніца адмыслова, як мастак,
У фарбы яркія распісвае прасцягі,
Туман сувой ля рэчкі сцеле так,
Нібы ён з рыбай цяжкі невад цягне.

Ужо касцоў у лузе галасы
Не абуджаюць росныя світанні.
Сум у падстрэшку вострае касы
Спрабуе разгадаць травы маўчанне.

У небе звечара бадзёры маладзік
Сваім нарогам пачынае ўзворваць
Раўнюткі і нямераны цалік,
Каб на яго абшарах сеяць зоры.

Сягоння ранкам у маім акне
Чырвоным зарывам успыхнула рабіна,
Бліснула срэбрам павуціна для мяне,
Як згадку пра імклівы час зрабіла.

Усё, чым сэрца ў споведзі жыве,
У жніўні з глыбінёю мной адчута.
Яму я давяраю ўсе свае
Трывогі і асенні светлы смутак.

**Супадзенні**

Яшчэ трывожных раздзяляльных ліній
У прыродзе не заўважыш анідзе.
Вярнуцца марыць у лагодны жнівень
Пахаладзелы вераснёўскі дзень.

Яшчэ слядоў выразнага знямення
У прыцішэлым садзе не відно.
Зялёны ўбор ён неўзабаве зменіць
На колер лістападаўскіх абноў.

Іх апране наросхрыст і нядбайна.
Зашастае вятрыска ў голлі дрэў,
Які нашэптваць будзе саду тайна,
Нібы ён невылечна захварэў.

Ён жоўкне - і лістота аблятае,
І вынік прадказальны прама тут:
Мінецца хутка восень залатая,
Снягі ваколле беллю замятуць,

Вясна ў зеляніну сад адзене,
Ён зноўку будзе ў сваёй красе.
Тут логіка сезонных супадзенняў,
Што перамены існаму нясе.

У іх - глыбіняў неспазнаных сувязь,
У ёй - бясконцасці жыццёвы рад.
Абноўлены, у квецені красуе
Да восеньскага супадзення сад.

* * *

Сонца з берага п'е ваду -
Прыпала да Прыпяці прагна.

Касцы пракосы радком вядуць -
Будзяць пагодлівы ранак.
Яны адразу бяруць разгон -
Траву пад нулёўку рэжуць.
Рака ў плечы ім наўздагон
Ветрам вільготна-свежым.
Ужо і копы наўкол ляжаць,
Як ваяры пасля бітвы.
Бусел крокам сваім сенажаць
Абмервае самавіта.
З хмелю зёлак і водару траў,
З красак і спеваў птушыных
Духмяны гмах аж неба дастаў -
Даткнуўся да аблачыны.
Месяц туман на лузе пасе.
Зарніцы шэпчуцца чуйна.
У стозе стомлены жнівень-касец
Разам з сонцам начуе.

**Вясенняе**

Цень за акном палягчэў за дзень,
На снезе ляжыць як бязважкі.
Вечар ад радасці памаладзеў, -
Вясна ідзе без зацяжкі.

Сонца з даху крохкі лядзяк
Цёплым праменем сколе.
Паўнеба дзянніца, нібыта мастак,
Распіша ў яркі колер.

Адразу з прылёту гракі ўначы
У гнёздах старых азяблі.
Бадзёра пад ветразем днём імчыць
У раўчуку дзіцячы караблік.

Неба вышэй падымае сябе,
Далеч наўсцяж адкрывае.
Зерне мроіць ужо аб сяўбе,
Араты - аб караваі.

## Зашэпчацца лістота

Зашэпчацца ўстрывожана лістота
На дрэвах, калі вецер набяжыць.
У плыні часу гэта знак істотны,
Што лета на апошнім рубяжы.

Няўлоўна жнівень лёгкія аблокі
Падняў сваёю макаўкаю ўвысь
Да зорак схаладнелых і далёкіх,
Дзе восені азначыўся абрыс.

Мой сад прымоўк, яго ўжо не поўніць
На ранку птушак галасісты спеў.
Тут уначы павісне нізка поўня
Вялізным яблыкам, які зусім паспеў.

Яшчэ дакладную мяжу цвіцення
Прыродзе не акрэсліў лістапад,
І дзень засмужаны святло і цені
Змяшае часам проста неўпапад.

Зашэпчацца лістота ў трывозе -
Адчуе асцярожны ўздых зімы.
Нячутна хмара досвіткам вывозіць
За небакрай сцішэлыя грамы.

І здасца свет абноўленым і дзіўным,
Дзе быццам толькі пачынаеш жыць.
Бывае гэтак на зыходзе жніўня,
Дзе лета на апошнім рубяжы.

## Мой дзень

Ноч улетку зарывам свеціцца,
Не стуляе на сон вачэй,
Разам з зоркамі, разам з месяцам
Дня наступнага вобраз тчэ:

Таямніча з самага вечара,
Бы нябачны нейкі мастак,
Палатно небасхілу расчэрчвае
Уздоўж, упоперак і наўскасяк;

Размалёўвае фарбамі тонкімі
З невычэрпнай палітры сваёй,
Ды не пэндзлямі і алоўкамі,
А прыроды шчодрай рукой.

І на ўсходзе зара галерэю
Адкрывае з дзівосных карцін.
…Адчуваю, як дзень мой мудрэе
Проста так, без ніякіх прычын.

**Наша лодка**

Кола дзён, на жаль, не спыняецца.
Нам былога ніяк не вярнуць,
Хоць яно быццам светлая раніца,
Што адкрыла для нас вясну.

Салавей спяваў за Сцвігаю.
Наша лодка лёгка плыла.
Хваля песню нашэптвала ціхую,
Нас вяла за ўзмахам вясла.

Сэрца білася горача-соладка,
Нібы злоўлены вольны птах.
Ах, як марыцца, калі молада,
Калі вабіць нязнаны шлях.

Не збыліся спадзевы юначыя,
Толькі водгулле іх звініць.
Як шкада, што жыццё іх зыначыла,
І няма тут нашай віны.

Памяць часу заслону рассунула,
Салавей за Сцвігай ізноў.
Наша лодка радасна-сумная
Прыплывае на хвалях сноў.

Кола дзён усё паскараецца.
Як былое часамі гукну -
Сэрца ўзрушвае мроя-раніца,
Што дарыла ў юнацтве вясну.

## Стары плуг

Ён зусім анямеў і аглух,
Стаў непатрэбнаю рэччу.
Ляжыць пад страхою закінуты плуг
З затоенай крыўдай старэчай.

Для яго даўно адгулі ўжо
За ўраджай вялікія бітвы,
З часам пакрыўся ўвесь іржой,
Усімі на свеце забыты.

Хоць гаспадар яго і бярог,
Каб ступіць у рабоце як меней,
Сцёрся востры яго нарог
На ворыве аб каменне.

Ціха канае ён пакрысе:
Зімой - у марознай завеі,
Увосень - у золкай расе,
Летам у дождж іржавее.

Толькі ўвесну ён ажыве,
Раніцай майскай успомніць,
Як там, дзе загон у траве,
Злавіўшы нарогам промні,

Паволі плыў у сваёй баразне,
Як цяжкія скібы варочаў,
Як працу ў палях пачынаў чым раней
І вяртаўся з палёў уночы.

Успомніць, як рад быў заўжды
Сонцу, дажджу і грому, -
Хай бачыцца сон малады
Пад страхою плугу старому.

## З дажджоў і навальніцы

Не дадзена прыродзе памыліцца -
Складае каляндар дакладны свой.

Уявіцца лагічнай навальніца,
Што разгуляецца асенняю парой.

Блісне маланка яркаю ўспышкай,
Але ўздоўж і ўпоперак спярша
Яна стралою вогненнай распіша
Знямелы і ўстрывожаны абшар,

Прашые над прысадамі сутонне,
Пакуль не згасне недзе за сялом…
Магутна і аблегчана застогне -
Абрынецца за небакраем гром.

Прыродзе дадзен цудадзейны дар -
На змены ў надвор'і не пазніцца.
Своечасова жнівень перадаў,
Як спадчыну, у восень таямніцы.

Іх верасень адразу разгадаў,
Спазнаў наскрозь да самае драбніцы.
…Гартаецца асенні каляндар,
Што складзены з дажджоў і навальніцы.

## Сцвіга

*Рака Сцвіга, правы прыток р. Прыпяць у Жыткавіцкім р-не… Вусце за 2 км на П-У в. Пагост…*
*(Вялікі Беларускі Энцыклапедычны слоўнік. Мн., 2011)*

Збягуць з ручаямі пад сонцам снягі,
Сплыве разводдзе з ільдзінаю-крыгай.
Зноў убярэцца ў свае берагі
Спакойна-павольная Сцвіга.

Яна адкрывае сваю красу
У рэчышчы звыклым вузкім.
Хвалі яе з сабою нясуць,
Каб вытоку абняцца з вусцем.

Шлях да яго зусім не прамы:
То выгіб круты, то затокі,

Дзе трэба ўсе пясчынкі прамыць
На мелі і дне глыбокім.

Улетку з вудай прыемна глядзець,
Як плаўным патокам струменіць,
Як сонца зранку і цэлы дзень
У ёй з ахвотай купае праменні.

Звечара месяц на водную гладзь
Жменяй зоркі з неба рассыпле.
Русалка на бераг выходзіць гуляць
У вопратцы вельмі сціплай.

Цячэ ў роздуме мудра і ціха -
Ва ўсім характве ёй трэба адкрыцца -
Палеская рэчка лагодная Сцвіга,
Каб Прыпяці стаць сястрыцай.

**Асенні дзень**

Дзень асенні скупы на падзеі,
За сабой ён мяне не заве,
Сарамліва на досвітку рдзее,
Дажджавою хмарай плыве…
Паміж цьмяным святлом і ценем
Не азначыць рашучы падзел.
За сівым небакраем вячэрнім
Разам з ціхай зарой ападзе.
Ён на сэрцы пасее няпэўнасць
Як глыбокай самоты знак.
Сам сябе я мушу ўпэўніць:
Яе мудрасць патрэбна зазнаць.
Ужо не вернецца жнівень лагодны,
Хоць паклічу яго разоў сто.
Днём асеннім душэўнае згоды
Не заменіць мне сёння нішто.

**Першацвет**

Хаця ўначы спрабуе праз гушчар
Зіма на ўзлессе ўпотайкі прабіцца,

Але ўжо выразна прагучаў
Сігнал вясны ад першай навальніцы.
Ягоным рэхам на парозе дня
Узварушылася нямое наваколле.
О цуд, тут першацвет падняў
Здзіўлёна свой пялёстак кволы.
З-пад снегу і, магчыма, да пары
Вакол сябе даверліва ён глянуў -
Сама краса, што сакавік адкрыў,
Яшчэ без фарбы яркай і без глянцу.
Неверагодна: ранак падабрэў,
Аж захліпнуўся цёплым ён вятрыскам.
Сок забрадзіў у кронах дрэў,
І апусцілася вясёлка нізка.
Пад небам чыстым, што нібыта шкло,
На ўзлессі, што затрызніла вясною,
Спакойна і ўрачыста паплыло
Сваёй арбітай сонейка зямное.
Прыроды адмысловы пасланец,
Яно сагрэе змерзлыя прасторы,
Дзе хутка птушак галасам звінець,
Што для вясны сюжэт адметны створаць.

**Вецер**

Неспадзеўкі сягоння ў акно -
Толькі ледзь занялося дасвецце;
Як і ўчора было, так ізноў
Мне пастукаў жнівеньскі вецер.
Прыляцеў ён аднекуль здаля,
З-за нязнаных сівых небасхілаў.
Ён ля зорак у небе кружляў,
Шмат шляхоў на зямлі асіліў.
Да світання з засені дрэў
Ладзіў гоман птушыны і спевы,
У абдымках заранкі грэў,
Апантана сады нашы спеліў.
Захапляўся ён золатам ніў,
Што сумуюць па новай пожні,
З ручаём лясным гаманіў,
Што ў спёку паіў падарожных.
У лугах ён старанна збіраў -
І патраціў усё лета на гэта -
Сінь нябёсаў і водар траў,
І мядовую свежасць кветак.
Не прыкмеціў, што ў гэтыя дні
Лёгкі сум апавіў далячыні,
Што на поўдзень адлёт сасніў
У журбе першы вырай буслiны.
Я вятрыску акно адчыню.
У маўклівай цішы світальнай
Хай адкрые мне ўсю глыбіню
Ён спрадвечнай вялікай тайны,
Што нязменнае кола жыцця
Ад усходаў да завядання:
Тут пачатак яго і працяг,
І да новых вытокаў вяртанне.

* * *

На зацішным ускрайку жніўня,
Дзе ў згодзе святло і цені,
Мяне вабіць таемна-зазыўны
Луг не летні і не асенні.

Там нядаўна, яшчэ ўчора,
Напявала каса са звонам -
Гэта лета свае ўзоры
Рассцілала ў пракосе зялёным.

Сёння луг цішынёй накрыла.
Змоўклі птушак на ранку песні.
І буслы ў вырай на крылах
Касавіцы рэха панеслі.

Я гляджу: небасхіл празрысты,
Нібы далечы ён рассунуў,
Яшчэ ў ясных яго абрысах
Ані знаку асенняга суму.

Пастаю. І паверу наіўна:
Свет прыгожы і не трывожны.
Я на светлай вяршыні жніўня -
Зачарованы ім заложнік.

* * *

Зажураны жнівень плыве
У восень маю залатую
Пад мараў і мрояў павеў,
Які таямніцай чаруе.

Мой сад пачынае жаўцець,
Яшчэ нядаўна зялёны:
Лёгкай самоты цень
Трымае яго ў палоне.

Яшчэ туман не заслаў
За Прыпяццю ясныя далі;
Яшчэ з узмахам вясла
Яе цалуюцца хвалі.

Яшчэ нямала надзей,
Яшчэ ў небе высокія зоркі,
Яшчэ спрабуе ўдзень маладзець
Засмужаны ранак золкі.

Рабіны касцёр яшчэ не ачах,
Хаця ля яго не сагрэцца.
Плыве ў памяці і ў снах
Жнівень са смуткам у сэрца.

## *Янка Паддубіцкі*

**Паклон паэту**

*Адаму Міцкевічу*

…І зноў дажджыцца на душы
(У сэрцы ёсць свае цыклоны).
Шапчу малітву я ў цішы
І шлю табе, паэт, паклоны.

Ты быў у Шчорсах. Я даўно
Жыву тваім тут успамінам,
І тчэцца дзён маіх радно
У вокнах бэзавай галінкай.

Мой пан Тадэвуш, мой Адам,
Заві мяне сваім літвінам.
За гонар той усё аддам
Я на алтар сваёй Айчыны.

Пачуй мяне праз два вякі,
Пабудзь у Шчорсах
маім госцем,
Прыйдзі да Нёмана-ракі,
Я стрэну тут цябе, на мосце.

На парк самотна паглядзіш,
І я з табою зажуруся…
Упаў твой дуб, а ты стаіш,
І мы стаім у Беларусі.

Ты запішы ў свой легіён
Мяне хоць проста шараговым;
Нас не адзін такіх мільён -
За волю ў бой ісці гатовых.

… А на душы ізноў дажджы
(У сэрцы ёсць свае цыклоны)…
Праз два стагоддзі-рубяжы
Прымі мае, паэт, паклоны.

* * *

За Харосіцу сонца коціцца,
А над Шчорсамі мёду пах;
Пагуляць душа так і просіцца
Па-над Нёманам у лугах.

Там лагодныя лозы ніцыя
Спавіваюцца туманом
І, міргаючы медуніцамі,
Поплаў сцелецца дываном.

За ракой бары цуд-жывіцаю
Лечаць сэрца мне на вякі,
Узвышаюцца там званіцамі
Меднастволыя маякі.

За Наваградак сонца коціцца,
Белай квеценню пеніць май.
Як мне хочацца, проста хочацца
Прыгарнуць цябе, любы край!

* * *

*Елісею Лаўрышаўскаму*
*З нагоды 1020-годдзя*
*праваслаўя*

Калі б наваградскія вежы
Нам памяць здолелі асвежыць,
То там, дзе сёння сосны, жвір,
Ля Гнесіч новы манастыр,
Страчаў бы нас манах з дарогі
Прыветна-стрыманы і строгі:
Князь Войшалк -
Лаўрыш - Елісей
Прыняць гатовы ўсіх гасцей:
Дзяржаўны дзеяч, воін, мніх
Трымаўся поглядаў сваіх.
Навагародак зведаў госцем
Вайшэлк яшчэ ў маладосці:
Тут лад жыцця, павеў культуры,
Людзей цікавыя натуры
Жывы будзілі інтарэс.
А побач пушча, Нёман, лес -
Усё яму тут даспадобы,
І жыць тут выявіў жадобу.
Прыняцце ж веры праваслаўнай
Адкрыла шлях яму той слаўны.
Насенне ў глебе благадатнай
Дало ўздым натуры здатнай.
Сярод тыхчасных ваяводаў
Не толькі зброяй ён валодаў:
У слове Божым была сіла -
Яна яго і акрыліла.
(І сёння мы жадаем строга
Звяраць памкненні свае
з Богам.)
Ён кожны крок свой
з Богам мераў,
Служыў Яму і моцна верыў,
Што будзе тут свая дзяржава
Налева Нёмна і направа.
Літоўскім Княжаствам Вялікім
Стаў гэты край у свеце дзікім.
Шукала шлях святое слова
Ў людскія сэрцы і галовы;
Рука, што ў мур цагліну клала,
Сваё Евангелле пісала.
Такім ён быў - вякоў пасланнік,
Дзяржавы нашай заснавальнік.

## *Мікола Сільвановіч*

### **Родная вёска**

Прывітанне, Асташына роднае!
Мае мары, нарэшце, збылісь…
Тут дзяцінства маё басаногае
У портках зрэбных
шумела калісь.

Мяне гушкалі хвалі Валоўкі.
Калі ж стома спыняла мяне,
Бы матуля, люляў адвячоркам
Ветрык свежы ў духмянай капне.

Водар спелай раллі напрадвесні
Нашы душы дурманам хмяліў.
Росным ранкам бадзёраю песняй
Косы звона пракосы вялі.

І, абнёсшыся чаркаю хмельнай,
Кірмашамі ваколле гуло,
І вяселлі, як толькі нядзеля,
Полькай з свістам будзілі сяло.

А цяпер? Паглядзі, непарадкі…
Да каго па параду ісці?
І гадамі сагнутыя бабкі
Мне аповед вядуць аб жыцці.

Дык няўжо аджыве
вёска з намі?
І нябачна да выйсця дарог.
І нямое ў вачах запытанне
Маё сэрца агнём апякло.

Крочу вуліцай. Цяжкія мары,
Нібы путамі, сцішваюць крок,
І забітыя дошкамі накрыж
Вокны змрочна кідаюць папрок.

## *Уладзімір Сіўко*

### Сябрам

*Гэты верш я чытаў і аддаў Барысу Кіту, з якім вучыўся ў Наваградскай беларускай гімназіі, пры сустрэчы з ім у Наваградку.*

Сярод вясны маёй далёкай,
Той бесклапотнае пары,
У навуцы
нашых першых крокаў,
Вясковай сціплай дзетвары.

Чаго мы ў жыцці шукалі,
Чаму імкнулі да святла?
Не, мы тады яшчэ не зналі,
Што мары зніШчацца да тла.

А ці былі ў нас тыя мары?
Можа, у каго яны былі,
Мо, хто хацеў сваёй ахвярай
Жыццё палепшыць на зямлі.

Хацелі мы тады нямнога:
Лапаць змяніць на чаравік,
А што цярністая дарога,
Намі не бралася ў разлік.

Хоць беднасць
нас з усюль даймала,
З картоў і сітцаў быў убор,
Чагось заўсёды не хапала, -
А мы імкнуліся да зор.

Святла хацелася нам болей,
Палепшыць Бацькаўшчыны лёс,
Змагацца з цемрай і нядоляй,
Каб менш было ў народзе слёз.

Навуку грызлі мы ўпарта,
З бацькоў цягнулі трудны злот,
Пазналі добра, чаго варты
Для беларусаў панскі гнёт.

Прайшлі гады, і нашы мары
Развеяліся, нібы дым.
Зноў неба зацягнулі хмары,
Як і ў далёкія гады.

Аб тых гадах у маім сэрцы
Застаўся цёплы ўспамін.
І ў добры час, і ў паняверцы
І ты, і я - Радзімы сын.

## *Аркадзь Шынтар*

### Мелодыя

На срэбных струнах павуціння
Музыка-вецер грае,
Нібы са скрыпкі Паганіні
Мелодыя сцякае.

Заслухалася нават восень,
І сумны лістапад прымоўк.
Ён між бяроз і сосен
Павесіў свой смычок.

Панеслі лета з крыкам
У неба журавы.
За хмары іх паклікаў
Шлях зорны, векавы.

Лугі заснулі ў сене,
І кветкі адцвілі…
Я слухаю асеннюю
Мелодыю зямлі.

* * *

Бачыце, возера хвалюецца,
Па вадзе ідуць кругі.
Зорка з месяцам цалуецца:
Ён ёй сэрцу дарагі.

Ночкай летняю не спіцца
Ні бярозам, ні дубам.
Так і хочацца згубіцца
У лугах далёкіх нам.

* * *

У небе плакаў летні дождж.
Наўкол абшары моклі.
Акно і ўпоперак, і ўздоўж
Маё пасеклі кроплі.

Як прыкаваны, пры акне,
Гляджу ў пустую шэрань.
Здаецца, профіль твой мільгне -
Я ў шчасце зноў паверу.

## *Мікалай Гумілёў*

* * *

Так, я - ведаю, вам не пара.
І прыйшоў я тут без пары.
І люблю я не спеў гітары,
А дзікунскі надрыў зурны.

Не па залах і па салонах,
Не сукенкам і пінжакам -
Словы вершаў у розных склонах
Я чытаю вадзе й гарам.

Я люблю, як араб у пустыні
Прагна п'е з ручая ваду,
А не рыцара на карціне,
Што ў чаканні спыніў хаду.

І памру я не на пасцелі
Пры натарыусе і ўрачы,
А ў цясніне, дзе вецер сцеле
Па каменні свае плюшчы.

Каб ўвайсці не ў той адкрыты
Пратэстанцкі, прыбраны рай,
А туды, дзе разбойнік і мытар
І блудніца крычаць: "Уставай!"

Так, я - ведаю - вам не пара…
І прыйшоў я тут без пары,
І люблю я не спеў гітары,
А дзікунскі надрыў зурны!

*Пераклад Святланы Абдулаевай.*

## Жырафа

Сягодня ў цябе асабліва самотны пагляд,
І рукі, як тонкія плёткі, твае на калені ляглі.
Паслухай: далёка-далёка ёсць возера Чад -
Вандруе жырафа прыгожая там па зямлі.

І дадзены ёй грацыёзнасць і спрыт доўгіх ног,
І шкуру яе ўпрыгожвае дзіўны узор,
З якім параўняцца адзін хіба месяц бы мог,
Калі раздрабляюць ўначы яго хвалі азёр.

Здалёку яна, быццам, ветразь сухі карабля.
І бег яе плаўны, як птушак у небе палёт.
Я ведаю - многа прыгожага бачыць зямля,
Калі ў мармуровы яна захіляецца грот.

Я ў розных краях назбіраў таямніц караван.
І толькі вось як жа табе я пра іх раскажу,
Калі ты так доўга ўдыхала балотны туман
І слухаеш толькі адны маналогі дажджу.

І як я табе раскажу пра той дзіўны у тропіках сад,
Пра стройныя пальмы і іх векавую красу?...
Ты плачаш? Паслухай: далёка-далёка ёсць возера Чад
І там грацыёзна збівае жырафа расу…

*Пераклад Святланы Абдулаевай.*

## Раманс

Самоты поўныя мільгаюць
Ўсё з тым жа болем дні мае,
Нібыта ружы ападаюць,
Нібыта ружы ападаюць
І салаўёў хор не пяе.
Ды і яно… каханне тое,
Што мне загадвала: "Любі!" -
Ужо амаль што не жывое…
Ужо амаль што не жывое -
Бяжыць атрута па крыві.
І калі я жыву на свеце,

Ды толькі дзеля мары мо…
Мы з ёй нібы сляпыя дзеці,
Мы з ёй нібы сляпыя дзеці
Збяжым на горнае плато.
Туды, дзе толькі мроі кружаць -
У край нябесных васількоў.
Шукаць завянуўшыя ружы…
Шукаць завянуўшыя ружы
І слухаць мёртвых салаўёў.

*Пераклад Святланы Абдулаевай.*

**Ты не магла ці не хацела**

Ты не магла ці не хацела
Адчуць, як б'е па мне знямога.
Шануеш ўсю спакусу цела
І сэрца стук дзеля другога.
Затое вось перад бядою,
Калі я ў муках сцісну зубы -
Не прыйдзеш ты змачыць вадою
Мае засушаныя губы.
І ў час рыўка з апошняй сілы,
Калі й анёлы залунаюць -
Твае зіхценнем яркім крылы
Перада мной не замільгаюць.
І ў момант светлай перамогі
Мой сцяг здабыты не падымеш,
Мяне ж, устаўшага на ногі,
Сваёй пяшчотай не абдымеш.
І ты мяне забудзеш хутка,
І я не стану думаць болей,
Аб той дзяўчыне, што пакутай
Была ў душы маёй і болем.

*Пераклад Святланы Абдулаевай.*



## *Міхась Зізюк*

*Зізюк Міхась Міхайлавіч нарадзіўся ў 1967 годзе ў в. Лучыцы Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці. У 1984 годзе паступіў у Навасібірскае вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча, якое скончыў у 1988 годзе. Да 1993 года служыў на Далёкім Усходзе. З 1993 года жыве ў Беларусі ў Навагрудку. Скончыў Акадэмію МУС Рэспублікі Беларусь, юрыст. Працуе прадрымальнікам. У 2013 годзе прыняты ў Саюз беларускіх пісьменікаў. Друкаваўся ў рэспубліканскіх перыядычных выданнях, празаік. Аўтар кніг "Зелянее рунь", "Оракулы Междуречья", "Пропавшая свадьба", "Храм его души", "Планктон", дзіцячых кніг "Янка, Шмурдзік, Бухматка ды іншыя", "Энерджы і дзеці з 5"а"".*

### **П а э т**

*Светлай памяці Самсона Пярловіча*

Ён стаяў на самым сіверы. На гэтым рагу сыходзіліся ці не ўсе самыя злыя і халодныя вятры невялікага гарадскога базарчыка. Старая пляскатая драпавая кепка, з-пад якой выбіваліся ссівелыя пасмы, даўно ўжо не грэла, як не ўкрывала ад халадоў зацяганае чорнае паліто. Калючая пранізлівая дуйка часам адчайдушна кідалася ў твар, тады ён адварочваўся, стараючыся хоць крыху захінуцца ад пякучага холаду. Зрэшты, яму не прывыкаць - не такія марозы перажыў на чужой непрыветнай зямлі. Колькі прыйшлося памерзнуць на голых дошках у бараку, колькі калеў на лесапавале, на этапе - хто калі лічыў тыя дні. Воля здавалася недасяжнаю, але надзея саграввала, не давала згінуць у страшнай гулагаўскай куламесе. Перажыў, выжыў, выстаяў, вярнуўся на родную зямлю. А безліч касцей назаўжды засталося ляжаць у той, усеянай пакутамі, кроўю і слязьмі, далёкай старане. Ён

дастаў хусцінку, адвярнуўшыся, высмаркаў вялікі, ўчырванелы ад доўгага стаяння на холадзе нос і зноў схаваў яе ў кішэню. На невялікім дашчаным прылаўку ляжаў няхітры тавар -球 рознае, былое ва ўжытку начынне, нейкія прылады і, самае галоўнае, яго кнігі "Заяц на бярозе". З просценькім подпісам "Паэт прадае свае творы" яны сіратліва стаіліся сярод нагрувашчванага жалеззя. Кніга немудрагелістая, зробленая ў мясцовай друкарні, але якой жа дарагой была яна для яго.

Людзей у гэтую пару няшмат, дый тыя стараліся хутчэй прабегчыся, купіць што патрэбнае, каб зноў схавацца ва ўтульных кватэрах. Яму ж не было як, яму трэба стаяць, стараючыся хоць кольвечы што ўгандляваць - вяртаць пазыкі неабходна. А што на тавар увагі звярталі мала - дык тое звыклы малюнак. Нічога не зробіш, не гандляр ён, жыццё прымусіла стаяць. Пракацілася чарговая халодная хваля, і ён шчыльней падаткнуў суконны пярэсты шалік на худой зморшчанай шыі. Зірнуўшы ўбок, на аўтастанцыю, чамусьці адразу прыгадаў мінулае, памяць бліскавічна азарылася ўспамінамі. Яны палезлі з глыбіні цэлымі пластамі, нібы прасіліся на паперу, каб ён занатаваў іх для нашчадкаў, каб тыя не забыліся пра жахлівае мінулае. Толькі пісаць пра пражытае ён ужо не будзе, усё, што мог зрабіць - зрабіў. Вершы, напісаныя ім, засталіся, не згінулі, іх чытаюць, і верыцца, што будуць чытаць - а там уся праўда.

*І ноччу, і днём падхалімы скуляць*
*Пра росквіт жыцця, пра свабоду,*
*Ад гэтай "свабоды" аж стогне зямля,*
*А ў росквіце тым - смерць народу.*
*Люцыпар - кат Сталін - старых і малых,*
*Запрогшы ў калгасныя ёрмы,*
*Нявіннай крывёй суцяшае іклы,*
*Каму колькі жыць ставіць норму.*

Радкі гэтыя напісаліся ў памятным 1947 годзе. Ужо падгаіліся раны і пабоі, атрыманыя пасля некалькіх спроб няўдалых уцёкаў з нямецкага палону - яго, як і многіх іншых юнакоў, забралі на прымусовыя работы ў Германію. Уцяклі па дарозе, іх злавілі, зноў уцёкі, палон, здзекі, цяжкая праца ў далёкай Аўстрыі. І вось, калі вярнуўся дамоў, крыху акрыяў, сяк-так набраўся моцы, зразумеў, што новая ўлада не дасць свабодна дыхаць беларускаму народу на роднай зямлі, што Беларусь не будзе вольнай, як марылася. Па-злачыннаму, начамі, людзей хапалі і вывозілі, сялян заганялі ў калгасы, народ, які пераэыў страшэнную вайну, зноў апынуўся пад прыгнётам. Сэрца сціскалася ад крыўды і несправядлівасці. І тады ж даведаўся, што ён

не адзін, што ёсць аднадумцы, якія бачаць Беларусь толькі незалежнай. Патрыёты гэтыя стварылі Саюз вызвалення Беларусі. Напоўнілася сэрца кволай надзеяй - можна паспрабаваць штосьці змяніць, перайначыць на роднай зямлі. Хай не адразу, хай паціху, але перамяніць, даць людзям надзею на іншае жыццё. Бо тое, што робяць з людзьмі, з зямлёю, з радзімаю бальшавіцкія ўлады, супярэчыла ўсялякаму здароваму сэнсу. І ён з радасцю далучыўся да падпольнай працы. Але радасць нядоўгаю была…

Трэба ж было яму, як на ражон, напароцца на здрадніка, даверыцца яму. Нагадваў жа Генадзь Казак - будзь асцярожным. Не выйшла. Помніцца тая ноч, як грукалі ў дзверы прыкладамі, а затым яе ўвогуле выламалі, як груба, па-звярынаму, рабіліператрус, як пасля піхалі ў чорны варанок, як чорнымі жудаснымі плямамі нема зеўралі вокны ў горадзе. Нават сабакі не брахалі, стаіўшыся, як і ўсе жыхары, у жывёльным страху і здранцвенні перад чорным энкавэдысцкім груганнём, а тыя п'яніліся ад ўседазволенасці, усяўлаўднасці і беспакаранасці.

Страху і шкадобы да сябе не было, паспела загартаваць яго жыццё, ён усведамляў, што за гэтым арыштам можа стаяць вышэйшая мера. Калі наканавана - няхай, за родную зямлю ён гатовы скласці галаву. Ён і сапраўды верыў, што некалі праўда закрасуе.

*Жар мне сэрца паліў,*
*Вочы слеплі ад мукі,*
*Пот змахнуць не маглі*
*Закаваныя рукі.*

Ці не яго аднаго пацягнулі да ката беларускай зямлі - лысага, з бародаўкай, і вельмі агіднага з выгляду Цанавы. Найперш, за верш: як мог асмеліцца нейкі чарвяк-беларус назваць самога Сталіна катам. Няўжо існуюць такія? Як падляцеў усутыч да яго разлютаваны брыда-Цанава, як тупаў нагамі і са злосцю крычаў: "Як ты мог напісаць такое пра "бацьку народаў?" А ён тады, малады, гарачы і перакананы ў сваёй праўдзе, смела кінуў у адказ пачвары: "Для вас ён, можа, і бацька народаў, а для беларускага народа - кат". Ох, як затупацеў той, як раз'юшана закрычаў па-беларуску: "Не мані!"

Развіталіся з хлопцамі ў лёхах. Ды не, не сталі іх забіваць, па выраку пагналі на поўнач, на лесапавалы. А ён і там не кінуў паэзію, нават у тых нечалавечых умовах задумваліся радкі, якія ён, не маючы магчымасці занатоўваць, проста завучваў. Кастусь Рамановіч побач з ім на нарах быў, завучвалі разам. А як было тое кінуць? Аніяк, людзі павінны ведаць, павінны памятаць пра тое, што тварылася

крываваю ўладаю і яе прыслужнікамі.

*Але не я пісаў вам*
*Пра страшны здзек шалёны,*
*Калі б цярпеў здзек толькі сам,*
*А не людзей мільёны.*

Як жа цягнула тады дахаты, на мілыя ўзгорачкі навагрудскія, зірнуць хоць адным вокам на родныя Католышы. Пэўне, толькі надзея і ратавала, надзея на тое, што ціск чорнага наслання аслабне, што будуць і лепшыя часы. І вярнуўся, пакінуўшы там некаторых верных паплечнікаў-аднадумцаў дый проста незлічоную колькасць бязвінных ахвяр крывавай зграі. Недзе там застаўся і Генадзь Казак. Эх, братка, як жа марыў ты пра незалежную Беларусь, мабыць болей за ўсіх. Але верылася, што не прапалі яны, што хоць пасля смерці адляцелі на родную зямлю, да родных палёў, да продкаў…

На роднай зямлі многія адвярнуліся ад яго: хто з-за боязі перад уладамі ці начальствам, хто па-проста са страху вечнага - каб чаго не выйшла, некаторыя і шчыра ненавідзелі, лічылі здраднікам, за спіною называлі фашысцкім халуём. Ён ніколі не пярэчыў такім, верыў, зноў жа, верыў, што час усё паставіць на сваё месца. Цяжка было, але свет не без добрых людзей, і яго рукам справа знайшлася. Ён не шукаў іншых шляхоў - як прыйшоў на завод, так і застаўся. Цягам часу і сям'я зладзілася, дачка з'явілася. Нязменным заставалася толькі адно - яго любоў да скону, паэзія, толькі яна ніколі не пакідала - як не пакінула нават у няволі - толькі ў ёй душа знайшла сабе патаемны куточак, у якім можна ўволю насалодзіцца свабодаю, аддаць сваім думкам увесь прастор. Ён разумеў, што яго не надрукуюць, але адмовіцца ад таго, чым жыў, не мог. А вось рабочы люд упадабаў яго вершы і гумарэскі, нярэдка нават са сцэны ён чытаў свае творы пад гучны рогат і шчырыя воплескі. Сшыткі папаўняліся новымі радкамі, там ён пакідаў усе свае думкі, жаданні, мроі і надзеі.

Нават не думаў, што запаветная юначая мара збудзецца яшчэ пры ягоным жыцці - Беларусь сталася незалежнаю. Збылося тое, за што ён і ягоныя сябры распачыналі барацьбу. Многія не дажылі да светлага дня, але галоўнае - яны ўсе не злачынцы цяпер, як было пры савецкай уладзе, а сапраўдныя сыны сваёй зямлі. Значыць, яго сябры загінулі недарэмна. Хай сабе гэта высокія словы, але ён мае права так сказаць перад усімі: іхнія лёсы пакладзены ў падмурак незалежнасці. І дыхаць стала вальней, і сонца засвяціла па-іншаму, і твары людскія, здавалася, пасвятлелі. Яго творчасцю зацікавіліся, яго прызналі, друкаваць сталі - і гэта ўжо поўніла сэрца радасцю. А потым

дапамаглі добрыя людзі і кніжку зладзіць, вершы паклалі на музыку, загучалі песні - роднае слова набыло для яго новае гучанне. Памятаецца, як упершыню слухаў сваю "Шыпшыну" ў выкананні мясцовага хору, падпяваў у шчаслівым тумане следам за спевакамі:

*Ой, шыпшына, шыпшына,*
*Чар любімай зямлі,*
*Да красы, да нявіннай*
*Ты мяне прытулі.*

Пачуцці перапаўнялі, хацелася, каб гэта доўжылася далей. Толькі жыццё - не песня. Да сямейна-бытавых нягод, якія ён хаваў ад усіх, звалілася бяда - хвароба дачкі. Аперацыя за мяжою каштавала немалых грошай, ён зрабіў амаль немагчымае. Таму цяпер прыходзіцца адрабляць.

Праляцела купка падлеткаў. Нешта гаварылі паміж сабою, глянуўшы на яго, засмяяліся і пабеглі далей. Не надта пакуль яны прыслухоўваюцца да гукаў матчынай мовы, не закрасавала пакуль ва ўсю моц насенне, пасеянае мінулымі пакаленнямі змагароў за беларушчыну. Неяк нядаўна выступаў ён на першаверасьнёўскай ўрачыстай лінейцы ў мясцовым ПТВ. Дзеці шумелі, гаманілі, хто слухаў на паўвуха, а хто і ўвогуле не слухаў, што прыкрасцю лягло на сэрца. Што ж, у іх сваё жыццё, свая дарога. А якім будзе той шлях, якая будучыня чакае іх? Хочацца спадзявацца, што будзе светлай, што чорная мінуўшчына згінула назаўжды. Галоўнае - каб яны, дзеці, адчулі сябе сапраўднымі беларусамі, не грэбавалі б сваёю мовою, ганарыліся б сваёю краінаю, каб зярняты, кінутыя ім і яго сябрамі, трапілі ва ўрадлівую глебу. Вось гэтага яму цяпер хочацца больш за ўсё. А ці складзецца так, як марыцца?

З-за цяжкіх свінцовых лістападаўскіх хмар праблiснула сонца. Ён глянуў на гадзіннік: час збірацца. Сёння зноў амаль нічога не ўгандляваў, але нічога не паробіш. Начынне прылаўка пацiху склалася ў пабіты часам і жыццём чорны скураны партфель. Кнігі на нейкі момант ён затрымаў у руках, пасля акуратна склаў і іх. Пстрыкнуў замок. Азірнуўшыся, ён выйшаў і пашыбаваў на выхад. Яшчэ хвіліна - і яго прыгорбленая самотная постаць знікла за агароджаю, растварыўшыся ў гарадскім тлуме.

## Плач ваўчыцы

…Яна вылезла з логава, асцярожна прынюхваючыся. Гэтую старую закінутую барсуковую нару вайдэра* прыкмеціла даўно. І таму, калі прыспеў той момант, каб шчаніцца, дапяла сюды, тут і апрасталася. Гэты вывадак быў толькі другім на яе мацярынскім лёсе - шасцёра здаровенькіх пісклявых ваўчанят. Яны, здаецца, готовы былі ссаць яе суткамі. Нават смочкі балелі, але ёй прыйшлося пакідаць іх адных не толькі па гэтай прычыне. Пошукі здабычы - справа няпростая, тым больш цяперашнім часам, калі ўпаляваць становіцца ўсё складаней. Дзеля бяспекі разам з басерам** яны некалькі разоў пераносілі малых. Першы раз пакінулі іх пад вялізным яловым вываратнем, праз нейкі час перахавалі шчанят пад разлапістае карэнне другой яліны. Пасля зноў вырашылі перанесці ў барсуковую нару. І вось учора, вярнуўшыся першай з не вельмі ўдалага палявання, учула: каля логава туляўся хтосьці з людзей. Людскі пах не зблытаеш ні з якім іншым. Гэта выклікала ў яе глыбокі неспакой і трывогу.

Непадалёк, за гэтым самым узгоркам, вайдэра прыкмеціла добрую глыбакаватую і змрочную яміну. Менавіта туды вырашыла перанесці прыплод. На некалькі дзён перахаваць малых у яміну, а пасля можна вярнуцца і ва ўтульную нару - калі ўсё будзе ціха. Тут ёй зручна, і шчанюкам добра і бяспечна. Яна не стала чакаць басера, які з яшчэ ночы выправіўся па здабычу. Трэба, прыплод ужо падрос, яны ўжо пачалі далучаць дзяцей да дарослай ежы. Шчаняты круціліся, спрабуючы дабрацца да смочкаў, але яна рашуча распіхала іх, аднаго схапіла ў зубы і панесла да яміны. Праз нейкі час малыя былі ўладкаваныя. Вайдэра, заспакоеная новаю хованкаю, вярнулася да старога логава, абнюхала яго, пазначыла, вярнулася да шчанят і прылегла. Тыя адразу ж узяліся смактаць, задаволена павіскваючы. Яна разумела: калі малыя будуць сытыя, то будуць спакайней ляжаць, а яна будзе менш перажываць за іх на паляванні. Малака бракавала, станавілася ўсё менш, і шчаняты высмакталі яе дазвання. Яна вылізала іх, спіхнула ў гурт, пасля пацягнулася, прынюхалася і, не адчуўшы небяспекі, выбралася наверх.

Не так даўно разднелася. На розныя галасы заліваліся і шчабяталі птушкі. Ад ляснога травянога покрыва і моху цягнула волкім, густа насычаным прэласцю, пахам. Дрэвы і кусты паспелі адшчыкнуцца клейкаю зялёнаю лістотаю, набрынялі пасля нядаўняга дажджу

---

* Вайдэра - воўчая маці (нар.)

** Басер - воўчы бацька (нар.)

вільгаццю. Аднекуль здалёк цягнула ледзь улоўным пахам дыму. Але гэты пах не выдаваў ані каліва хоць якой пагрозы. Заспакоеная, вайдэра патрусіла ў напрамку недалёкага беразняку - там спадзявалася ўпаляваць зайцоў. Тым больш, што ў хуткім часе можа вярнуцца і басер.

…Ён даўно нагледзеў гэтую нару. Куды падзеўся барсук - невядома, але ён зразумеў, што нара пуставаць не будзе. І не памыліўся. Бо вырас тут, у гэтай мясцовасці, змалку хадзіў сюды ў грыбы з дзедам, і ўрочышча гэтае добра ведаў. Увогуле яму падабалася блукаць па лесе, знаходзіць у старых мясцінах нешта новае, прыкмячаць сляды звяроў, іх адзнакі, адшукваць іхнія логавы і лежкі. Нябожчык-дзед паспеў навучыць яго сяму-таму: разблытваць звярыныя хітрасці, чытаць сляды, ведаць галасы лясных жыхароў, як і што знаходзіць у лесе. Ён падумваў пра тое, каб працаваць у лесе, але бацькі былі настроены па-іншаму. Яны выправілі ў горад вучыцца на інжынера, бо ў вёсцы, вядома ж, няма аніякай перспектывы. Ён не стаў пярэчыць, а дарма: у горадзе не прыжыўся. Там усё было чужое, непрыветнае і халоднае. Яму не хапала чыстага паветра, гукаў і пахаў лесу і, галоўнае - раздолля, прасторы, той самай, што песціла яго ўсё дзяцінства і юнацтва. Мабыць, таму і не склалася ў яго гарадское жыццё, сям'я, праца. Ён крыху яшчэ патуляўся па іншых мясцінах ды ўрэшце вярнуўся ў родную вёску. І пайшоў працаваць туды, куды і павінен бы ісці адразу, куды і цягнула - у лясніцтва. Толькі цяпер яму было пад трыццаць пяць, вучыцца, лічыў ён, запозна (дый, па шчырасці, не хацелася), таму на пасаду разлічваць не выпадала, а ён і не хацеў кабінетнай працы. Склеілася нейкая сям'я з разведзёнкаю, усё як у людзей - так лічылі бацькі. Але, галоўнае, што ён пры лесе. І на працы, любую вольную хвіліну праводзіў там.

Лес карміў яго сям'ю, у добрую часіну на ягадах яны прыстойна зараблялі. Яшчэ і сушаныя грыбы добра ішлі, іншым разам адшукваў і збываў ласіныя рогі. Таму і жонка ніколі не дакарала за частыя і працяглыя лясныя вандроўкі. Сюды ж ён наведаўся зноў-такі з-за чыста прагматычных меркаванняў. Яшчэ некалькі месяцаў таму патэлефанаваў даўні сябар і сказаў, што ў Расіі ў яго ёсць знаёмы бізнэсмен, які жадае завесці сабе ваўкоў на загарадным катэджы. І сябар, ведаючы яго здольнасці, прапанаваў адшукаць малых ваўчанят - нават сам меў намер прыехаць па іх - тым самым зарабіць сабе капейчыну. Ён доўга не вагаўся, бо сёё-тое на прыкмеце ў яго было. Пра ваўчыную зграю, што атабарылася ў наваколлі, ён ведаў яшчэ з восені. І гэтую пару, што вывела прыплод, таксама прыкмеціў яшчэ раней. Якія б ні былі

разумныя і хітрыя ваўкі, ім яго не ашукаць. Ён ведаў, што яны ўжо некалькі разоў перахоўвалі малых, нават бачыў тыя хованкі. Шчаняты падраслі, пераходзяць на прыкорм, акурат цяпер іх можна ўзяць. Браць вырашыў увесь вывадак, тады будзе нейкі заробак. Галоўнае - не нарвацца на абодвух ваўкоў. Хоць наўрад ці яны накінуцца, хіба толькі ў безвыходным становішчы, але засцерагчыся ніколі не залішне. Ваўкі верагодней могуць паахвяраваць прыплодам, чым сабою: на наступны год выведуць яшчэ. Ён меў пры сабе і паляўнічы карабін, і добры нож у похвах, але дзікі звер ёсць дзікі звер. З адным яшчэ справішся, а з двума можа і не пашэнціць. Таму да логава вырашыў ісці на самым досвітку, тады амаль стоадсоткава басер будзе на паляванні. А вайдэру, калі раптам што, утаймуе.

Краем мінуў поле з азімінаю, прайшоў асіннікам, перасёк вузенькую ручаіну і выбраўся на пушчанскую ўскраіну. Тут адчувалася дзікая неруш прыроды. Паўсюль векавечныя дзеравіны, месцамі зарослыя старыя бураломы, густы травастой. Староннi чалавек ў такіх мясцінах лёгка можа разгубіцца і згубіцца. Таму ў гэты бок мала хто хадзіў. Ён глянуў на гадзіннік, паправіў карабін на плячы і таропка пакрочыў у зараснікі арэшніку. Часу ў яго не так і шмат.

…Ён няспешна трусіў уздоўж поля - падцягнуты, спрытны, асцярожны, малады і поўны сіл басер. Паводзіў сябе спакойна і ўпэўнена. Тут ён меў спадзеў упаляваць казу ці казулю, пасля зімы тыя нярэдка ўзбіваюцца на поле, засеянае азімінаю. Так, як было гэта з тыдзень таму, калі пашанцавала ўпаляваць невялікую казулю. Хоць схуднелая была тая пасля галоднай зімы і зацяжной халоднай вясны, але ж здабыча неблагая. Якраз на світанні яны могуць тут вытыркнуцца з лесу. І басер хацеў заняць зручную мясцінку з падветранага боку. Ён добра ведаў палахлівы нораў коз, якія кідаюцца ўпрочкі ледзь не ад кожнага парыву ветру. Таму і прыйдзецца хітраваць, прыхавацца гэтак, каб тыя пасля падпусцілі яго як мага бліжэй.

Басер стаіўся, чуйна ўслухоўваючыся ў лёгкі пошум вясновага лесу. Усё звыклае і будзённае. Яны няблага перазімавалі. Не сказаць, каб заўсёды былі наетыя, але ж не было такога, каб прыліпалі жываты да хрыбта ад голаду. Дый людзі гэтаю зімою іх асабліва не турбавалі, што заспакойвала. Вайдэра ўдала ашчанілася, усе малыя, як на падбор, здаровыя і жвавыя. Таму ёсць неблагі шанец захаваць і падгадаваць ці не ўвесь прыплод. Ён добра памятаў свой першы год жыцця. Іх у вывадку было дзевяць. Але першым разам маці няўдала схавала шчанят пад вываратнем, пакінула на нейкі час, і дзік, які натрапіў на іх, парваў ікламі траіх, астатнія са страху паспелі зашыцца глыбей і

тым самым ўратавацца. Пасля ад нейкай хваробы скалела яшчэ трое. І ўжо пазней, калі яны добра падраслі, сястра неабачліва прапарола сабе недзе нагу і загінула ад гнойнай раны. Так і выйшла, што з усяго вывадку засталося толькі двое.

У цёмных абрысах гонкага маладога беразняку ён заўважыў ледзь улоўны рух. Басер навастрыў вушы, падаўся крыху наперад. Пацягнула адметным казіным пахам. Ён прыціснуўся да зямлі, асцярожна пасунуўся некалькі метраў і падрыхтаваўся да кідку.

…Яны валтузіліся ў яміне, бесклапотна куляліся і дурэлі, злёгку пакусваючы адзін аднаго. Сонца не так даўно пазалаціла зазелянелыя верхавіны, і яго касыя промні ледзь-ледзь дакраналіся цёмнай яміны. Шчаняты пакуль не паспелі прагаладацца, таму гуляліся і задаволена павісквалі ў чаканні бацькоў. Маці сыйшла нядаўна, здавалася, што нават яе ласкавы цёплы малочны пах яшчэ вісіць у паветры. Адзін з іх, самы дужэйшы, расштурхаў астатніх і паспрабаваў вылезці са схованкі, але, выбраўшыся амаль наверх, скаціўся па крутым схіле назад у яміну. Яны яшчэ не бачылі нічога і нікога ў гэтым свеце, акрамя бацькоў, логава і гэтагу лесу з яго такімі роднымі і блізкімі пахамі і гукамі. І калі нейкі незнаёмы чужы цень навіс над імі, малыя насцярожана сціхлі. А дзіўны двухногі чужынец спусціўся да іх, паклаў на зямлю вялікі шэры мех, спрытна пахапаў ваўчанят і пакідаў туды. Напалоханыя шчаняты завішчалі, жаласліва заскуголілі, шукаючы выйсця, а выратаванне не прыходзіла. Тады са страху яны прыціснуліся адзін да аднаго і збіліся ў клубок. Чужынец нёс іх у невядомасць.

…Яна цягнулася незадаволеная сабою. З паляваннем зноў не вельмі пашчасціла - толькі адзін заяц. Але бавіцца не выпадала, яна не хацела надоўга пакідаць малых адных, таму і не стала шукаць якую іншую здабычу. Надзея была толькі на басера, ён у сіле, амаль заўсёды ўдала палюе і забяспечвае іх мясам. Яе ж тачыла нейкая незразумелая трывога.Тое, што хтосьці хадзіў каля логава, выклікала зразумелы неспакой, але трывога палягала ў іншым. Яна і сама не ведала, што гэта, але пакінула надзею здабыць яшчэ што-кольвечы і вырашыла вярнуцца да малых.

Людскі пах адчула здалёк, на падыходзе. Устрывожаная, вайдэра зрабіла некалькі кругоў вакол хованкі, каб не патрапіць часам на чалавека, але зразумела, што яго тут ужо няма. Тады яна кінулася да шчанят. У яміне іх не было, аніводнага. Разгубленая, вайдэра збегла ўніз, абнюхала лежку, закруцілася на месцы, пасля выскачыла наверх,

зноў забегала. Вывадак знік. Яна кідалася ў адзін бок, у другі, хоць і разумела, што нікога ўжо не знойдзе. Заставаўся толькі адзін выразны след, які пах тым самым чужынцам і вёў некуды ў лес.

Забеганая вайдэра стомлена прысела. Бяда прыйшла нечакана, а што рабіць з гэтаю бядою, яна не ведала. Што ёй рабіць без дзяцей, як жыць далей, як зжыцца з думкаю, што гэтых маленькіх, калматых, вісклівых клубочкаў ужо не будзе? Здаецца, нават смочкі набухлі малаком ад такіх страшных думак. Безвыходнасць невыносным цяжарам, як абцугамі, сціснула яе за шыю, жудаснае выццё само прарвалася наверх. Яна задрала галаву, завыла ва ўсю моц, нібыта толькі так, толькі гэтым магла вярнуць свой вывадак. Выццё, ад якога ўздрыганулі пераляканыя зайцы, навастрылі вушы ласі і казулі, устрывожана рохнулі дзікі, панеслася па лесе. Выццё часам як бы заціхала, захлёбвалася, пераходзіла ў нейкі плач, пасля зноў узнімалася, развярэджвала дзікім жывёльным гучаннем сонныя пушчанскія нетры. Вайдэра аплаквала сваю горкую мацярынскую долю.

…Ён адцягнуў важкую здабычу ў глыбіню лесу, і толькі пасля ўзяўся за казу. Патрэбна, як мага шчыльней набіць трыбух каб было што адрыгнуць малым. Наеўшыся, басер адгрыз ад казы заднюю нагу з кумпяком - гэта для вайдэры. Ён агледзеў мясціну, адцягнуў астатняе пад куст арэшніку, разгроб старое перапрэлае лісце і крыху папрацаваў кіпцюрамі. У тую неглыбокую яміну прыхаваў здабычу пра запас, ссунуў наверх лістоту. Задаволены і сыты, схапіў кумпяк і патрусіў да логава.

Яшчэ здалёк пачуў страшнае выццё вайдэры. Басер здрыгануўся: ён зразумеў - адбылося штосьці непапраўнае. Не зважаючы на перашкоды, ірвануўся наперад. Вайдэра, як толькі заўважыла яго, падхапілася, кінулася да людскога следу. Але цяпер і для яго ўсё стала зразумелым. Адчай сціснуў глотку - басер злосна і працягла загырчаў. Толькі чалавека ўжо не дагнаць, адабраць малых немагчыма. Застаецца толькі адно: перажыць цяжкую страту і, па магчымасці, адпомсціць ненавісным двухногім. Вайдэра ж забегала вакол яго, заглядаючы ў вочы. Яна імкнулася кінуцца па следу, паспрабаваць адваяваць шчанят у чужынца, клікала басера за сабою. Ён злосна гыркнуў на яе, адгаворваючы, але вайдэра не супакойвалася. Жаласліва заскавытаўшы, яна ўзяла след і знікла за пагоркам. Басер нерухомай постаццю застыў на зялёным імшаніку.

…Ён ішоў паглыбіўшыся ў свае думкі. У лесе заўсёды добра думаецца - тут ніхто не замінае, неназаляе, на душы спакойна, думкі

плывуць павольна, нетаропка, як па чарзе, не блытаюцца. Мех важка адцягваў плячо. Ваўчаняты супакоіліся, паводзяць сябе ціха. Ён добра ўсё пралічыў, заспеў іх адных. Тую новую схованку, у якую вайдэра перанесла вывадак, ён знайшоў даволі лёгка - усё ж не навічок у лесе. Цяпер заставалася дайсці дадому, патэлефанаваць сябру - той яшчэ ўчора папярэджаны - і выехаць на сустрэчу. Больш паловы дарогі ён ужо мінуў, хутка пакажацца поле, а там да вёскі лічаных два кіламетры. Здаецца, не так хутка ідзе, а спіна ўпрэла. Ён перакінуў мех на правае плячо і застыў: здалёк данеслася жудаснае і працяглае ваўчынае выццё. Так, хутчэй за ўсё гэта вайдэра, якая вярнулася да пустой хованкі. Што ж, нічога не паробіш, сёння ёй не пашанцавала. На нейкае імгненне ён задумаўся, стоячы на месцы, пасля ўздыхнуў і рушыў далей.

Дзеці былі ў школе, жонка на працы, і яму ніхто не назаляў непатрэбнымі пытаннямі. Ён занёс мех у дрывотню, паклаў яго ў металічную бочку. Пасля патэлефанаваў сябру, памыўся, пераапрануўся і паснедаў. Вось цяпер ён гатовы ехаць. Як толькі ён падняў мех, ваўчаняты завалтузіліся, жаласліва заскуголілі. Нават неяк шкада іх, малыя, амаль нічога яшчэ не разумеюць. Хоць яно, зрэшты, да лепшага - чым раней адабраць, тым хутчэй звыкнуцца з новым жыццём. Легкавічок мякка выкаціўся са двара, выехаў на пустую вясковую вуліцу і шпарка панёсся па гравейцы.

Ён збавіў хуткасць. Добрай дарогі ўсяго нічога, бо вёска акружаная лясамі і да заасфальтаванай шашы патрэбна яшчэ мінуць кавалак няўдобіцы. Колькі ні скардзіліся жыхары, а гэты ўчастак дарогі, што ідзе праз лес, так і не зрабілі больш-менш прыстойна. Пройдзе грэйдар - як бы нічога, а праз нейкі час зноў такія няроўнасці, што зубы ляскаюць. Ён задумаўся: а мо і мае рацыю жонка, што насядае на яго, каб перабрацца ў мястэчка? Там і школа на месцы, і дабірацца ўсюды зручна, дзецям ёсць з кім сябраваць. Толькі не хочацца яму да людзей, лес для яго - як родныя маці і бацька. Штосьці мільганула наперадзе. Ён нават не паспеў нічога ўсвядоміць, як нага сама націснула на тормаз. На дарозе, перад машынаю, сядзела вайдэра. А тое, што гэта была яна, ён не сумняваўся.

…Яна імчалася па следу. Пах яшчэ свежы, яго не згубіш. Што б ні было, але яна не кіне дзяцей. Хай сабе басер застаецца, а яна, калі спатрэбіцца, накінецца на гэтага чалавека і паспрабуе адабраць малых. Ад адной думкі пра дзяцей яна паскарала бег. Дзе яны, што з імі?

След вывеў к полю, затым, праз лагчыну - у бок вёскі. Тут яна

спынілася. Нешта стрымлівала яе, чужыя пахі і пужалі, і абнадзейвалі адначасова. Рашучасць на нейкі момант пакінула вайдэру. І ўсё ж вярнуцца назад яна не магла. Усё яе тулава трымцела ад нецярпення і хвалявання, з глоткі вырываўся брэх, з хрыпам і паскугольваннем. Наструнены, яна рыхтавалася да рашучага кідка туды, куды чужынец панёс яе дзетак. У гэты момант з вёскі выехала нешта страшнае, смярдзючае і траскучае, ад аднаго выгляду якога хацелася схавацца ў лесе. І ў той жа момант ветрам адтуль тхнула знаёмым пахам. Той, такі хвалюючы, такі родны і блізкі пах - пах яе дзетак. Вайдэра нейкі час, нібы ў роздуме, сачыла позіркам за машынаю, а затым кінулася напярэймы ў гушчар. Цяпер ужо нішто не магло яе стрымаць. Як вецер, хутка, лёгка і спрытна яна праляцела кавалак ляснога абшару, пратараніла прыдарожны ядлавец і выскачыла на дарогу.

…Яны застылі ў маўчанні, утаропіўшыся адзін у аднаго. Ваўчыца, вайдэра, маці і малады хударлявы русявы мужчына, вясковец. Ён заглушыў рухавік. Карабіна ён з сабою, канешне, не браў. Не разлічваў на такую сустрэчу. Але ці стаў бы страляць? Дый па вялікім рахунку нішто не замінае яму паехаць, скіраваць на яе. Проста праехаць некалькі метраў - і ўсё. Вайдэра не рухалася, яна сядзела і глядзела на яго. Што было ў яе позірку, пра што яна думае ў гэтае імгненне? Ён сядзеў, сціснуўшы рукамі стырно. Дзед расказваў яму пра ваўкоў, пра іхнюю помсту. Некалі, яшчэ да вайны, ляснічы гэтак жа, як і ён сёння, забраў з логава малых ваўчанят і аднёс да пана. Той заплаціў яму колькі злотых. А ўжо назаўтра сярод белага дня, на пашы, воўчая зграя выразала галоў з дзесяць авечак, а ноччу ваўкі прыдушылі яшчэ нейкую колькасць жывёлы ў хлявах вяскоўцаў. Так, цяпер часы іншыя, ваўкі ў вёску наўрад ці палезуць, а худоба каля лесу не пасецца. Толькі ці ў гэтым справа? Яму раптам успомнілася бабуля, яе зморшчаны, як печаны яблык, твар. У вайну немцы забралі на прымусовыя работы двух яе дзяцей, дачку і сына. Ягонаму бацьку было тады чатыры гады. Што зрабілася там з падлеткамі - невядома, але з Германіі яны не вярнуліся, згінулі на чужыне. Так у бацькі не стала брата і сястры, а ў яго дзядзькі і цёткі. І бабуля заўсёды, калі ўспамінала іх, плакала, шкадавала, што яны склалі свае галовы, а яна жыве. Калі ён быў малы, нярэдка садзіла яго на калені і расказвала пра сваіх дзетак, нязменна дакараючы сябе, што дазволіла немцам іх забраць.

Некалькі імгненняў ён вагаўся. Пасля выцягнуў з кішэні тэлефон.

- Слухай, прабач. Я не змагу выканаць тваю просьбу. Перадай

таму чалавеку, што ў мяне не атрымалася. Хай пашукае ў іншым месцы.

- Чаму? Ты што гэта? Што здарылася?

- Так выйшла. Магчыма, некалі потым патлумачу. Прабач. Пакуль.

Ён выбраўся з машыны, падышоў да багажніка, адчыніў яго, выцягнуў мех і панёс наперад. Спыніўся на ўзбоччы за некалькі кроках ад вайдэры, якая ўважліва сачыла за яго рухамі. Развязаў мех і асцярожна вызваліў ваўчанят. Шчаняты, разгубленыя і напалоханыя, гучна скуголілі, круціліся на месцы ў розныя бакі і тыцкаліся носам у траву. Ён адышоўся да машыны. Вайдэра паднялася, не зводзячы з яго наструненага погляду, павольна рушыла да малых. Калі яна наблізілася, шчаняты заскуголілі яшчэ гучней. Не зважаючы на гэта, вайдэра стала пысаю падпіхваць іх у кусты, аднаго за другім. У гэты момант ён інстынктыўна адчуў нейкі рух за спіною. Павярнуўшыся, убачыў з другога боку дарогі ваўка. Басер стаяў метраў за трыццаць ад іх, нерухома, угнуўшы галаў, сачыў за вайдэраю.

Праз некалькі хвілін усё аціхла. Вайдэра з ваўчанятамі і басер зніклі ў лесе. Лёгкі ветрык кудлачыў зазелянелыя верхавіны старадрэвін, а сонца, што ўзнялося над лесам, разлівала млявае цяпло на дарогу. Ён пастаяў яшчэ некалькі хвілін, як бы пра нешта думаў. Пасля ўсміхнуўся сам сабе, сеў у машыну, развярнуўся і паехаў у бок вёскі. Дарога зноў апусцела. Толькі на ўзбоччы, на пяску, застаўся выразны адбітак воўчай лапы.



## *Наталля Кузьміч*

*Кузьміч Наталля Васільеўна нарадзілася ў 1975 г. у п. Воранава. Выпускніца СШ № 6 г. Наваградка. Закончыла філалагічны факультэт БДУ. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт. З 2003 г. - дацэнт кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі факультэта журналістыкі БДУ.*

*Працавала на беларускім тэлебачанні, у часопісе "Першацвет", газеце "Переходный возраст".*

*Друкавалася ў часопісах "Роднае слова", "Полымя", "Маладосць", у тыднёвіку "ЛіМ". Аўтар больш за 100 публікацый у навуковых выданнях Беларусі, далёкага і блізкага замежжа (Аўстрыя, Германія, Грузія, Казахстан, Расія, Украіна, Чэхія).*

### ДАРОГА І ПАМЯЦЬ
### (Вячаслаў Адамчык)

Усё сваё творчае жыццё Вячаслаў Адамчык (1933 - 2001) у мастацкім слове ствараў вялікае эпічнае палатно пра малую радзіму - вёску Варакомшчына, што на Наваградчыне, дзе нарадзіўся і вырас, пра дарагіх і блізкіх яму землякоў. З іх вобразаў, жывых і паўнакроўных, выснавана яго мастацка-эстэтычная канцэпцыя чалавека, прасякнутая гуманістычнымі традыцыямі айчыннай літаратуры; яны, землякі, - адпраўны і канцавы пункт творчых інтэнцый пісьменніка.

Туды, дзе на сцежках, парослых сціплай кветкай расходніку, засталіся сляды цяжкага, шчымліва-трывожнага і ў той жа час у нечым радаснага ваеннага і пасляваеннага дзяцінства і юнацтва, дзе не гасла святло ў вокнах бацькоўскай хаты, ён імкнуўся заўсёды. Прычым не проста госцем, а для таго, каб яшчэ і яшчэ раз паглядзець у празрыстыя

крыніцы сялянскага жыцця, адчуць яго асалоду і горыч, атрымаць стымул для натхнення. Як можна заўважыць, пісьменнік, не баючыся абвінавачвання крытыкаў у творчай аднастайнасці, у большасці сваіх апавяданняў умельствам мастака слова ткаў сюжэтную ніць: ён едзе са сталіцы, у якой асталяваўся з часу паступлення на вучобу на аддзяленне журналістыкі БДУ (1952), у свой родны кут, дзе бацькі і неацэнная духоўная спадчына, пакінутая многімі пакаленнямі землякоў. Вабіць і кліча яго магутны голас памяці, у якой адбіўся ў бедах і надзеях, клопатах і радасцях лёс народа з яго змаганнем за чалавечую годнасць і праўду.

Зусім невыпадковым падаецца тое, што ў многіх творах, найперш гэта выразна выяўляецца ў апавяданнях, матыў дарогі і памяці - ключавы па сваёй філасофска-эстэтычнай ролі. Яны часцей за ўсё непадзельныя, як бы вядуць і абумоўліваюць адзін аднаго мастацкай задачай; гэта субстанцыя, з яе вынікае ўсё астатняе: і шырыня і глыбіня ўспрымання падзей, і сістэма выяўленча-эстэтычных сродкаў, і стылявы ўзор. Як уяўляецца, у гэтым звязку характэрным выдае апавяданне "Дзікі голуб" (1968), якое адносіцца да перыяду, калі талент Вячаслава Адамчыка імкліва сталеў. Пісьменнік паспеў ужо разгарнуць яго. Ішоў інтэнсіўны пошук уласных ідэй, якія пашыралі эпічны размах і паглыблялі канкрэтна-гістарычны і сацыяльны змест твораў, і іх мастацка-эстэтычнае асэнсаванне і ўвасабленне. У пэўнай меры гэты твор - знакавы. У ім мастацкая функцыя дарогі і памяці не толькі нясе на сабе сюжэтна-кампазіцыйную канструкцыю. Яна наогул утварае і вызначае ўсю паэтыку, фармуе часавы і прасторавы аб'ём дзеяння, заключае ў сабе яго вузлы, павароты і развязкі. У аўтара ў яго творчасці да таго часу ўжо акрэслілася вядучая тэма; сарцавіна яе - гэта жыццё і лёс простага чалавека, якога ведаў, як кажуць, наскрозь, ва ўсёй складанасці і супярэчлівасці характару. Ужо азначыўся цвёрды філасофска-эстэтычны грунт; ён трымаўся на трывалай моцы формулы, што ўсё прыгожае ў жыцці - у чалавеку, які побач з табой. Ва ўсёй відавочнасці выявіўся эпічны склад мыслення, імкненне да шматмернага раскрыцця свайго героя.

Да месца тут узгадаць, што яшчэ напачатку, калі намацвалася свая дарога ў літаратуру, Вячаслаў Адамчык у пэўнай меры праявіў творчую смеласць, калі ўлічваць рэаліі таго часу, прынятыя называць "адлігай", у апавяданні "Свой чалавек" (1957) ён выводзіць вобраз Язэпа, сумленнага і працавітага вяскоўца, які, аднак, не хоча ў калгас. А вось Марцін, што з ахвотай уступіў у яго, злодзей, які цягне і людское, і грамадскае. Тым не менш для ўлады ён - свой чалавек. Тут пісьменнік міжволі, хутчэй за ўсё ў падтэксце, зачапіў ідэалагічны

дагмат, які ўбіваўся ў грамадскую свядомасць са сталінскай эпохі: аднаасобнік, што не жадае ў калектыўную гаспадарку, - гэта кепскі чалавек, ён не можа быць носьбітам станоўчых якасцей. Таму да яго і адпаведнае стаўленне, г.зн. трэба прыцiскаць і абмяжоўваць як варожы элемент. Такая ўстаноўка, навязаная літаратуры, у тым ліку аб калектывізацыі, вяла да сацыялагізатарства, звужала і збядняла сацыяльны вопыт селяніна, асабліва ў Заходняй Беларусі, дзе існавала моцная традыцыя гаспадара-аднаасобніка, да прымітыўнай схемы. А з апавядання "Свой чалавек", дзе мастацкая логіка непазбежна вядзе да супастаўлення двух канкрэтных вобразаў, вынікае зусім іншае: жывая рэальнасць не супадае з ідэалагічнай нормай, усталяванай уладай. Відавочна, што аўтар, узгадаваны на лепшых узорах сялянскай маралі, дзе галоўныя прынцыпы - гэта сумленнасць і працавітасць, не мог пайсці насуперак сваім перакананням, і ён схіляецца да адзіна правільнай лініі - жыццёвай праўды.

Такая лінія, што супярэчыла ідэалагічным пастулатам, у прыватнасці скажонай сацыяльна-грамадскай ацэнцы чалавека, яшчэ больш заўважна прасочваецца ў апавяданні "На крыжавых дарогах" (1960). Тут праўдзіва рэалістычна малюецца лёс Алеся Макарчыка, у мінулым парабка, падпольшчыка і народнага мсціўцы. Ён, калі вярнуўся з партызанаў, пачаў заўзята ладзіць асабістую гаспадарку, бо хацеў прыстойна жыць са сваёй працы на сваёй зямлі; ён не ірваўся ісці ў калгас, дзе ўраўнілаўка абясцэньвала старанні канкрэтнага чалавека, дзе ён практычна безабаронны і бяспраўны.

Побач з Алесем даецца вобраз кіраўніка мясцовай савецкай улады Рыгора Падліпскага. Яны разам працавалі парабкамі і грузчыкамі на чыгуначнай станцыі, былі падпольшчыкамі і ваявалі ў партызанскім атрадзе. Але, калі вярнуліся з лесу, іх дарогі рэзка разышліся. Рыгор актыўна праводзіць усе мерапрыемствы савецкай улады, у тым ліку па калектывізацыі. Тут і сутыкаюцца Алесь і Рыгор на розных жыццёвых пазіцыях. Алесь, сілай гнаны ў калгас, страляе ў знак помсты ў Рыгора, калі той праводзіў у сялянскай хаце чарговую сходку…

Без сумнення, за канфліктам паміж Рыгорам і Алесем стаяць глыбокія сацыяльныя супярэчнасці тагачаснай заходнебеларускай вёскі. Для яго псіхалагічнай дакладнасці, дзеля большай мастацкай пераканаўчасці аўтар знаходзіць удалую форму. Ён звяртаецца да рэтраспекцыі: аповед вядзецца ад Рыгора, які ў дарозе на станцыю Ельня разам з аўтарам успамінае перыяд калектывізацыі ў вёсцы. Гэта дае магчымасць узмацніць давер да дзеянняў і ўчынкаў герояў, да жыццёвага матэрыялу, пакладзенага ў аснову твора. Ён падаецца праз успрыманне Рыгора, і гэта асабістае, прапушчанае праз сэрца, у якім

засталіся вострыя боль і сумненні, кранае непасрэднасцю і шчырасцю, абумоўлівае эмацыянальна-псіхалагічную танальнасць усёй паэтыкі. Адчуваецца, што Рыгор, пераасэнсоўваючы трагедыю, што здарылася ў адносінах паміж ім і Алесем, усё-такі ўсведамляе сваю віну перад былым сябрам. Паступова прыходзіць разуменне, што ў Алеся - свае інтарэсы, на якія ён мае права, дадзенае прыродай.

За гэтымі пераменамі ў настроях і псіхалогіі Рыгора бачыцца значны крок наперад Вячаслава Адамчыка ў спасціжэнні сацыяльна-духоўнай сутнасці праблем, у па-мастацку праўдзівым іх адлюстраванні, калі не згладжваюцца супярэчнасці і канфлікты дзеля ідэалагічнай правільнасці. Прыкметна, што пісьменнік упэўнена авалодвае майстэрствам ладзіць сюжэтна-кампазіцыйную канструкцыю твораў. У апавяданні "На крыжавых дарогах" у адзінстве выяўляецца матыў дарогі і памяці. Той матыў, які стане скразной мастацка-эстэтычнай дамінантай у творчасці пісьменніка, пакуль у апошніх творах "малога" жанру, што адносяцца да 90-х гадоў мінулага стагоддзя, не сягне да вышыні своеасаблівага сімвала.

Такім чынам набыты вопыт дадаваў прафесійнага зроку. У выніку абвастралася бачанне і разуменне духоўных і сацыяльна-побытавых праяў. Гэта дапамагала лепей спазнаваць усю складанасць і неадназначнасць чалавечых узаемаадносін, іх уплыў на лёс канкрэтных людзей. Зыходзячы з гэтай матывацыі, можна цвёрда гаварыць аб тым, што апавяданне "Дзікі голуб" у многім, як ужо зазначалася, знакавае: ім завяршаецца перыяд творчага станаўлення; пісьменнік ужо здольны да спасціжэнння глыбінь чалавечых характараў у кантэксце ўласнай канцэпцыі чалавека, якая паступова набыла стройнасць і філасофска-эстэтычнае вымярэнне; атрымала ўстойлівасць у сваім развіцці паэтыка як цэласнасць сюжэтна-кампазіцыйнай структуры з яе выяўленча-эстэтычнымі сродкамі. У апавяданні "Дзікі голуб" галоўны герой Марцін Дзікуць у пэўным сэнсе ўжо вядомы нам і ў той жа час новы ў сваім маральна-этычным абліччы. Яго галоўныя рысы, як шчырасць і дабрыня, мы знаходзім і ў вобразах, выведзеных у апавяданнях ранейшага перыяду. Разам з гэтым у ім ужываецца нейкая невытлумачальная нядбаласць у дачыненні да самога сябе. А тут ужо ўзнікаюць праблемы, якія ўскладняюць адносіны з некаторымі суседзямі, напрыклад, з Клемусам Войнам, чалавекам сквапным і зайздросным, для якога не існуюць маральныя нормы. Галоўны клопат у яго, які выцясняе ўсё людскае, - каб было поўнае гумно.

Няпроста Марціну ў гэтакіх варунках. Нягаспадарлівасць вымушае яго часам залезці ў чужое. Неяк восеньскім глухім вечарам, калі ўбіралі ўжо бульбу, ішоў ён мяжою каля палетка Клемуса Войны.

Магчыма, меў намер з які кошык падкапаць сабе. Тут і разыгралася трагедыя: Клемус, западозрыўшы суседа ў крадзяжы, нанёс яму смяротныя ўдары па галаве жалезным прэнтам. Пазней Марцін, падабраны маці аўтара-апавядальніка на полі, калі ўжо вёску спавіў начны змрок, дома сканаў, сцякаючы крывёю. Без бацькі засталіся малалетнія дзяўчынка і хлопчык…

Пісьменнік не выяўляе адкрыта сваёй пазіцыі. Ён малюе вобраз Марціна з усімі стрэмкамі, якія надаюць яму дзіўнаватасць. Але ж мы не можам не стаць на яго бок, калі выходжвае параненага голуба, каб выпусціць у блакіт неба, калі кліча хлопчыка, якога заспела бура ў адкрытым полі, у сваю хату, каб сагрэўся і перачакаў, калі, бясшкрыўдны і ціхі, ён ідзе палявой сцежкай з трыма сваімі сабакамі. Праз наслаенне кепства, якое, несумненна, эстэтычна прыніжае вобраз Марціна Дзікуця, мы абавязкова непрадузята разгледзім светлую душу, якая турбуецца за ўсё жывое; у ёй заўсёды, асабліва ў складаныя моманты, прачынаецца дабрыня да чужога чалавека, які побач; ён гатовы дапамагчы ўсім, чым можа. Адной меркай тут не ацаніць, бо няма ў жыцці такіх супярэчлівых людзей, як Марцін Дзікуць, рэзкай мяжы ў фарбах і адценнях.

У апавяданні "Дзікі голуб" матыў дарогі і памяці цэласны. Іх ужо нельга раз'яднаць: абваліцца ўся мастацкая структура. Сюжэтная ніць, як і ў ранейшых апавяданнях, простая: аўтар едзе да бацькоў. На вакзале і ў аўтобусе сутыкаецца з землякамі, якія сваімі паводзінамі і знешнімі адметнасцямі выклікалі згадкі пра мінулае, калі былі яшчэ не калгасы, а аднаасобныя гаспадаркі. Быццам з-за далёкай смугі гадоў выплылі вобразы вяскоўцаў, знаёмыя з дзяцінства.

Аналагічнае па спосабу перадачы зместу - праз успаміны, якія ўзнікаюць у дарозе, і па маральна-этычнай пазіцыі аўтара, які дзеля аб'ектыўнасці нібы толькі збоку занатоўвае падзеі, апавяданне "Кароль Нябожа" (1968). Яго галоўны герой дажджлівым ранкам на фурманцы едзе ў мястэчка, дзе працуе на базе "Утыльсыравіна". Тут уладкаваўся пасля таго, як не заладзілася ў калгасе, дзе яго без якой-небудзь падставы абвінавацілі ў тым, што недагледзеў маладога жарэбчыка, а нібыта з-за таго той і здох. У дарозе Кароль Нябожа, падварушваючы каня, у думках перабірае сваё жыццё - успамінае розныя эпізоды. Нават узгадаў, што некалі не аддаў тры рублі даўняму знаёмаму Бортніку, які на згоне зімы раптоўна памёр. Хацеў тут жа сплаціць доўг яго дачцэ, якая хворай пасля вайны вярнулася з Нямеччыны, нават захіліў каня на яе падворак, але тая не ўзяла…

У іншых размовах і сустрэчах, часцей выпадковых і на першы погляд нязначных: з былым брыгадзірам калгасным Восіпам, што

абвінавацiў яго ў смерцi жарабка, з жонкай загадчыка базы Красуцкага, якая дапамагла прыняць у гумно сабраныя ў людзей анучы, у сталоўцы і магазіне, дзе не ўдалося паабедаць і зрабіць пакупку; праз успаміны пра бежанку Ганну з-пад Варонежа, якую адразу пасля вайны не кінуў у бядзе, а дапамог на чыгуначнай станцыі прадуктамі, з-за чаго ў іх паміж сабой узніклі часовыя блізкія адносіны, - адкрываецца шчырая і светлая душа Караля Нябожы. Шмат у яго было бед, якія разварушылі памяць у дарозе, у тым ліку не склалася з жонкай, якая памерла ў Польшчы. Некалі ўзяў яе, нашмат гадоў старэйшую за сябе, бо пагнаўся за кавалкам зямлі.

У дарозе, ацэньваючы сваё жыццё на шалях сумлення, ціха і мірна закончыў свой апошні зямны дзень Кароль Нябожа. Яна, гэта дарога, сталася яму споведдзю, як ачышчэнне перад сабой і людзьмі, перад якімі не меў ніякай віны. Нават хацеў вярнуць тры рублі…

У апавяданні рэтраспекцыі, афарбаваныя пачуццямі і эмоцыямі, знітаваныя аўтарскім светабачаннем, якое мае ацэначны змест; яны, звароты ў мінулае, - гэта аснова паэтыкі твора. У ім сюжэтныя вузлы і кампазіцыйныя элементы звязваюцца асобай аўтара, у якога задача - лепш высвеціць адметнасці ў вобразе героя, яго ўнутраны свет, сатканы з дабрыні і прыкрых супярэчнасцей, якія, аднак, не прыніжаюць яго эстэтычнай вартасці.

У кожным канкрэтным апавяданні свая мастацка-эстэтычная функцыя дарогі і памяці, і гэта кладзе вызначальны адбітак на паэтыку, стварае яе адметнасць, якая заключаецца ў змястоўна-сэнсавым значэнні матываў. Іх дыяпазон, звязаны з лёсам герояў, разнастайны і багаты, як і само жыццё, - ад споведзі да трагедыі. Зазначым, што ўсе героі як у звычайных побытавых варунках, так і ў самыя драматычныя моманты, нібы ў люстэрка, углядаюцца ў сваё сумленне: ці правільна было зроблена.

У апавяданні "За перагародкай" (1960) Андрэй Сідорчык, карэспандэнт, падчас камандзіроўкі ў дарозе сутыкаецца з дзяўчынай. Аказваецца, гэта дачка старшыні мясцовага калгаса, у які ён едзе. Яна хоча больш блізкага знаёмства, і высвятляецца, што ў гэтым шукае сваю выгаду, каб з'ехаць з вёскі, дзе не хоча працаваць супраць волі бацькі. Тут матыў эгаізму вызначальны: ён адпаведным чынам прадыктаваў сюжэтна-кампазіцыйныя павароты і выбар выяўленча-эстэтычных сродкаў.

Герой апавядання "Міг бліскавіцы" (1962) Анатоль Лазаковіч прыехаў у мястэчка, каб сабраць матэрыял для дысертацыі. Нечакана на хрэсьбінах у сябра, які тут жыве, спатыкае чужую жанчыну. Яе бачыць першы раз. Побач з ёю муж, тоўсты і грубы чалавек. Ана-

толь закахаўся адразу. Ён разумее, што не кіне жонку і дзіця, якія засталіся ў сталіцы, але неспадзяванае і моцнае пачуццё навязвае яму свае дзеянні. Матыў кахання па-свойму стылёва-эмацыйна афарбаваў структуру твора і наогул усю паэтыку.

У апавяданні "Два злоты" (1971) у дарозе аўтар - ён жа і герой-апавядальнік - згадвае маленства. Ён адчувае сваю віну перад дзедам, у якога трагічны лёс (згарэў у хаце, падпаленай немцамі), за тое, што не аддаў яму два злоты, знойдзеныя неяк на пыльнай дарозе ў хустачцы. Напэўна, яны былі дзедавы, і трэба было папытацца, каб вярнуць. У апавяданні напластавана шмат падзей, у іх уцягнуты многія вясковыя людзі, - адным словам, разгорнута мастацкая карціна, якая сцята, нібы жывой ніткай памяці, матывам глыбокага раскайвання. Прычым істотна з мастацкага боку тое, што перажыванні героя не ізаляваны на яго асобе, яны ўключаны ў кантэкст сацыяльнага побыту родных і знаёмых людзей, у выніку высноўваецца праўдзівае адлюстраванне ўсенароднай бяды ў заходнебеларускай вёсцы ў перыяд польскага гнёту і нямецкай акупацыі.

Апавяданне "Там, на хутары" (1969) - аб жахах апошняй вайны. Тут матыў трагедыі чорным ценем лёг на сюжэтна-кампазіцыйны лад. У летні спякотны дзень маладзіца з двума хлопчыкамі вядзе па дарозе на вяроўцы карову. Яна ўцякае з горада, дзе немцы, адступаючы, на адыход хапаюць моладзь, каб вывезці ў фашысцкае рабства. Маральна-псіхалагічнай апорай ёй служыць памяць пра мужа, якога, як кажа яна бабулі на хутары, яшчэ ў трыццаць дзявятым забралі на вайну недзе пад Беласток. Яна ўпэўнена, што муж змагаецца з фашыстамі. На хутары, дзе спынілася, каб перадыхнуць, сутыкнулася з п'янымі паліцаямі. У адным з іх, брудным і ачмурэлым ад самагонкі, пазнала свайго мужа, які намагаўся яе згвалціць. У парыве адчаю, баронячы сябе, дзяцей і бабулю, што адзінока жыла на хутары, яна забіла яго капачом у полі, дзе каласілася жыта…

Несумненна, як пісьменнік высокага таленту, Вячаслаў Адамчык глыбока адчуваў усю нетрываласць і неўладкаванасць нашага зямнога прыстанку. З гадамі такое адчуванне набывала эмацыйна-псіхалагічную вастрыню, яно трывожыла сэрца халоднай непазбежнасцю. Мінулае паўставала ў памяці ярка і клікала асэнсаваць у яго кантэксце асабістае, пададзенае ў повязі з агульналюдскім. Узнікла неадольная патрэба ў мастацкім уяўленні ўсвядомлена зразумець і адкрыць у вобразным слове, у чым сапраўдны сэнс і цана кароткага, як сполах бліскавіцы на летнім небе, чалавечага бытавання на вечна маладой і зялёнай зямлі. Найлепшая магчымасць - у канкрэтных вобразах землякоў, да якіх заўсёды цягнуўся ўсім сэрцам, праз мара-

льна-духоўныя каштоўнасці, якія яны спавядаюць у будні і свята. Гэтым тлумачыцца тое, што ў апавяданнях, якія адносяцца да 90-х гадоў мінулага стагоддзя, мастацка-эстэтычная функцыя дарогі і памяці больш выразная; яна ўсёй сілай мастацкай абагуленасці трансфармуецца ў вобраз, дзе ўсё больш канцэнтруецца сюжэтна-кампазіцыйнае дзеянне, яно часцей і часцей замыкаецца на асобе аўтара. Ён пастаянна звяртаецца да рэтраспекцый, каб праз іх уласцівасць з гадамі быць непрадузятым у ацэнках, глянуць у мінулае. У апавяданні "Маладніковая нядзелька" (1987) аўтар, ашаломлены нечаканай весткай аб смерці бацькі, зноў у дарозе - едзе ў родны дом, дзе жалобныя сустрэчы з вяскоўцамі і сваякамі. Матыў смутку дамінуе; ім агорнуты тры сустрэчы з блізкімі родзічамі - вясковымі кабетамі Аленай, Анютай і Верай. Успамінаючы, ён углядаецца ў іх лёсы, дзе і кароткія радасці і многія беды, якія, аднак, не аслабляюць імкненне да жыцця з яго звычайнымі і ў той жа час высокімі ў духоўнай вартасці праявамі. Не ўсё, што хацелася, у мітусні і ў горы ўдалося сказаць сваякам у час развітання з бацькам. Галоўнае ж у тым, што яшчэ раз у асяродку людзей, якія шчыра падзялілі яго смутак, зразумеў ісціну: спазнаваць сэнс і цану жыцця трэба ў лёсах сваіх землякоў.

Вобраз-функцыя дарогі і памяці кладзе асаблівa шчымліва-самотную акрасу ў апавяданні "Сцежка на расходніку" (1993). Яно выснавана з рэтраспекцый, якія накладваюцца на сённяшнія падзеі. Такое сумяшчэнне, якое патрабуе асаблівага майстэрства, рассоўвае часавыя рамкі дзеяння, робіць яго непарыўным у выяўленні жыццёвых перамен і абнаўлення. Аўтар звяртаецца ў памяці ў мінулае, у глыбокім задуменні ідзе да роднай вёскі па сцежцы, дзе, як і ў дзяцінстве, цвітуць сціплыя кветкі расходніку. Па той сцежцы, якая сталася дарогай у вялікае жыццё. Тут згадвае цётку Марылю і сям'ю Ігнася Варонкі. Драмы, якія яны перажылі, перадаюцца ў патоку падзей і з'яў новага часу, таму не ўспрымаюцца як фатальная непазбежнасць, за якой - бездань і тло. Там, дзе некалі быў хутар, на якім гаравала ўдава Марыля, высокая шапаткая зялёная бярэзіна гамоніць з небам. Дачка Ігнася, якую ён у парыве сляпой злосці хацеў утапіць у рэчцы, з'ехала ў Калінінград. Значыць, жыццё працягваецца ў новых праявах у бясконцасці новых кругоў.

У апавяданні "Сон у калядную ноч" (1995) пісьменнік вывеў трагічны ў сваёй будзённасці і між тым светлы ў сваёй духоўнасці вобраз маці. Яна, Стэфаніда, вясковая кабета, убачыўшы кепскі сон, адразу ж едзе ў горад да свайго няўдаліцы-сына Колі. Ён застаўся адзін у яе з пяці народжаных дзяцей. Муж памёр. Уся радасць і надзея ў жыцці - яе сынок. А ён, як падалося ў сне, учыніў у горадзе, куды

паехаў працаваць насуперак яе волі, нейкае вялікае кепства.

Дарога, якой едзе маці шукаць у горад сына, - гэта ў апавяданні святая дарога невынішчальнай любові; для яе не існуе ніякіх перашкод, бо яна, гэта любоў, - пачатак і вяршыня ўсяго існага на зямлі. У апавяданні вобраз-функцыя дарогі, якая ўспрымаецца як святыня, падымаецца да ўзроўню сімвала. Такая сіла мацярынскай любові.

У кожным сваім апавяданні Вячаслаў Адамчык вырашае адну творчую звышзадачу, якую паставіў перад сабою раз і назаўсёды, - перадаць у слове перажытае і пачутае, што змясціла ў сабе памяць пакаленняў: ад першых пасяленцаў на гэтай зямлі з часу, калі іх вачам адкрылася высока недасяжнае ў сваёй таемнасці неба, да сённяшніх землякоў, якія, як і іх продкі, у трывогах і надзеях, у болях і радасцях ладзяць сваё штодзённае жыццё. У пісьменніка памяць - не адцягнуты безаблічны знак, яна мае сваё канкрэтнае выяўленне ў асобах людзей, якіх добра ведаў. Яна вядзе, нібы чароўная ніць, ад мінулых стагоддзяў у нашу яву, расхінаючы ў сваіх водблісках лёсы простых сялян, у якіх - трэба толькі ўмець прачытаць - адлюстроўваецца гістарычны шлях нашага народа. У апавяданнях памяць - не проста вялікая скарбонка фактаў і падзей, якія збераглісся з мінуўшчыны, а найперш - духоўна-эстэтычная з'ява, яна выступае жывым сведкам, які ў пісьменніка ўжо для таго, каб у мастацкіх вобразах высвеціць праўду жыцця, якую ўсе героі спрабуюць спазнаць і сцвердзіць як самую вялікую каштоўнасць. Менавіта памяць адправіла аўтара ў дарогу, якая - дзе б ён ні знаходзіўся - клікала ў родныя мясціны пад засень бацькоўскай хаты. Заканамерна, што творчая дарога, выбраная з першых апавяданняў, па сваёй ідэйна-мастацкай сутнасці скіраваная на праўду жыцця, супала з жыццёвай дарогай, якая сваім духоўным вытокам мае бацькоўскі дом, тыя сцежкі маленства і дзяцінства, дзе і цяпер расце някідкая ў сваёй красе кветка расходнік. Яна, гэтая дарога, вывела ў шырокі свет сувязей і ўзаемін, у якіх пазнавалася дабро і зло, любоў і нянавісць; на гэтай дарозе, асвечанай памяццю, наканавана было ў мастацкім слове адкрываць сэнс і цану зямнога жыцця.

Пісьменнік, углядаючыся ў лёсы сваіх герояў у светлыя і трагічныя часіны, зыходзіў з таго, што ўсё існае мае сэнс і ўвасабленне ў паводзінах, учынках і дзеяннях людзей. У рэшце рэшт усё гэта кладзецца ў памяць сумнымі або радаснымі засечкамі. Яна, памяць, як мост з мінулага ў сёння і заўтра, дзе заключана часавая прастора нашага жыцця, якое перажываем у думках і пераасэнсоўваем не адзін раз, каб усвядоміць: для чаго на гэтай зямлі? Вакол нас няма нічога завершанага і адназначнага, нішто не мае каштоўнасці па-за сувяззю з сацыяльным і духоўным вопытам чалавека. Пастаяннае толькі

знікненне таго, што адцвіло і адкрасавала, і нараджэнне новага, якое нясе з сабою надзею і веру, - вось з гэтай ісціны складаецца простае ў будзённай дадзенасці і глыбокае ў філасофска-эстэтычным вымярэнні штодзённае жыццё герояў апавяданняў Вячаслава Адамчыка.

Важкі і значны творчы плён Вячаслава Адамчыка як апавядальніка. Яго празаічныя творы "малога" жанру - адметны набытак беларускай літаратуры. Лепшыя з іх ("Дзікі голуб", "Кароль Нябожа", "Два злоты", "Урок арыфметыкі", "Салодкія яблыкі", "Раяль з адламаным вечкам", "Хата") з'явіліся прадвеснікамі цыклу раманаў "Чужая бацькаўшчына" (1977), "Год нулявы" (1982), "І скажа той, хто народзіцца" (1985), "Голас крыві брата твайго" (1990).

## АЎТАР-АПАВЯДАЛЬНІК: АД САМАПАЗНАННЯ ДА САМАВЫЯЎЛЕННЯ (на матэрыяле апавяданняў "Сена на асфальце" і "Смаленне вепрука" Міхася Стральцова)

Сярод якасцей, што вызначылі месца прозы Міхася Стральцова ў беларускай літаратуры, выразна выяўляецца дамінанта, якая складае філасофска-эстэтычную сарцавіну яго мастацкай творчасці, - імкненне шматгранна раскрыць чалавека і яго духоўны свет праз вобраз аўтара-апавядальніка, які спазнае самога сябе. Такім чынам рэалізуецца прынцып адзінства рацыянальнага і пачуццёвага, абвастраюцца і паглыбляюцца эстэтычныя адносіны аўтара да рэчаіснасці. Які твор ні ўзяць, - ад першых апавяданняў да аповесці "Адзін лапаць, адзін чунь", - герой хоча ведаць: хто ён у сваім сацыяльным асяроддзі, які ў яго духоўны набытак, ці адпавядаюць маральна-этычным нормам яго дзеянні і ўчынкі? На гэтыя пытанні трэба знайсці адказы.

У апавяданні "Сена на асфальце" (1963) перад аўтарам-апавядальнікам, які ступіў на парог сталасці, жыццё паўстае ва ўсіх складаных і супярэчлівых праявах. Ён адкрыты і шчыры, бо хоча зразумець сябе і тых, хто побач. Ён, вясковы хлопец, узгадаваны на сялянскім маральным грунце, імкнецца да людзей і чакае гэткай жа непасрэднасці ў адносінах да сябе.

Віктар (так завуць героя і апавядальніка) у горадзе, дзе застаўся пасля вучобы ў інстытуце, адчувае сваю моцную сувязь з вёскай. Гэта выяўляецца ў тым, што ён неаддзельны ад яе ў сваіх успамінах і сённяшніх рэаліях, бо жыве побач з людзьмі, якія паходзяць з сялянскага асяроддзя.

Асаблівая душэўная блізкасць звязвае яго з дзядзькам Ігнатам, які ў свой час - з-за збегу абставін, а не па поклічы сэрца - перасяліўся з вёскі на гарадскі асфальт. Герой нібы ўглядаецца ў сябе, сумняваецца, вагаецца: а ці правільна я зрабіў? І гэта адбываецца часцей за ўсё тады, калі агортвае роздум-успамін, у якім выяўляецца ўся глыбіня перажыванняў, мараў і надзей. У іх асэнсоўваецца яго месца ў імклівай плыні часу, якая нясе з сабой новыя павароты ў жыцці.

Каб надаць дзеянням асаблівую эмацыйна-псіхалагічную даверлівасць, аўтар-апавядальнік звяртаецца да такой формы арганіза-цыі мастацкага тэксту, як перапіска. У апавяданне ўключаны тры лісты, якія ўтвараюць адметную сюжэтна-кампазіцыйную структуру. Аўтарамі пісьмаў з'яўляюцца людзі, з якімі ў Віктара асаблівыя адносіны, а гэта значыць, самая вялікая ступень даверу, што дазваляе раскрыць патаемныя закуткі душы.

Лінія ўзыходжання Віктара па жыццёва-побытавых прыступках да духоўнага самапазнання - гэта лінія сталення, якое праходзіць у атмасферы самааналізу і самаацэнкі. Да аўтара-апавядальніка паступова прыходзіць разуменне, што жыццё складаецца з маленькіх і вялікіх ісцін, і з гэтых ісцін фарміруюцца глыбінныя сацыяльна-духоўныя асновы жыцця. Многае Віктару адкрылася з пісьма Лены, на якім ляжыць сур'ёзная пячатка роздуму над іх адносінамі, а па вялікім рахунку - над каштоўнасцямі жыцця. Мы іх часам успрымаем неасэнсавана, разумеем як нейкую дадзенасць, быццам не трэба за гэта змагацца, бо яно само да нас прыйдзе, як кожная новая раніца. Лена тонка і даверліва даводзіць, што ўсё ў жыцці мае сваю ацэнку, і радасць, да якой мы ўсе імкнёмся, даецца няпроста, бо яна не існуе асобна ад журбы. Усё гэта трэба ўмець заўважаць сэрцам, як і любыя праявы жыцця, што ўплываюць на адносіны паміж людзьмі.

Ліст Лены падштурхнуў Віктара заглыбіцца ў тыя з'явы, якія на першы погляд нічога не значаць. Калі Лена перабірае эпізоды іх стасункаў, шчаслівых і ў той жа час няроўных, бо яны выпрабоўваліся рэўнасцю, то перад намі не проста душэўныя перажыванні чалавека, які спазнае ўсю слодыч і драму кахання. Гэта своеасаблівае люстэрка, у якім бачацца духоўна-маральныя калізіі асобы, што хоча ведаць цану самой сабе. У лісце зусім не камерная танальнасць: гэта не проста "самакапальніцтва", гэта новае асэнсаванне каштоўнасцей, на якія арыентуецца герой. Пісьмо Лены дапамагло Віктару паглыбіць разуменне таго, што такая каштоўнасць, як сапраўднае каханне, - гэта найперш вялікая праца душы, цнатлівая ў сваёй маральнай аснове. Каханне дае крылы, каб пераадолець заземленасць жыцця, прытым не парываючы з яго сацыяльна-побытавай сутнасцю.

Імкненнем спазнаць цану сапраўднага сяброўства пазначаны

ліст Віктара да свайго сябра. Аўтар-апавядальнік з хваляваннем перагортвае гады свайго таварышавання. Успаміны пра школу, пра захапленні і вучобу - гэта аснова таго духоўнага грунту, які і цяпер дае апору. Асабліва дарагімі вымалёўваюцца згадкі пра мацярок, сціплых вясковых кабет, якія засталіся без мужоў, што пайшлі на фронт біцца з ворагам. Нішто не магло азмрочыць чыстую дружбу Віктара, нават тое, што бацьку яго сябра абвінавацілі ў тым, што ён быў у палоне, - значыць, здраднік. Уся істота Віктара пратэставала: такога не магло быць, у гэта нельга верыць. Як аказалася, сябраў бацька сапраўды не быў здраднікам. Вера стала вялікім маральным выпрабаваннем і набыткам для юначага сэрца.

Шчымліва-трапяткой журбой вее ад ліста дзядзькі Ігната да сваіх аднавяскоўцаў - Андрэя і Куліны. Чалавек, якога паварот лёсу вынес насуперак волі са звыклага вясковага асяроддзя на чужы яму гарадскі асфальт, шкадуе, што давялося развітацца з родным гняздом. Ён спадзяецца, што яшчэ вернецца ў вёску, бо там карані, там яго думкі і душа. Ён гатовы працаваць у лясніцтве: каб толькі на роднай зямлі, каб прыносіць карысць людзям.

Ліст дзядзькі Ігната абвастрыў спрэчку аўтара-апавядальніка з самім сабой. Ён, вясковы хлопец, які ўсёй душой там, дзе маці, родная школа і гады маленства, хоча прымірыць вёску з горадам. Хаця б для сябе. Наіўна? Як сказаць. Такая, відаць, псіхалогія чалавека, які з аднаго асяроддзя, дзе знаходзяцца яго духоўна-сацыяльныя карані, трапляе ў іншае, якое толькі асвойваецца. У ім і мулка яшчэ, і апоры мала, і перспектыва не зусім акрэсленая. Як бы нейкае раздарожжа. Таму невыпадкова Віктар прымае запрашэнне дзядзькі Ігната раніцай касіць газоны на гарадской плошчы. Як і ў мінулыя часы на вёсцы, ён бярэ ў рукі касу, адразу адчувае сябе чалавекам, які ведае паэтыку і псіхалогію сялянскай працы.

Ці прынцыповай была спрэчка аўтара-апавядальніка з самім сабой? Пытанне адпала, калі Віктар без ваганняў пагадзіўся пайсці на сенакос з дзядзькам, які ў пэўнай ступені выступае для яго носьбітам самых лепшых сялянскіх якасцей. Побач з ім здымаюцца супярэчнасці, якія здаюцца значнымі і важнымі, побач з ім становішся мудрэйшым, бо разумееш, што жыццё трэба прымаць ва ўсіх яго складанасцях. У ім няма нічога другараднага: тут і шум начнога дажджу, і водбліскі маланкі на небе, і цяпло шчырага сяброўства, і салодкія імгненні першага пачуцця. Калі ацаніць усё гэта, многія пытанні, што гнятуць чалавека, будуць успрыняты як выяўленне самой рэчаіснасці, напоўняцца новым сэнсам і логікай.

Сена на асфальце… Такая ёмістая метафара натуральна, сама па сабе, склалася ў думках аўтара-апавядальніка. У ёй заключаны

агромністы духоўны свет чалавека, які нарэшце знайшоў паразуменне, і не толькі з сабой. Цяпер ён глыбей усвядоміў, як трэба жыць далей, бо праз лісты і сяброўства з дзядзькам Ігнатам адкрыў для сябе простыя і ясныя ісціны. З іх і складаецца шчасце. Таму і адчуваецца цвёрды грунт пад нагамі, а ў душы - гармонія з навакольным светам.

Складаны і супярэчлівы працэс самапазнання, які стымулюе духоўнае сталенне, - гэта вызначальная рыса, уласцівая аўтару-апавядальніку ў творах Міхася Стральцова. Па вялікім рахунку, гэта своеасаблівае ўзыходжанне на вяршыню мастацкай творчасці. З яе адкрываюцца новыя далягляды ў маральна-эстэтычных інтэнцыях героя. У дастасаванні да аўтара-апавядальніка - гэта паглыбленне ў свой духоўны свет, гэта новае самавыяўленне ў вобразным слове для далейшага асваення тэмы чалавека. У цэлым шэрагу апавяданняў ("Блакітны вецер", "Добрае неба", "Свет Іванавіч, былы донжуан") пісьменнік паўстае ў вобразе аўтара-апавядальніка, які нястомна шукае сябе, хоча дакладна ведаць сваё месца сярод іншых, каб не проста ўзварушыць нешта інтымна-асабістае, а каб з большай карысцю дапамагаць людзям, якія жывуць побач. Такая яго сацыяльна-эстэтычная арыентацыя.

Гэтая дамінанта - не паўтор аднастайнасці, як можа падацца на першы погляд. Выразна адчуваецца, што аўтар-апавядальнік заглыбляецца ў маральна-этычныя ацэнкі сваіх сувязей і адносін з людзьмі, ён дэманструе тонкія назіранні, за якімі стаяць узважаныя эмацыйна-псіхалагічныя рэфлексіі.

Заканамерна, што ў апавяданні "Смаленне вепрука" аўтар-апавядальнік паўстае перад намі ў вобразе чалавека, які ўжо ў многім спазнаў сэнс і цану такіх каштоўнасцей, як каханне і дружба, вернасць самому сабе, гэта значыць, мае цвёрды сацыяльна-духоўны вопыт, за якім стаіць веданне жыцця і нястомнае імкненне спасцігнуць яго ў новых і новых праявах, каб перадаць у вобразным слове. Гэта той пункт апоры або духоўная вышыня, калі самарэалізацыя становіцца найлепшым станам душы, яе першай патрэбай.

Так нараджаюцца такія творы, як апавяданне "Смаленне вепрука", якія нясуць на сабе - ад першага да апошняга радка - самы глыбокі адбітак асабістага. Для іх не характэрна камернасць гучання, яны раскрываюць саму субстанцыю мастацкага асэнсавання ўсёй складанай сутнасці духоўнага жыцця чалавека.

У апавяданні "Смаленне вепрука" галоўны інструмент, з дапамогай якога аўтар-апавядальнік раскрывае сябе, - гэта слова, мастацкае слова. Яно вядзе да самых патаемных сховаў сэрца. Але тут няма і намёку на аўтазію, якая звязана з пэўнай эмацыйна-псіхалагічнай самаізаляцыяй. Наадварот, аўтар-апавядальнік паглыблены ў свае

думкі і пачуцці, не адстаронены ад рэчаіснасці; існуюць тысячы жывых тонкіх ніцей, выснаваных з успамінаў, якія ўзнаўляюць гады дзяцінства і юнацтва, адносіны з роднымі і сябрамі. Ён хоча разгарнуць слова "ўглыб і ўшыркі", калі яго лексічнае значэнне набывае дадатковыя сэнсава-сімвалічныя значэнні, якія перадаюць самыя няўлоўныя зрухі ў адчуваннях і настроях. Слова становіцца надзіва празрыстым. У ім адкрываецца тое, што непадуладна зрокаваму ўспрыманню, - быццам заглядваеш за лінію гарызонту: там таямніца, якая будзе бясконца вабіць і трывожыць. Можна толькі ўявіць або здагадацца, што там яшчэ толькі нараджаецца лёгкая аблачынка, якая, злавіўшы лёгкі ветрык, неўзабаве выплыве разам з сонцам, каб абвясціць пачатак новага дня. Заясніцца цёплая далячынь, стануць выразнымі абрысы сасновага лесу, загучыць першы спеў яшчэ заспанай птушкі і пачуецца ціхае булькатанне бруістай ручаіны.

Аўтар-апавядальнік нітуе ўражанні-ўспаміны, афарбаваныя яго асабістымі суб'ектыўнымі пачуццямі, светлымі і чыстымі, быццам іх і не кранулі гады. Праплывае ў згадках малюнак раніцы, калі ў вёсцы свяжуюць вепрукоў. Прычым кожны яе штрых і дэталь выпісаны быццам акварэллю - так дакладна перадаюцца самыя тонкія адценні адчуванняў удзельнікаў таго традыцыйнага дзейства. Нібы на дотык успрымаюцца малюнкі прыроды, густа насычаныя колерамі і гукамі, прасторавымі формамі. Так дакладна перададзены яе перадзімовы стан. Быццам аўтару дадзена нейкае звышнатуральнае чуццё, каб аэнсавана перадаць і здранцвенне дрэў, і маўчанне травы.

Аўтар дасягае высокай - наколькі гэта магчыма ў мастацкім слове - ступені асэнсавання і раскрыцця свайго ўнутранага "я". У адносінах да блізкіх - ніякіх дэкларацый і клятваў у дружбе і палкім каханні; калі выснoўваецца споведзь-успамін, то для таго, каб лепей пранікнуць у духоўна-эмацыйныя глыбіні, дзе на ўзроўні падсвядомасці раптам успыхне, бы след бліскавіцы, адно-адзінае слова, за якім разгорнецца духоўны свет чалавека, што хоча самавыяўлення ў вобразе то вясковага хлопчыка, які выпраўляецца ў жыццёвую дарогу, то мужчыны, што ўжо ведае ласку жаночага сэрца. Ён у злагадзе з сябрамі, шануе маці, яму блізкае ўсё, што трывожыць і хвалюе кожнага чалавека.

Вядома, дарэмным аказаўся неспакой аўтара-апавядальніка, каб усё з таго, што адчулася яму, не згубіла свой сэнс і логіку ў напісаным. Ён здолеў ажыццявіць галоўнае: у вобразах, узятых са свайго жыцця, апісанага ў роздуме-ўспамінах і ўражаннях-згадках, раскрыў сваё светаўспрыманне і светаразуменне, пры гэтым стварыўшы вобраз чалавека, які нястомна шукае і адкрывае простыя і высокія ісціны зямнога існавання.

# З М Е С Т



Наша слова

31-я Усебеларускія Дзяды

Дзяды ў Лошыцы

Дзяды ў Віцебску

*Падпісны індэкс: 63865*

# Сайт газеты “Наша слова”




*nslowa.by*

